№ 21 (283) 7 чэрвеня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА





# А хто там ідзе?

## *Ад прыватызацыі Магілёўскага заводу штучнага валакна патыхае афёрай*

У прэсе прайшла інфармацыя: Магілёўскі завод штучнага валакна, буйны вытворца віскозных валокнаў, поліпрапіленавай і поліэтыленавай плёнкі, можа стаць першым прадпрыемствам беларускай нафтахіміі, якое купіць нерасейскі капітал. Заводам зацікавілася фірма *"United Technology Corporation" (UTC)*. Апроч уласнай вытворчасьці, яна мае вялізныя сувязі з найбуйнейшымі ягонымі трэйдэрамі. Доля *UTC* на сусьветным рынку віскозных валокнаў складае 8%, а сама гэтая фірма швайцарская — так пісалі газэты. Крыніцаю гэтых зьвестак стала Міністэрства эканомікі. А яно атрымала іх ад самой кампаніі.

Прыватызацыйная актыўнасьць у Магілёве супала з прызначэньнем новага мэра — В.Шорыкава. Рашэньне пра вылучэньне МЗШВ са складу магілёўскага аб'яднаньня "Хімвалакно" прыняў асабіста А.Лукашэнка падчас свайго візыту ў Магілёў у сакавіку гэтага году. Да красавіка бакі падрыхтавалі рамкавы праект інвэстыцыйнага пагадненьня. Як ні дзіўна, швайцарцы аказаліся больш згаворлівымі, чым якая-небудзь "Балтыка": у адпаведнасьці з праектам інвэстар выказаў гатоўнасьць і сацыяльную сфэру падтрымліваць, і павялічыць колькасьць занятых на вытворчасьці.

Па вытворчасьці штучных валокнаў і нітак на душу насельніцтва ў сярэдзіне 90-х Беларусь была на 4-м месцы ў сьвеце, у паўтара разу пераўзыйшоўшы паказьнікі ЗША і Японіі. Мы выпраблем у 500 разоў больш гэтай прадукцыі, чым Расея.

Пры гэтым МЗШВ — стратнае прадпрыемства. Прадпрыемства завінавацілася пад 20 млн. даляраў, і сплаціць гэтыя даўгі сёньня няма чым. Сытуацыя ўскладняецца штогод. У заводу няма грошай, каб замяніць састарэлае абсталяваньне і выраблядь канкурэнтаздольную прадукцыю.

Асноўная прадукцыя заводу, віскозныя ніткі, толькі на 10% спажываецца ўнутраным рынкам. Рэшта ідзе на экспарт. З розных прычынаў у краінах былога Саюзу рынак для беларускіх штучных нітак адсутнічае.

Спробу мадэрнізаваць вытворчасьць поліэтылену зрабілі ў 1997 г., закупіўшы новую лінію для вытворчасьці поліпрапіленавай плёнкі ў нямецкай фірмы "Брукнэр". Крэдыт на закупку — 24,8 млн. дойчмарак — выдаў нямецкі банк "Гермэс". Меркавалася, што з улікам бурнага разьвіцьця харчовай прамысловасьці праект акупіцца недзе за чатыры-пяць гадоў, а надалей прадпрыемства будзе мець па 5 млн. даляраў прыбытку. Але пакупнікоў на плёнку для пакаваньня харчовых прадуктаў знайшлося мала, і праект праваліўся. Шмат хто перакананы, што сапраўднай прычынай гэтага сталася кепская праца маркетынгавых службаў. За мінулы год нерэалізаванымі засталіся 66% прадукцыі.

Цяперашнія патрэбы заводу ў інвэстыцыях на абнаўленьне вытворчасьці складаюць мінімум 14 млн. даляраў. Іх і прапанавала швайцарская фірма UTC, якая дэклеравала таксама гатоўнасьць узяць на сябе пазыкі па крэдыце перад банкам "Гермэс".

Пра пэрспэктывы прыватызацыі гаварыць зарана, бо яшчэ невядома, якім будзе ейны мэханізм. Разглядаліся два варыянты. Згодна з адным, завод павінны былі здаць у бязвыплатную канцэсію на 7—10 гадоў. Другі шлях больш традыцыйны — акцыянаваньне і продаж кантрольнага пакету акцый. Аднак абодва варыянты павісьлі ў паветры. Урад прапануе UTC цягам 3—5 гадоў укладаць сродкі ў прадпрыемства, садзейнічаць продажу ягонай прадукцыі і толькі потым вярнуцца да тэмы ўласнасьці.

Затое выяўляецца іншыя — проста таямнічыя рэчы. Аўтары гэтых радкоў паспрабавалі адшукаць інтэрнэт-сайт кампаніі, якая нібыта "кантралюе 8% сусьветнага рынку". Такога не аказалася. Тады мы паспрабавалі адшукаць гэтую швайцарскую фірму ў бізнэс-каталёгах гэтае краіны. У даступных праз Інтэрнэт не адшукалі. Няма яе і ў тэлефонных даведніках Швайцарыі.

Прадстаўнікі фірмы UTC ад кантактаў з журналістамі "НН" адмовіліся. Але прызналі, што сайту кампаніі ў Інтэрнэце сапраўды няма. На самім МЗШВ журналістаў проста палохаюць.

Дарадца прэзыдэнта канцэрну "Белнафтахім" па сувязях з грамадзкасьцю Віктар Азараў паведаміў, што ў канцэрне зьвесткі пра кампанію маюць, але па просьбе кампаніі інфармацыі не даюць у прэсу.

Супрацоўнікі МЗШВ, якія ня хочуць, каб іх імёны называліся, паведамілі нам: на заводзе ходзяць чуткі, што фірма на самой справе не швайцарская, а украінска-швайцарская. Калі так, дык было б ясна, чаму мы так і не знайшлі яе сьлядоў у Швайцарыі. "Гэта так?" — спыталіся мы В.Азарава. Не, — адказаў ён. — У кампаніі UTC ёсьць акцыі на адным з прадпрыемстваў Украіны, адсюль, магчыма, і чуткі.

Што ж за сакрэтная такая транснацыянальная карпарацыя, якая займаецца "вытворчасьцю і рэалізацыяй віскозных нітак"? Што хаваецца за ўсім гэтым?

На прадпрыемства ідзе ўкраінскі, а не заходні капітал? За кампаніяй UTC стаіць нейкі расейскі дзерыпаска? Ці мы маем справу проста зь вялікім круцельствам? Чаму дзяржаўныя структуры распаўсюджваюць інфармацыю пра кампанію, якая, мякка кажучы, не да канца адпавядае рэчаіснасьці? Проста непрафэсійнасьць? Ці наўмыснае жаданьне стварыць выгляд, што да нас ідзе ня толькі расейскі, але і заходні капітал?

Працяг на старонцы 6.



IREX-PROMEDIA

Гэтыя "камандас" — ня натаўцы, а наш спэцназ. Фота зробленае на вучэньнях "Бярэзіна-2002". А першыя супольныя вучэньні Беларусі й NATO заплянаваныя толькі на 2004 г. Яны пройдуць на тэрыторыі Беларусі. Вайсковыя часьці будуць адпрацоўваць схемы дзеяньняў у выпадку радыяцыйнае пагрозы. Заява кіраўніка Беларусі пра гатоўнасьць да збліжэньня з Паўночнаатлянтычным альянсам зрабіла сэнсацыю ў Расеі і на Захадзе. Ці зьмянілася ў Беларусі стаўленьне да NATO пасьля заявы Аляксандра Лукашэнкі? Старонка 6.

апытаньне "НН"

# Рыбакова — у адстаўку?

**Беларусь — адна з 11 краінаў (Вануату, Кіргізія, Латвія, Малдова, Науру, Саламонавы астравы, Таджыкістан, Туркмэністан, Узбэкістан, Філіпіны), якая не купіла праваў на трансьляцыю мундыялю. Белтэлерадыёкампанія спадзявалася вырашыць гэтую праблему ў звыклы спосаб: "скрасьці карцінку" на якім расейскім канале. Думалі, што расейцы ня знойдуць тэхнічных магчымасьцяў перакрыць сыгнал. А расейцы мажлівасьць адшукалі.**

**Ва ўсім сьвеце гучныя скандалы такога кшталту выклікаюць адстаўку віноватага. У гэтым выпадку няўзброеным вокам можна ўбачыць віну кіраўніцтва Беларускага тэлебачаньня. Пытаньне "НН": ці мусіць кіраўнік тэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў пайсьці ў адстаўку?**

**Уладзімер Парфяновіч, вясьляр, трохразовы алімпійскі чэмпіён, дэпутат палаты прадстаўнікоў:** Чаму толькі Рыбакоў? Нашая краіна стала горшай за Гандурас: нават пры камуністах футбол глядзелі.

**Уладзімер Кавалёнак, касманаўт:** Паколькі беларускай зборнай на чэмпіянаце няма, дык, магчыма, кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі зрабіла і правільна: паказ чэмпіянату — дарагое задавальненьне. Нават у Савецкім Саюзе паказвалі ня ўсе эўрапейскія чэмпіянаты... Лепей на гэтыя грошы пабудаваць яшчэ адзін дом.

**Алесь Ліпай, дырэктар інфармацыйнага агенцтва БелаПАН:** Калі ён футбольны заўзятар — то павінен, калі не — то не.

**Генадзь Бураўкін, паэт:** Рыбакоў павінен пайсьці ў адстаўку не з-за чэмпіянату, а з-за таго, што зрабіў тэлебачаньне нецікавым, эпігонскім. Я лічу, што скандал вакол чэмпіянату — адна з праяваў непрафэсіяналізму і пагарды да гледачоў. Яны не глядзяць, што людзям трэба, а што не. Глядзяць толькі на начальства.



Ягор Рыбакоў

**Юры Беленькі, намесьнік старшыні КХП-БНФ, заўзяты футбаліст:** Пры чым тут выканаўца чужой волі? У дзяржаве створаная сыстэма ўлады, калі старшыня тэлерадыёкампаніі, як і іншыя чыноўнікі, выконвае чужыя загады. Яны не распараджаюцца грашыма і не вызначаюць прыярытэтаў.

**Віталь Скалабан, гісторык:** Ня думаю, што Рыбакоў мусіць сысьці ў адстаўку, хоць ён і не спраўдзіў надзеяў нашых заўзятараў.

**Андрэй Саньнікаў, каардынатар Хартыі'97:** Так. Разам з Лукашэнкам.

**Аляксандар Старыкевіч, галоўны рэдактар прафсаюзнай газэты "Беларускі час":** Ня бачу падставаў для адстаўкі Рыбакова. Хіба ў нас адбываюцца нейкія масавыя акцыі пратэсту? Пара соцень чалавек — мала для двухмільённага гораду. Грамадзтва ўспрыняло ўсё спакойна.

**Дзяніс Носаў, тэлеэжысэр:** Лепш бы ён даўно сышоў у адстаўку, бо ўся дзейнасьць Рыбакова на пасадзе кіраўніка тэлерадыёкампаніі вельмі непрафэсійная.

**Васіль Шлындзікаў, Аб'яднаная грамадзянская партыя:** Каб Рыбакоў пайшоў у адстаўку сам, гэта было б шчыра. Але гэта ня ў стылі сёньняшняга чынавенства.

**Апытваў Адам Воршыч**

## Мальцаў у NATO...

**Міністар абароны Леанід Мальцаў не выключае ўдзелу замежных вайсковых злучэньняў у манэўрах беларускіх вайскоўцаў.** "Часы мяняюцца, — сказаў генэрал, — і, калі нам сёньня выгадна сябраваць з NATO, мы будзем зь ім сябраваць, у прыватнасьці, разьвіваць дачыненьні ў вайсковай сфэры".

## 900-я ўгодкі Эўфрасіньні

**У Полацку 5 чэрвеня адзначылі 900-я ўгодкі з дня нараджэньня сьвятой Эўфрасіньні.** На фэст прыбыло мноства паломнікаў. Мошчы сьвятой вынесілі з царквы Сьвятога Спаса, якая не зьмяшчала ўсіх ахвотных да іх прыпасьці. Кіраўнік віцебскай вэртыкалі Уладзімер Андрэйчанка і мэр Полацку Уладзімер Тачыла былі ўганараваныя з нагоды царкоўным ордэнам сьвятой Эўфрасіньні.

камэнтар рэдакцыі

# Брава, цэнзар!

Прэм'ер Навіцкі стварыў камісію, мэта якой — "упарадкаваньне правядзеньня сацыялягічных апытаньняў, што адносяцца да рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, выбараў прэзыдэнта, дэпутатаў нацыянальнага сходу і грамадзка-палітычнай сытуацыі ў краіне, павышэньне іх навуковай верагоднасьці і аб'ектыўнай ацэнкі грамадзкае думкі". Мяркуецца, што ўсе сацыялягічныя службы павінны будуць прад'яўляць у камісію інфармацыю пра апытаньні і іх замоўнікаў. Прэм'ер Навіцкі, дасягнуўшы вялікіх посьпехаў у пераводзе Беларусі на расейскую валюту, устанаўляе цэнзуру на сацыялягічныя апытаньні і іх вынікі. Брава, цэнзар! Толькі такія рашэньні могуць гарантаваць падзяку зьверху і пападаньне ў гісторыю.

# з усёй краіны

## Будуць судзіцца з “Рэспублікай”

**Жыхары вёскі Дзягавічы (Крычаўшчына) будуць бараніць у судзе свае гонар і годнасьць, закранутыя газэтай “Рэспубліка”.** Дзягаўцы лічаць, што журналіст Уладзімер Дубавік у артыкуле “Крычаўскія земляробы зьбіраюцца ўсіх зьдзівіць” (“Рэспубліка” ад 21 сакавіка) абразіў гістарычную памяць іхных продкаў.

Паводле Дубавіка, дзягаўцы ня ўмеюць і не жадаюць працаваць ад часоў расейскага цара Пятра I, калі ў іхнай вёсцы жылі катаржнікі ды іншыя асацыяльныя элемэнты. Таму, маўляў, і збанкрутаваў сёлета калгас “Дзягавічы”. Не згадзіўшыся з такімі высновамі, 50 вяскоўцаў даслалі ліст у рэдакцыю “Рэспублікі” з патрабаваньнем абвергнуць інфармацыю хоць бы на той падставе, што ў часы Пятра I Дзягавічы былі часткай іншай дзяржавы — Рэчы Паспалітай і, адпаведна, там не маглі жыць расейскія катаржнікі. Пакрыўджаныя вяскоўцы напісалі, што яшчэ нядаўна ўраджаі ў іхным калгасе складалі ня меней за 30 цэнтнэраў з гектару, што яшчэ сёньня сярод іх жыве каля 130 чалавек, якія маюць урадавыя ўзнагароды, што Дзягавічы — гэта старажытная, з прыгожымі традыцыямі і працавітымі жыхарамі вёска і што яны проста сталі закладнікамі лёсу.

Але ні адказу, ні абвяржэньня няма дасюль. Цяпер ідзе падрыхтоўка да судовага працэсу.

## Мэтэарыт вывучаюць

**Як ужо пісала “НН”, на Крычаўшчыне ў мінулым месяцы зваліўся паўкіляграмовы мэтэарыт.** На тым тыдні аглядаць яго і браць пробы прыяжджалі прадстаўнікі Расейскай акадэміі навук. Сам нябесны “госьць” знаходзіцца ў Крычаве, у старшыні райвыканкаму Івана Пракопава. У Беларусі грам мэтэарыту каштуе ў сярэднім даляр, а на Захадзе — як мінімум у 10 разоў даражэй.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Комплекс на Лысай гары

**На Лысай гары, непадалёк ад Шклова, адбылося адкрыцьцё турысцка-экскурсійнага комплексу.** Там пабудаваныя вартавая і глядзельныя вежы, гасьцявыя галерэі ў стылі народнага драўлянага дойлідзтва, сцэна для выступаў, рэстарацыя, домікі, абсталяваныя камінамі і мэбляй. У разьмешчаным побач барку вымашчаныя пешаходныя сьцежкі. А побач месьціцца ніжнінскі роў, у якім назіраецца выхад на паверхню міжледавіковых глебаў. Радыевугляродны аналіз абломкаў драўніны засьведчыў, што іхны век — больш за 50 тысячаў гадоў.

Новы комплекс працуе штодня — тут ладзяцца масавыя і індывідуальныя мерапрыемствы, у тым ліку вясельлі і дні народзінаў.

**“Ударны фронт”, Шклоў**

## За малако – “натурай”

**На Бялыніччыне вяскоўцы неахвотна здаюць малако дзяржаве, бо закупачная цана зьнізілася, дый разьлічвацца зь імі зьбіраюцца не грашыма, а наяўным таварам.** Райвыканкам у адказ стварыў тры групы з адказных асобаў, якія мусяць пераканаць вяскоўцаў.

Адна з такіх групаў днямі наведала саўгас “Эсьмоны”. Сустрэча зь людзьмі праходзіла вельмі нэрвова. Вяскоўцы наракалі на затрымку заробкаў і далі зразумець, што здаваць малако ня будуць.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

## Мядзьведзі ідуць

**На мінулым тыдні па тарфяніку ля вёскі Багушы прайшоў мядзьведзь.** Па адбітках лапаў (16 см ў даўжыню) выходзіць, што зьвер надта ж вялікі. Невядома, як жывёла апынулася пад Баранавічамі: водзяцца бурыя мядзьведзі толькі ў Бярэзінскім запаведніку й на Віцебшчыне.

## Загарэўся аўтобус

**Аўтобус “КАВЗ-685” загарэўся на Баранавіцкім заводзе санэлектразагатовак.** Два ахоўнікі заводу, якія спрабавалі патушыць яго, моцна абпалілі твары і рукі.

## Шэсьце на дзень Божага цела

**У нядзелю ў Баранавічах адбылося шэсьце ў гонар сьвята Божага цела.** Больш за 2000 вернікаў прайшлі ад касьцёлу Маці Божай Фацімскай, што ў Паўночным мікрараёне, да касьцёлу Ўзвіжаньня Сьвятога Крыжа ў цэнтры гораду. Кожныя 1—2 кілямэтры людзі прыпыняліся ля часовых алтароў і маліліся. Міліцыянты суправаджалі калёну, перапыняючы на яе шляху аўтамабільны рух.

**Руслан Равяка, Баранавічы**

## Крадуць коней

**Трох канакрадаў затрымала міліцыя ў Аршанскім раёне.** За апошнія месяцы тыя некалькі разоў выяжджалі ў вёскі Сьветачоўка, Раманаўка і Бабінічы ды кралі на фэрмах коней. “Жывы тавар” перапраўляўся магілёўскім цыганам і збываўся па цане, утрая меншай за дзяржаўную.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

## Лес гарыць

**За вясну ў Смургонскім раёне адбылося 39 лясных пажараў, у выніку якіх згарэла 17 га лесу.** Большая частка здарэньняў адбылася з-за таго, што людзі любяць падпальваць сухую траву, не зважаючы на тое, што гэтая забава — адміністрацыйнае парушэньне.



IREX-PROMEDIA

**Гаспадары Курапатаў зьмяняюць статус на гасьцей. 250-дзённая вахта-абарона Курапатаў закончылася. Чаму? Калі ўрочышча — праўдзівы агмень нацыянальнага станаўленьня, дык завяршэньне разбудовы ўчастку зусім не нагода спыняць подзьвіг. Якую місію моладзь лічыць завершанай? Ці ёсьць нязгодныя сыходзіць з Курапатаў? Ці гэта быў не высокі чын, а ўтылітарная акцыя? Поўная таямніца.**

Газэта “Беларускае слова”, што выдаецца ў Таронта (Канада), павялічыла свой аб’ём да 12 старонак. Віншуем, калегі.




## Бежмаваньне

**У Смургоні прыяжджаў біскуп Гарадзенскай дыяцэзіі Аляксандар Кашкевіч.** Мэта візыту — бежмаваньне, калі вернікі атрымліваюць другое імя, выбранае па каталіцкіх сьвятках. Біскуп Аляксандар бежмаваў 200 вернікаў.

## Здымаецца кіно

**У Гальшанах здымаецца кіно.** Больш за 100 чалавек — артысты і здымачная група — жывуць у мясцовым гатэлі. Папярэдняя назва карціны — “Лялька”, рэжысэр — Зьміцер Зайцаў. Акрамя беларускіх зорак Анатоля Коценева і Генадзя Аўсяньнікава ў фільме здымаецца расейскі артыст Яўген Сядзіхін (“Бандыцкі Пецярбург”, “Расейскі транзыт”, “Мама, не бядуй”). Кажуць, запрашалі Сяргея Бадрова, але ганарар аказаўся замалы.

## Ікона заплакала

**У смургонскай Спаса-Праабражэнскай царкве — цуд.** Заплакаў абраз Багародзіцы, перад якім звычайна моляцца ад алькагалізму. Два гады таму ён таксама плакаў, а п’яніцы ўсё п’юць і п’юць.

**Т.Скарынкіна, “Новая газета Смаргоні”**

## Зальюць салярку

**На Бярозаўскім мотарамонтным заводзе пачалі ставіць на грузавікі замест бэнзынавых дызэльныя рухавікі — збольшага трактарныя.** Эканоміі ад гэтага — удвая й болей.

**І.Хведаровіч, Берасьце**

## Купляйце “НН” у шапіках “Белпошты” ў Менску:

| | |
|---|---|
| Шапік № 4 | вул. Прытыцкага, 17 |
| Шапік № 5 | пр. Скарыны, 50 |
| Шапік № 6 | пр. Партызанскі, 8 |
| Шапік № 8 | пр. Скарыны, 10 |
| Шапік № 11 | пр. Скарыны, 55 |
| Шапік № 12 | стадыён “Дынама” |
| Шапік № 13 | пр. Скарыны, 44 |
| Шапік № 14 | пр. Скарыны, салён “Фантазія” |
| Шапік № 15 | пр. Пушкіна, 36 |
| Шапік № 16 | пр. Газэты “Известия”, 102 |
| Шапік № 17 | пр. Скарыны, 117 |
| Шапік № 18 | пр. Партызанскі, 49 |
| Шапік № 19 | вул. Ташкенцкая, 16 |
| Шапік № 20 | вул. Рафіева, 94 |
| Шапік № 22 | вул. Ясеніна, 12 |
| Шапік № 29 | пр. Партызанскі, 107 |
| Шапік № 35 | бульвар Шаўчэнкі, прып. “Кінатэатар “Кіеў” |
| Шапік № 36 | вул. Варвашэні, 76 |
| Шапік № 40 | пр. Партызанскі, 6 |
| Шапік № 41 | пр. Ракасоўскага, 145 |
| Шапік № 44 | скрыжаваньне вуліц Варвашэні і Куйбышава |
| Шапік № 45 | вул. Багдановіча, 153 |
| Шапік № 46 | вул. Арлоўская, 9 |
| Шапік у фае галоўпаштамту | пр. Скарыны, 10 |
| Шапік на аддзяленьні сувязі № 21 | пр. Партызанскі, 107 |

*У шапіках “Белпошты” таньней — 340 РУБЛЁЎ!*

# навіны гаспадарскія

**БЕЛАРУСЫ ЗЬЕЛІ**, у параўнаньні зь мінулай вясной, болей крупаў, макароны, рыбы, маянэзу і садавіны. Затое сёлета ў краіне спажываюць меней мяса, малака, сыру, цукру, мукі й алею.

**СВАЕ ПОЛІСЫ** “Зялёная карта” пачне выпускаць Беларусь з 1 студзеня. Дагэтуль грамадзяне краіны карысталася замежнымі. Страхоўка “Зялёная карта” дае права на кампэнсацыю ўрону аўтамабілістам у выніку аварыі за мяжой.

**АВІЯРЭЙС МЕНСК—КРАСНАДАР** аднавіла з 4 чэрвеня кампанія “Белавія”. Лётаць маюць да 7 верасьня ў аўторкі ды суботы. Білет у адзін бок каштуе 143 даляры.

**УРАД ЗАБАРОНІЦЬ** банкам даваць грошы на заробкі тым прадпрыемствам, што вінаватыя пэнсійнаму фонду. Цяпер іхная запазычанасьць перад фондам перавышае месячную патрэбу на выплату пэнсіяў.

**НЯ МАЕ ЛІЦЭНЗІЯЎ** палова фірмаў, што прапануюць грамадзянам Беларусі працу за мяжой. Таму няма ніякіх гарантыяў, што падпісаныя з такімі фірмамі кантракты будуць выкананыя.

**УРАД ЗАБАРАНІЎ** адключаць электрычнасьць за даўгі. Цяпер прадпрыемствы вінаватыя энэргетыкам 470 млн. даляраў. З пачатку году гэтая лічба павялічылася на траціну.

**НА 2,7% ПАДВЫСІЛІСЯ** некаторыя камунальныя тарыфы — тэхнічнае абслугоўваньне кватэраў, гарачая і халодная вада, каналізацыя, ліфты і вываз сьмецьця.

**АБЛІГАЦЫІ** на 100 тыс. рублёў выпусьціла Міністэрства фінансаў. Па іх будуць сплачваць 50% гадавых ды інфляцыйную індэксацыю. Калі значна не падвысіцца курс даляра, гэты працэнт дасьць большы прыбытак, чым у банках. Адно што прадаць аблігацыі дзяржаве можна не раней за 31 траўня 2003 г.

**НА 10% ПАМЕНЕЕ** працаўнікоў райвыканкамаў. Звальняць чыноўнікаў будуць да 1 жніўня.

**АД УЛАСНЫХ ДЗІЦЯЧЫХ САДКОЎ** вырашыла пазбавіцца “Белшына”. Цяпер іх будзе ўтрымліваць гарадзкі бюджэт Бабруйску. Летась на ўласную сацыяльную маёмасьць шынны камбінат выдаткаваў 6 млн. даляраў.

**БЯЗ КАСАВЫХ АПАРАТАЎ** дазволіў працаваць прадпрымальнікам Канстытуцыйны суд. Менгарвыканкам скасуе сваё рашэньне, паводле якога гандляры мусілі “прапускаць” праз апараты ўсю гатоўку.

**“ЗАЛАТЫ ШЛЯГЕР”** ня будуць ладзіць сёлета ўлады Магілёва, бо няма грошай. На “фэсьце савецкай песьні” бюджэт Магілёўшчыны зэканоміць пад мільён даляраў.

**КОНКУРСЫ ПАМІЖ ІНВЭСТАРАМІ** “Нафтану”, “Паліміру”, “Азоту” і “Белшыны” пройдуць да 23 жніўня. Прапановы аб прыватызацыі магілёўскага і сьветлагорскага аб’яднаньняў “Хімвалакно” ўрад разгледзіць увосень.

**ЗБОР ЗЬ БЕЛАРУСКІХ ГРУЗАВІКОЎ** скасавала Польшча. Раней з аднае машыны на мяжы бралі 150 даляраў.

**С.І.**

надвор’е

# То пячэ, то студзіць

Апошнія 5—6 гадоў штотравень Белгідрамэт паведамляе пра магчымыя прымаразкі. Прычым лічбы зь мінусам гучаць досыць сур’ёзныя. Вось і сёлета ў апошняй дэкадзе траўня некалькі дзён чакалі −5—6 $^0$C на ўшчэнт асушаных палескіх балатах і трохі меней — на астатняй тэрыторыі краіны.

Замаразкі, праўда, аказаліся не такія моцныя. Яны пашкодзілі ў паўднёвых і цэнтральных раёнах бульбу ды агуркі, але нічога незвычайнага не адбылося. А пару гадоў таму чыноўнік ад сельскай гаспадаркі недзе пасьля “травеньскіх сьвятаў” кляўся, што ў краіне было да -14 $^0$C, таму, маўляў, ураджаю не чакайце. Хоць такога марозу не бывае ня толькі ў траўні, але і ў другой палове красавіка. Відаць, мэтэаслужба час ад часу дае карт-блянш Мінсельгасхарчу.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Сёлета марозам асабліва не прыкрыешся, але ёсьць іншая, сапраўды сур’ёзная праблема — травеньскія ападкі. На Берасьцейшчыне і паўночнай Віцебшчыне людзкага дажджу не было цэлы месяц. І калі дадаць, што сьнег на поўдні сышоў яшчэ ў лютым, сытуацыя складалася ня лепшым чынам. Але цяпер, дзякуй богу, дажджы прайшлі. Суша 1963 і 1975 г. не паўтарылася. Ды бяда ўжо з дажджом: пры канцы мінулага месяца на Менскім узвышшы колькасьць ападкаў за суткі месцамі перакрывала месячную норму, якая вагаецца ад 45 да 65 мм. Такія ліўні на сухой дагэтуль глебе могуць выклікаць эрозію.

**Юры Фралоў**

лёс “Марыян Гаўзу”



**У рэдакцыі газэтаў “Беларус”, “Беларускі Дайджэст”, “Голас Радзімы”, “Наша Ніва”**

Паважаны рэдактар,

Пішу, каб падзякаваць Вам, а праз Вас усім, хто адгукнуўся на заклік, зьмешчаны на старонках Вашай газэты, выказаць заклапочанасьць будучыняю нашага рэлігійна-культурнага асяродку ў Лёндане і яго цэнтру “Марыян Гаўз”. Для мяне, якому прыйшлося правесьці больш як паўстагодзьдзя ў гэтым асяродку, гэта вялікая маральная падтрымка.

Я толькі што вярнуўся з Рыму і магу сказаць, што царкоўныя ўлады атрымалі шмат лістоў у гэтай справе з усіх куткоў сьвету і што пажаданьні, выказаныя ў гэтых лістах, узятыя імі пад увагу.

Безумоўна, усё на гэтым сьвеце мае сваё заканчэньне, у тым ліку і наш лёнданскі асяродак. Тым ня менш, думаю, што ён яшчэ можа быць карысным для Беларусі і Царквы.

Сёньня яшчэ рана казаць, якое будзе канчатковае рашэньне гэтай справы, але ёсьць надзея, што яно будзе для нас памысным.

Тым часам дзякую яшчэ раз за падтрымку.

**а.Аляксандар Надсан, Лёндан, 4 чэрвеня 2002 г.**

***P.S.:*** Дарэчы, у гэтым месяцы ў нашым асяродку адбудзецца сьвяткаваньне Купальля і гадавы зьезд Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі.

**Адам Мальдзіс, віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру: “ПЭН-цэнтар таксама даслаў ліст у Ватыкан у справе “Марыян Гаўзу”. У гэтым лісьце мы пішам: захаваньне гэтага асяродку важнае ня толькі для беларусаў замежжа, але і беларусаў Беларусі”.**

# Прэзыдэнтура — апазыцыя 4:2

*Дзейнасьць прэзыдэнцкай адміністрацыі аднолькава высока ацэньваюць лукашысты і незалежнікі, ніжэй — лібэралы*

**Мінула дзевяць месяцаў ад прэзыдэнцкіх выбараў — цэлы палітычны сэзон. Які расклад "турнірнай табліцы" атрымаўся ў выніку? Мы прапанавалі паліталягам і журналістам ацаніць дзейнасьць палітычных сілаў ад верасьня 2001 г. да траўня 2002 г. Экспэртамі выступілі рэдактар аналітычнага бюлетэню інфармацыйнага агенцтва БелаПАН Аляксандар Класкоўскі, кіраўнік незарэгістраванага Цэнтру палітычнай адукацыі Андрэй Ляховіч, аглядальніца "Советской Белоруссии" Людміла Масьлюкова, палітоляг Уладзімер Мацкевіч, аглядальнік БТ Юры Пракопаў, аглядальнік радыё "Балтыйскія хвалі" Сяргей Харэўскі й прэзыдэнт грамадзкага аб'яднаньня "Сацыяльныя тэхналёгіі" Аляксандар Фядута. На нашу просьбу экспэрты пракамэнтавалі свае адзнакі.**

| Партыя, рух, арганізацыя, орган улады | Аляксандар Класкоўскі | Андрэй Ляховіч | Людміла Масьлюкова | Уладзімер Мацкевіч | Юры Пракопаў | Аляксандар Фядута | Сяргей Харэўскі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аб'яднаная грамадзянская партыя | 3 | 2 | 2 | 3 | 3- | 2 | 4 |
| Адміністрацыя прэзыдэнта, У.Латыпаў | 3 | 4 | 5 | 2 | 4+ | 2,5 | 4 |
| Беларускі народны фронт "Адраджэньне" | 2 | 2 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| Беларуская партыя жанчын "Надзея" | 2 | 1 | 4 | 1 | 3- | 0 | 1 |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада) | 3 | 2 | 3 | 3 | 3+ | 4,5 | 1 |
| Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада | 1 | 1 | 0 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| Беларуская экалягічная партыя зялёных "БЭЗ" | 2 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 |
| Беларуская партыя зялёных | 2 | 1 | 0 | 0 | 0 | 0 | 1 |
| Беларуская партыя працы | 2 | 1 | 0 | 0 | 2 | 1 | 1 |
| За новую Беларусь | 1 | 1 | 0 | 0 | 1 | — | 2 |
| Зубр | 2 | 2 | -1 | 3 | 2 | 4 | 1- |
| Камуністычная партыя беларуская | 2 | 3 | 0 | ? | 2 | — | 1 |
| Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя-БНФ | 1 | 2 | 0 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| Край | 1 | 2 | — | 0 | 0 | ? | 4 |
| Лібэральна-дэмакратычная партыя беларуская | 2 | 2 | 3 | 1 | 2 | 2 | 3 |
| Малады фронт | 2 | 2 | -1 | 3 | 3 | 4+ | 4 |
| Палата прадстаўнікоў нацыянальнага сходу, В.Папоў | 2 | 3 | 4 | 1 | 4- | 4- | 2 |
| Партыя камуністаў беларуская | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 | 1 |
| Савет міністраў, Г.Навіцкі | 2 | 2 | 2 | 1 | 3- | 1 | 3 |
| Савет рэспублікі нацыянальнага сходу, А.Вайтовіч | 3 | 2 | 0 | 1 | 4- | 2 | 2 |
| Хартыя'97 | 2 | 3 | -1 | 2 | 2 | -1 | 1 |

**ВЫНІКІ**
**(сярэдні бал, у дужках — агульны):**

| | |
|---|---|
| 1. Адміністрацыя прэзыдэнта | 3,5 (24,5) |
| 2. Палата прадстаўнікоў | 2,8 (20) |
| 3. БСДП (НГ) | 2,78 (19,5) |
| 4. АГП | 2,71 (19) |
| 5. Малады фронт | 2,4 (17) |
| 6. ЛДПБ | 2,1 (15) |
| 7. Савет Міністраў | 2 (14) |
| 8. Савет Рэспублікі | 2 (14) |
| 9. БНФ "Адраджэньне" | 1,8 (13) |
| 10. Зубр | 1,8 (13) |
| 11. Партыя жанчын "Надзея" | 1,7 (12) |
| 12. ПКБ | 1,5 (11) |
| 13. КХП-БНФ | 1,4 (10) |
| 14. КПБ | 1,1 (8) |
| 15. Хартыя'97 | 1,1 (8) |
| 16. БСДГ | 1 (7) |
| 17. БПП | 1 (7) |
| 18. Край | 1 (7) |
| 19. За новую Беларусь | 0,7 (5) |
| 20. БЭЗ | 0,5 (4) |
| 21. Партыя зялёных | 0,5 (4) |

Найбольшую колькасьць балаў набрала прэзыдэнцкая адміністрацыя. Прычым яе дзейнасьць аднолькава высока ацанілі як лукашысты (Ю.Пракопаў, Л.Масьлюкова), так і правацэнтрысты-незалежнікі (А.Ляховіч, С.Харэўскі). Гэта ў пэўным сэнсе сэнсацыя. Ніжэйшыя балы дасталіся адміністрацыі ад лібэралаў. Ю.Пракопаў ацаніў яе дзейнасьць у 4 з плюсам балы, паставіўшы ў заслугу "адзіныя тарыфы на энэрганосьбіты і чыгунку, новы дагавор па калектыўнай бясьпецы". А Л.Масьлюкова паставіла адзіную ў апытаньні "пяцёрку", за тое, што "разам з А.Лукашэнкам структура і пэрсона перамаглі на выбарах". "Чацьвёрку" адміністрацыі "як інструмэнту аўтарытарнай дзяржавы" паставіў А.Ляховіч. А.Фядута ацаніў дзейнасьць адміністрацыі прэзыдэнта зь верасьня да лістападу 2001 г. на 4 балы, а ад сьнежня 2001 г. да траўня 2002 г. — на 1 бал. На яго думку, пры канцы 2001-га ня спраўдзіліся спадзяваньні на перамены ў палітыцы ўладаў. "Не адбылося сур'ёзных пераменаў ні ў эканоміцы, ні ў замежнай, ні ва ўнутранай палітыцы... Латыпаў і Князеў зрабіліся падобнымі да Замяталіна і ў нечым пераплюнулі яго: да "акасьцяненьня" беларускіх часопісаў нават Замяталін не дадумаўся б", — мяркуе Фядута. С.Харэўскі сваю высокую ацэнку дзейнасьці прэзыдэнтуры тлумачыць так: "Жыць горш ня сталі. Палітычных вязьняў няма. Гарады пачысьцелі, падсабраліся. Зьдзяйсьняюцца маштабныя сацыяльныя праграмы. Крымінагенная сытуацыя пад кантролем. Менш сталі акцэнтаваць на ідэалёгіі (пасьля выбараў). У выніку сэлекцыі ўсё больш застаецца дзейных прафэсіяналаў, якія пасьпяваюць лявіраваць за думкаю "старшыні" і разам з тым штосьці рабіць".

Другое месца палаты прадстаўнікоў па выніках апытаньня, мякка кажучы, зьдзіўляе. Бязвольны і нелегітымны орган, непрызнаны Захадам, які не прыняў за 9 месяцаў ніводнага прынцыповага рашэньня, якое б хоць на каліва супярэчыла ўстаноўкам выканаўчае ўлады. Які не прапанаваў сам, лічы, ніводнага закону, млява парафуючы акты, прысыланыя ад прэзыдэнта. Уся "апазыцыйнасьць" малалікае групы "кіраваных апазыцыянэраў" у ім разьлічаная на Захад. Гэтае другое месца — перамога прапагандысцкага апарату ўлады. Дарэчы, аглядальнікі ўрадавых СМІ самі прызнаюцца, што роля палаты прадстаўнікоў "абмежавана Канстытуцыяй", як мякка пракамэнтавала свой бал Масьлюкова. Саўмін, дарэчы, атрымаў ад Масьлюковай "двойку", бо "пры ім за квартал "лягла" эканоміка", нуль балаў атрымаў савет рэспублікі, бо "візуе тое, што дала палата прадстаўнікоў" (палату, якая дае тое, што савет візуе, спн.Масьлюкова ацаніла на "4"). Нуль балаў ад Масьлюковай атрымалі, апроч установы Вайтовіча, толькі партыі Пазьняка і Шушкевіча. У чым жа прычыны няласкі аглядальніцы прэзыдэнцкае газэты да савету рэспублікі? Магчыма, прычына ў тым, што Вайтовіч іншы раз не баяўся супярэчыць прэзыдэнцкаму курсу — у справе адносінаў з Эўропай, рэформы Акадэміі навук. Таму й патрапіў у лік "апазыцыянэраў".

Ю.Пракопаў паставіў палаце чатыры зь мінусам за "становчае вырашэньне на "заходнім фронце". А.Ляховіч называе палату "сымбалем парлямэнту, які па сутнасьці зьяўляецца квазіпарлямэнтам". А.Фядута адзначае, што "калі такія радыкальныя прыхільнікі байкоту выбараў, як прафэсар Хадыка, пачалі цікавіцца тым, што адбываецца ў гэтым органе, і запамінаць асобных дэпутатаў па імёнах і прозьвішчах, калі выканаўчая ўлада супрацівіцца міжнароднаму прызнаньню ёю ж самой сфармаванага парлямэнту; нарэшце, калі запалохваць дэпутатаў прыходзяць старшыня КДБ і кіраўнік МЗС, значыць, гэты орган заслугоўвае пэўнай увагі".

Сярод левых партый найбольшую колькасьць балаў набрала Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная грамада). Ю.Пракопаў адзначае яе актыўнасьць, ініцыятыўнасьць, "мірны Дзень Канстытуцыі". А вось А.Ляховіч бачыць у яе дзейнасьці адно "пагоню за зьнешнімі эфэктамі пры адсутнасьці рэальнай працы на месцах", а таксама адзначае "амбіцыі лідэра, якія некалькі разоў ужо ставілі пад пытаньне магчымасьць існаваньня кааліцыі дэмакратычных сілаў". А.Фядута ж не шкадуе кампліментаў Статкевічу: "Ён здолеў адмежавацца ад карупцыі ў апазыцыйным асяродзьдзі; перайграў Караля і захаваў цэласнасьць партыі; выйшаў на міжнародную арэну з рэпутацыяй сур'ёзнага палітыка, вартага прымаць у сябе дзейнага прэм'ер-міністра *NATO*ўскай краіны. Ягоных актывістаў ня білі і не саджалі: за ўсіх у чарговы раз адсядзеў ён сам, павышаючы ўласны рэйтынг".

Партыя Міколы Статкевіча зьяўляецца ці не адзінай арганізацыяй, якая належыць да апазыцыі і адначасова гатовая да супрацоўніцтва з уладамі. Прадстаўнікі дзяржаўных СМІ адзначылі яе "канструктыўнасьць", незалежныя экспэрты найперш бачаць станоўчы момант у пісьменным спалучэньні дзейнасьці партыі на "вуліцы" і ў міжнародных кантактах.

Аб'яднаная грамадзянская партыя, у адрозьненьне ад іншых беларускіх палітычных партый, умела спалучае працу на заходнім і ўсходнім кірунках. Менавіта гэтым АГП заслужыла папулярнасьць сярод незалежных экспэртаў і павагу з боку прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ. Акрамя таго, партыя на працягу палітычнага сэзону працягвала праводзіць і свае традыцыйныя вулічныя акцыі, якія хоць не адрозьніваліся шматлікасьцю ўдзельнікаў, але былі рэгулярнымі. На мінулым зьезьдзе АГП паставіла перад сваімі сябрамі канкрэтныя задачы і цяпер імкнецца разбудоўваць рэгіянальныя структуры. Таму ейнае чацьвертае месца па выніках апытаньня не зьдзіўляе. У АГП сярод правацэнтрысцкіх партый у гэтым сэзоне не было дастойных канкурэнтаў.

Нягледзячы на высокія адзнакі, Лібэральна-дэмакратычная партыя Беларусі застаецца загадкавай структурай, што і выявілася ў камэнтарах экспэртаў. А.Ляховіч закідае партыі "сувязь зь беларускімі спэцслужбамі". Тады як Л.Масьлюкова бачыць галоўны вынік яе дзейнасьці ў тым, што ЛДПБ выставіла свайго лідэра кандыдатам у прэзыдэнты. Ю.Пракопаў адзначыў, што яе дзейнасьць "малапрыкметная", а Ў.Мацкевіч кажа, што "галоўны вынік яе дзейнасьці — блеф". С.Харэўскі лічыць, што, разам са станоўчымі момантамі, "непразрыстасьць даходаў і цьмянасьць біяграфіяў робяць гэтую партыю небясьпечнай: яе ўплыў (фэнамэнальны ў сьвятле прэзыдэнцкіх выбараў) можа быць скарыстаны ў любым кірунку".

Правыя партыі палітычны сэзон прайгралі. На думку Л.Масьлюковай, БНФ "Адраджэньне" "пайшоў у маргіналы", а КХП-БНФ "папросту не існуе". Ю.Пракопаў зазначыў, што першы "ня быў заўважаны", а пра другі "амаль не чуваць". "У кіраўніцтва БНФ не хапіла сілаў нават на такое "касмэтычнае", непрынцыповае прызнаньне ўласных памылак, на якое пайшла АГП", — зазначае А.Фядута. А.Ляховіч лічыць, што хібай БНФ была "неэфэктыўная камунікацыя з насельніцтвам, няўлік спэцыфікі электарату". Варта адзначыць роўна нізкія ацэнкі дзейнасьці БНФ "Адраджэньне" і КХП-БНФ з боку ўсіх экспэртаў.

Затое моладзевыя радыкальныя арганізацыі набралі даволі высокі бал. "Малады фронт" мае рэйтынг большы, чым БНФ "Адраджэньне", а "Зубр" абышоў "Хартыю'97". Нізкія ацэнкі атрымала актыўная напярэдадні леташніх прэзыдэнцкіх выбараў нацыяналістычная арганізацыя "Край". Л.Масьлюкова такой арганізацыі наагул ня ведае, а Ю.Пракопаў зазначае, што апошнім часам "нават надпісы зьніклі". Фядута ня бачыць розьніцы паміж "Краем" і "Зубром", а Масьлюкова — паміж "Зубром" і "Маладым фронтам". Харэўскі "Зубру" дае такую характарыстыку: "Ананімны, інсьпіраваны звонку суб'ект. Чужая зьява, не ўгрунтаваная на нашай глебе. Нацыяналісты? Не. Лібэралы? Не. Маладзёвая тусоўка? Хіба так, але вельмі прадказальная, кіраваная. Ніякіх уласных думак ці парываньняў. Крывое люстэрка БПСМ". Аляксандар Фядута ў заслугу "Маладому фронту" ставіць фармуляваньне нацыянальнае ідэі: "Люблю Беларусь!"

Высокі рэйтынг Беларускай партыі жанчын "Надзея" абумоўлены прыхільнасьцю прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ да яе памяркоўнасьці, "жаноцкасьці". Ю.Пракопаў адзначыў, што яна была "дастаткова заўважнай", тады як У.Мацкевіч "нічога, акрамя згадак пра яе старшыню, ня чуў", а на думку Аляксандра Фядуты, "партыя канчаткова зьвялася да спн.Палевіковай і яе некалькіх баявых намесьніц".

У ацэнцы дзейнасьці дзьвюх экалягічных партый экспэрты былі практычна аднои думкі. Ю.Пракопаў адзначыў, што яны "не рэалізаваліся ў публічнай палітыцы", а Л.Масьлюкова піша, што гэтыя партыі разам зь Беларускай партыяй працы "варацца ва ўласным саку". С.Харэўскі ацаніў экалягічныя партыі так: "Па ўсёй краіне дрэвы рэжуць, рыбу нішчаць, сьмецяць кожны як хоча проста ў сябе пад носам. Каб я пабачыў (хоць дзе) надпіс "Ня сьмецьце! Мы тут жывём!" за подпісам "БЭЗ", пацісьнуў бы ім руку. Альбо каб сталі жывым ланцугом супраць высечкі лесу. Альбо каб стварылі добраахвотныя дружыны дапамогі лесьнікам і рыбнагляду (поле для дзейнасьці неабмежаванае). Хіба "вэртыкаль" ці "апазыцыя" былі б супраць? А так... Клюб па інтарэсах".

Крызыс правага флянгу беларускай апазыцыі зацягнуўся. "Правыя" па-ранейшаму ня маюць ня толькі харызматычнага і папулярнага лідэра, але і новых ідэяў, новай стратэгіі. Рэй у беларускай апазыцыі ўжо вядзе не БНФ, а АГП. "Левыя" на чале з БСДП (НГ) М.Статкевіча пасьпяхова працуюць на "заходнім фронце". Лібэралы з АГП імкнуцца спалучаць міжнародную дзейнасьць, канцэнтрацыю ў шэрагах партыі інтэлектуалаў ды вядомых людзей і працу з насельніцтвам. Але наколькі такое элітнае дзейнасьці дастаткова для перамогі на мясцовых выбарах?

Органы ўлады і кіраваньня атрымлівалі ацэнкі найперш як прыдаткі "палітычнага гульца №1", а таксама аб'екты ягонай крытыкі. У такой сытуацыі самыя высокія балы, зразумела, дасталіся самым ляяльным, а самыя нізкія — патэнцыйным крыніцам апазыцыі.

Цікава, што экспэрты зь дзяржаўных СМІ, як і прадстаўнікі незалежных інстытуцый, ня маюць аднолькавай пазыцыі між сабой у дачыненьні да ўсіх апазыцыйных сілаў. Гэта сьведчыць пра тое, што працэс перагрупоўкі сілаў у беларускай палітыцы яшчэ не завершаны. Да жалю прадказальнымі заставаліся толькі ацэнкі прадстаўнікоў дзяржаўных СМІ, якія высока ацэньвалі дзяржаўныя органы і вельмі нізка — нацыянал-дэмакратаў.

Апазыцыйныя структуры застылі на раздарожжы. У іх шэрагах адбываецца пэўны перагляд ранейшага жорсткага стаўленьня да рэжыму і ягоных органаў. У жорсткай апазыцыі да ўлады хутка могуць застацца толькі правыя і некаторыя палітычныя моладзевыя арганізацыі. А пазыцыі ўладаў пакуль вельмі моцныя. Настолькі моцныя, што курс на рэфэрэндум ня выключаны. Апазыцыя тым часам зьбіраецца на вакацыі, якіх, відавочна, не заслужыла.

**Алег Тачоны**

афсайд

# Пабачыць мундыяль!




**Шок памалу сышоў, але застаецца дыскамфорт. Бальшыня з нас па-ранейшаму адлучаная ад турніру, супастаўнага, калі ўзяць пад увагу цікавасьць да яго ў цэлым сьвеце, хіба зь летняй Алімпіядаю. Прапусьціўшы безуважна колькіразовыя прапановы *"Kirch-media"* — уладальніка правоў на трансьляцыі зь Японіі й Паўднёвай Карэі, пагарэўшы мінулае пятніцы на пірацтве, Беларуская тэлевізія ратуе сытуацыю. Замест таго каб сачыць футбол, мы сочым, як БТ вядзе запозьненыя перамовы з канцэрнам Лео Кірха. Спачатку гаворка йдзе пра 470 тысяч даляраў, тады — пра 320. Пры гэтым чэмпіянат нам дэкляруюць паказваць з 15 чэрвеня — з плэй-офаў, то бо 16 матчаў з 64. Дыскамфорт пройдзе, але просяць пачакаць — яшчэ дзён так дзесяць...**

Альтэрнатываю чаканьню — спадарожнікавая тэлевізія, але й тут ня ўсё проста. Падточаны банкрутствам Лео Кірх скрупулёзна дапільноўвае сваіх інтарэсаў. За права трансьляваць сёлетні і 2006-га году чэмпіянаты сьвету ягоны канцэрн заплаціў мільярд 750 мільёнаў даляраў.

Як вынік, матчы мундыялю недаступныя на адкрытых лічбавых каналах; футбол бяз карткі дапаможа паглядзець адно аналягавы тунэр (скажам, на нямецкіх *ARD* і *ZDF* або — з скажэньнем відэасыгналу — на італьянскіх *RAI*). Калясальны попыт цяпер на лічбавы пакет *HTB+*: сырод яго каналаў ёсьць футбольны, дзе жыўцом і ў запісе — кожная гульня зь Японіі й Карэі. У адпаведнасьці з правамі *HTB+* на паказ чэмпіянату, прагляд гэтага каналу легальны толькі на тэрыторыі Расеі, аднак у Беларусі праблему "здымаюць" напаўлегальныя або ўвогуле пірацкія карткі. Змагацца з індывідуальным пірацтвам *"Kirch-media"*, натуральна, ня будзе. Зрэшты, нямецкі канцэрн папусьціў днямі ў выпадку незаконных паказаў на тэрыторыі цэлай краіны. Дазнаўшыся пра трансьляцыі матчаў у Паўночнай Карэі, прадстаўнікі *"Kirch-media"* заявілі, што не зьбіраюцца прававаца з тамтэйшай тэлевізіяй. "Трэба радавацца, што сіла Кубку сьвету разбурае ўсялякія бар'еры", — зазначыў прэс-сакратар канцэрну.

Тым часам на футбольных палёх працягваюцца матчы другога туру групавых змаганьняў. У першым букмэйкерскія фаварыты збольшага апраўдалі давер. За выняткам Францыі — яе непераканаўчыя кандыцыі ў сустрэчы з Сэнэгалам імгненна адбіліся на стаўках. Традыцыйна найпільнейшая ўвага на гульню чатырохразовых чэмпіёнаў сьвету бразыльцаў — да перамогі гэтай каманды індывідуальнасьцяў над туркамі ладна прычыніўся паўднёвакарэйскі судзьдзя, прызначыўшы пэнальці за парушэньне, учыненае па-за штрафной пляцоўкай. Турэцкую зборную, дарма што пачала з паразы, рызыкну назваць найбольш пэрспэктыўным навічком мундыялю, здатным пайсьці ў сьляды ўчынікаў сэнсацыяў на чэмпіянатах 1994 і 1998 гадоў — зборных Баўгарыі й Харватыі. Прынесьлі і, здаецца, паднясуць яшчэ гасьцём клопату гаспадары — каманды Паўднёвай Карэі й Японіі. Першыя ці ня ў кожным з кампанентаў футболу перагулялі палякаў, колішніх супернікаў зборнай Беларусі ў змаганьні за месца на мундыялі. Зацятая, да апошняга матчу, барацьба за выхад у плэйофы чакаецца ў бальшыні групаў. Толькі хацелася б не прачытаць пра гэта, а пабачыць.

**Юрась Бушлякоў**

слова тыдня

## Мундыяль

**ад *mundial* (гішп.) — сусьветны. У залежнасьці ад кантэксту ўжываецца да міжнародных падзеяў, фэстаў, гульняў, выставаў. Пасьля Чэмпіянату сьвету 1990 г. у Мэксыцы, пад лацінаамэрыканскім уплывам азначэньне трывала замацавалася за футбольным чэмпіянатам сьвету.**

# Футбол, валейбол, анабол...

Гісторыя ўжываньня анаболікаў пачалася ў 1954 г., калі алімпійскія цяжкаатлеты пачалі прымаць дыянабол. У 70—80-х ужываньне анаболікаў у асяродзьдзі спартоўцаў набыло значныя памеры. Апытаньне ў амэрыканскіх унівэрсытэтах у 1970 г. паказала, што 15% студэнтаў-спартоўцаў ужываюць анаболікі. У 1984-м гэтая лічба сягнула 20%. А годам раней 19 прафэсійных спартоўцаў былі дыскваліфікаваныя за ўжываньне стэроідаў.

З 1967 г. пры Міжнародным алімпійскім камітэце існуе мэдычная камісія, што распрацавала правілы антыдопінгавага кантролю. На Алімпіядзе-68 у Мэхіка яго праводзілі выбарачна, а з Алімпіяды-72 у Мюнхене допінг-кантроль стаўся абавязковым для пераможцаў.

Выяўленьне допінгу пагражае спартоўцу суворымі карамі: злавіўшы на забароненых сродкахпершы раз, яго дыскваліфікуюць на 2 гады, другі — пажыцьцёва. Калі спартовец ужываў сымпатамімэтыкі (эфэдрын і вытворныя ад яго), першая дыскваліфікацыя — на 6 месяцаў, другая — на 2 гады, трэцяя — пажыцьцёва. Пры гэтым пакараньне таксама тычыцца трэнэра і доктара, якія назіраў за спартоўцам.

Ужываньне допінгу з мэтай дасягненьня высокіх спартовых вынікаў караецца ў судовым парадку ў Бэльгіі, Францыі, Італіі.

Беларускае заканадаўства ставіцца да допінгу больш паблажліва. Нашыя спартоўцы неаднойчы не маглі прайсьці допінг-кантроль на міжнародных спаборніцтвах. На ўжываньні забароненых прэпаратаў папаліся былі штангісты (усёй камандай), лёгкаатлеты Наталья Салагуб, Эвэліна Зьверава, Тацяна Шэўчык, Сяргей Алай, Натальля Касьцючэнка, вясьлярκі Натальля Лаўрыненка і Натальля Стасюк, футбаліст Валянцін Бялькевіч, хакеіст Руслан Салей. На Алімпійскіх гульнях 2000 г. у Сыднэі быў дыскваліфікаваны кідальнік молата Вадзім Дзевятоўскі.



Летась з роварнай гонкі "Тур дэ Франс" была зьнятая чэмпіёнка сьвету Зінаіда Стагурская.

Сёлетнія скандалы з шорттрэкавічкай Юліяй Паўловіч і хакеістам Васілём Панковым у Солт-Лэйк-Сыты, бадай што, не былі апошнімі ў гэтым шэрагу. У Беларусі набыць стэроіды — не праблема. Польскі часопіс *"Dlaczego"* (№38 за красавік) зазначае, што менавіта з Беларусі ў Польшчу йдзе вялікая колькасьць стэроідаў, якія прадаюцца ў нашых суседзяў нелегальна. Ад ужываньня "падпольных" стэроідаў там ужо загінулі некалькі чалавек...

**Каб спраўдзіць гэтыя зьвесткі й наагул абмеркаваць "забруджанасьць" беларускага спорту допінгам, карэспандэнт "НН" спаткаўся з спэцыялістам. Доктар дзённага аддзяленьня Рэспубліканскага цэнтру спартовай мэдыцыны Андрэй Філімонаў лічыць, што ўласна беларускіх стэроідаў быць ня можа:**

— Для вытворчасьці такіх прэпаратаў патрэбная добра разьвітая фармакалёгія, якой у Беларусі папросту няма. Таму яны маюць альбо амэрыканскае, альбо гішпанскае, альбо якое-небудзь яшчэ замежнае паходжаньне. Наагул, фармакалягічны бізнэс у сьвеце ідзе на другім месцы па прыбытковасьці пасьля гандлю алькаголем, таму тут існуе значная канкурэнцыя.

**"НН": Ці адпавядаюць праўдзе зьвесткі, нібы ў спорце засталіся толькі дзьве галіны, "чыстыя" ад допінгу, — жаночы хакей на траве і фігурнае катаньне?**

**А.Ф.:** Сёньня спорт — спаборніцтва высокіх хімічных тэхналёгіяў. І, відома, тут ніхто ня дбае пра здароўе спартоўца. Ёсьць нават такое крайняе меркаваньне, якое гучала на адным з паседжаньняў Міжнароднага алімпійскага камітэту: допінг трэба дазволіць, бо, маўляў, допінг-кантроль і меры, накіраваныя на барацьбу з допінгам, шкодзяць здароўю значна больш, чым прэпараты. Здароўе спартоўцаў, маўляў, палепшыцца, бо яны ня будуць шукаць шляхі, каб абысьці допінг-кантроль, ня будуць апрабоўваць на сабе нейкія новыя прэпараты.

Але паколькі заходнія краіны маюць больш разьвітую індустрыю, больш дасканалыя тэхналёгіі, ім выгадна захоўваць

# Чым страшныя стэроіды

**СТЭРОІДЫ — група хімічных злучэньняў. Вядомыя тры віды стэроідаў:**

1) "кортыкастэроіды" (яны ёсьць у крэмах і мазях для скуры);

2) жаночыя палавыя гармоны (ужываюцца ў супрацьзачаткавых прэпаратах);

3) мужчынскія палавыя гармоны, больш вядомыя пад назовам анабалічных стэроідаў (ці проста анаболікаў). Галоўная ўласьцівасьць анабалічных стэроідаў — здольнасьць падтрымліваць прырост мускульнай тканкі, за што іх вельмі цэняць спартоўцы.

Шмат хто з спартоўцаў лічыць, што сваімі дасягненьнямі ён мусіць быць удзячны толькі ўжываньню стэроідаў.

Найхутчэй выводзяцца з арганізму сьляды ўжываньня аральных стэроідаў. Спартоўцы часта зьвяртаюцца менавіта да іх (каб лягчэй прамінуць допінг-кантроль), хоць такія прэпараты вельмі кепска ўзьдзейнічаюць на пячонку. Ін'екцыйныя стэроіды ўводзяцца праз шпрыц у цягліцу, а ня ў вену. На хімічным узроўні яны засвойваюцца лепей, чым аральныя анаболікі, таму ім аддаюць перавагу тыя, хто карыстаецца стэроідамі працяглы час. Аднак ін'екцыйныя анаболікі абмінаюць натуральныя абарончыя мэханізмы чалавека, і "перадоз" тут можа быць вельмі небясьпечны.

Цыкл стэроіднай "загрузкі" доўжыцца ад 4 да 18 тыдняў, а потым перапыняецца на тэрмін ад месяца да году. Дозы, якія спартоўцы ўжываюць цяпер, у сярэднім на траціну большыя за тыя, што ўжываліся ў 1960—70-х. Зрэшты, навуковых досьледаў у гэтай сфэры ніхто не вядзе і парадаў наконт правільных дозаў і цыклаў даць ня можа. Пераважная бальшыня анаболікаў набываецца нелегальна, што спрыяе пашырэньню розных падробак. Почасту выкарыстоўваюцца вэтэрынарныя стэроіды. Уплыў на арганізм чалавека прэпаратаў, распрацаваных для жывёлаў, прадказаць складана, бо яго ніхто не дасьледаваў.

Падробныя анаболікі вырабляюць у падпольных лябараторыях. Выглядаюць прэпараты як сапраўдныя, але актыўныя элемэнты ў іх могуць быць іншымі ці не ў такіх суадносінах. Прэпараты для ін'екцыяў, да таго ж, могуць наагул быць нестэрыльнымі.

На падлеткаў у стадыі полавага высьпяваньня анаболікі ўзьдзейнічаюць асабліва моцна. Спыняецца рост костак, могуць выпасьці валасы (прычым, паводле адных зьвестак, пасьля таго як прыём анаболікаў спыняецца, рост валасоў аднаўляецца; іншыя кажуць, што працэс незваротны). Доўгае ўжываньне анаболікаў выклікае ў мужчынаў полавую стэрыльнасьць (аднаўленьне функцыяў арганізму адбываецца толькі праз паўгоду пасьля спыненьня прыёму стэроідаў).

Адна з асноўных "мішэняў" анаболікаў — пячонка. Ці аднаўляецца пашкоджаная тканка пячонкі пасьля адмовы ад прэпаратаў — невядома. У выніку атру-

## Цана вялікага спорту



Рак мозгу
Дэпрэсія
Агрэсіўныя паводзіны
Пажаўценьне вачэй і скуры
Пах з роту
Высыпаньне прышчоў
Агрубленьне голасу у жанчын
Сардэчныя прыступы
Павелічэньне грудзей у мужчын
Зьмяншэньне грудзей у жанчын
Рак печані
Млосьць і ваніты
Хваробы нырак
Болі ў жываце
Дыярэя
У мужчын:
Сьціскіньне яйцаў
Імпатэнцыя
У жанчын:
Нерэгулярныя мэнструальныя цыклі
Крывападцёчныя інфэкцыі ад ін'екцый
Замаруджаньне росту
Аслабленьне сухажыльляў

допінг-кантроль, каб "адсякаць" іншых спартоўцаў — з краінаў менш разьвітых у сэнсе хімічных тэхналёгіяў. Скандал зь беларускімі спартоўцамі на зімовай Алімпіядзе ўзьнік неяк дзіўна. І фірма, якая вырабляла гэтыя прэпараты, і прадстаўнік, які пастаўляў іх сюды, даўно працуюць з намі. На якім этапе адбылася падмена рэчываў на тыя, што ўтрымліваюць допінг, — сказаць цяжка. Я ня думаю, што гэтая акцыя была скіраваная супраць беларускай алімпійскай каманды: мы не былі сур'ёзнай пагрозай на Алімпіядзе. Хутчэй, акцыя была скіраваная супраць фірмы-вытворцы. Бо існуе сур'ёзная барацьба на рынку збыту фармакалягічнай прадукцыі.

**"НН": А наколькі наагул магчымы спорт бяз допінгу?**

**А.Ф.:** Такі спорт ёсьць. Ёсьць людзі вельмі адораныя — яны паказваюць вынікі, на парадак вышэйшыя за іншых. Іншая рэч, што спорт — гэта ня толькі прэстыж краіны, але і магчымасьць для спартоўцаў зарабіць грошы. Вядома, зьяўляецца спакуса. І таму існуе неабходнасьць тлумачыць, як допінг шкодзіць чалавечаму здароўю. Шкодзіць, дарэчы, можа і простае няведаньне складнікаў ужываных прэпаратаў. Спартоўцы, якія паказваюць высокія вынікі і прэтэндуюць на ўзнагароды, павінны кансультавацца наконт усіх лекаў, якія ім выпісваюць дактары. Бо які-небудзь складнік, атаясамлены з допінгавай дабаўкай, можа ўтрымлівацца ў леках, выпісаных, напрыклад, андролягам ці нават тэрапэўтам.

**Гутарыў Адам Воршыч**

чаньня пячонкі стэроідамі (асабліва аральнымі) у ёй могуць утварацца поласьці, запоўненыя крывёй.

Вялікія дозы анаболікаў зьніжаюць узровень імунаглябулінаў *A, G* і *M* у крыві, што павялічвае рызыку разьвіцьця сур'ёзных інфэкцыяў.

Выкарыстаньне нестэрыльных шпрыцаў у часе ін'екцыяў стэроідаў можа выклікаць гепатыт, а то й СНІД. Дакумэнтальна зафіксаваныя прынамсі два выпадкі заражэньня СНІДам праз шпрыцы ў спартзалях.

Анаболікі зьмяняюць сардэчную цягліцу гэтак сама, як і ган сэрца: ягоныя тканкі разрастаюцца хутчэй, чым неабходныя крывяносныя сасуды. У выніку сардэчныя тканкі кепска забясьпечваюцца крывёю і адміраюць. Гэта можа выклікаць раптоўную сьмерць ад сардэчнага прыступу. Апроч таго, ад анаболікаў цьвярдзеюць сьценкі крывяносных сасудаў, што можа выклікаць зьяўленьне тромбаў.

Стэроіды выклікаюць прызвычаеньне, і бальшыня спробаў "завязаць" сканчаецца нічым. Шмат часу і сілаў прысьвячаецца пошуку гармонаў, карыстаньню імі ці аднаўленьню пасьля чарговага цыклу. Ці ня дужа гэта нагадвае наркатычную залежнасьць?

Ужываньне анабалічных стэроідаў мае ня толькі фізіялягічныя, але і псыхалягічныя наступствы. Для чалавека, які злоўжывае стэроідамі, характэрныя рэзкія скачкі настрою — ад эўфарыі да суіцыдальных схільнасьцяў. Вялікія дозы могуць выклікаць зьмены ў паводзінах чалавека. Зьяўляюцца схільнасьці, падобныя да тых, што разьвіваюцца ў алькаголікаў: частае раздражненьне, жаданьне сварыцца, крычаць на кагосьці, кідацца прадметамі, неабходнасьць некага зьбіць, скалечыць.

**Аркадзь Шанскі**

# Працэс пачаўся са скандалаў

**4 чэрвеня атрымаў працяг суд над журналістамі "Пагоні" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам, перапынены 16 траўня. Абодвух журналістаў вінавацяць у паклёпніцтве на прэзыдэнта.**

На гэты суд трэба было прыходзіць загадзя. Бо не хапала месца. Заля №15 зьмяшчае 30 ці крыху болей чалавек.

Мінулым разам большасьць ахвотных ня трапіла ў залю. Апошнія шчасьліўцы здолелі знайсьці месца за 20 хвілінаў да пачатку. Цяпер заля была забітая ўжо за гадзіну. Людзі разбрыліся па іншых судовых памяшканьнях, шукаючы крэслаў. Хлопцы прапаноўвалі дзяўчатам сядаць да іх на калені. Некаторыя сядзелі ўтрох на двух крэслах. Апошнім судовым бастыёнам стала лава падсудных у загарадцы, якую занялі журналісты, таму што ім не было дзе сесьці. Журналіст А. нават патрымаў часова на каленках журналістку І. На мінулым паседжаньні таксама людзі сядзелі ў гэтай самай 15-й залі нават на паламаных крэслах. Тады прысутныя гераічна вырашылі, што лепей сядзець на такіх, чым пакінуць памяшканьне, як патрабавала судзьдзя. Колькасьць людзей, якія хочуць падтрымаць Маркевіча і Мажэйку, — вялізная.

Працэс пачаўся з запытаньня судзьдзі Т.Клімавай пра месца працы падсудных. Мікола Маркевіч назваўся галоўным рэдактарам "Пагоні", а Павал Мажэйка сказаў, што зьяўляецца беспрацоўным. Як вядома, 12 лістапада 2001 г. газэту зачыніў Вышэйшы гаспадарчы суд Менску. Аднак дагэтуль існуе і абнаўляецца сайт "Пагоні" ў Інтэрнэце.

Мінулым разам даць большую залю прасілі праваабаронцы са сталіцы. Гэтым разам, яшчэ тыдзень таму, адмысловае хадайніцтва судзьдзі Клімавай напісаў Мікола Маркевіч. Адказу не дачакаў і ў часе паседжаньня выказаў сваё зьдзіўленьне гэтым. Судзьдзя парыравала: магу, маўляў, адказваць на працягу месяца. Аднак адвакат Маркевіча С.Цурко зь Менску ўдакладніў: у такім выпадку трэба ня проста "літаральна" выканаць норму закону (30 дзён на разгляд хадайніцтва), а давесьці бесстароннасьць суду, разгледзеўшы хадайніцтва за 3 дні.

Маркевіч мусіў зноўку заявіць хадайніцтва наконт залі, у якой маглі б прысутнічаць усе ахвотныя. Ізноў — адмова. Тады новае хадайніцтва — адвод судзьдзі Клімавай. Пасьля перапынку — праз гадзіну і 10 хвілінаў — суд абвяшчае сваё рашэньне: адмовіць і ў гэтым хадайніцтве. І закрывае паседжаньне да раніцы наступнага дня. Пасьля перапынку міліцыя не пускала публікі ў будынак. Дык людзі прарваліся. Было пабітае шкло ў дзьвярах. Паранены брат Міколы Маркевіча Аляксей, паранены міліцыянт.



IREX-PROMEDIA

Лекар аказвае мэдычную дапамогу Сьвятлане Нех, параненай у часе сутыкненьня зь міліцыяй пры спробе прайсьці ў залю суду. Горадня, 4 чэрвеня 2002 г.

Нічога падобнага да таго, што адбылося ў Ленінскім судзе 4 чэрвеня, у Горадні раней не здаралася. Гэтым разам судовы працэс пачаўся па-сапраўднаму.

У сераду паседжаньне было прызначанае на 10-ю раніцы, але ўжо а 9-й заля была напалову занятая людзьмі паголенымі альбо з кароткімі стрыжкамі — супрацоўнікамі міліцыі. Усё-ткі большасьць журналістаў здолела трапіць на працэс. Судзьдзя Тацяна Клімава не задаволіла хадайніцтва Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі аб прадаўстаўленьні ім грамадзкіх абаронцаў. Пасьля гэтага Павал Мажэйка заявіў адвод судзьдзі. Судзьдзя аб'явіла перапынак, а пасьля адвод не задаволіла. Гэтым і скончылася серада.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

# Беларусь рухаецца да беднасьці

*Інтэрвію зь міністрам замежных справаў Швэцыі Аннай Лінд з нагоды працэсу "Пагоні"*



**— Спадарыня Лінд, якое Вашае меркаваньне пра беларускі рэжым сёньня?**

**А.Л.:** Рэжым Лукашэнкі — выразна рэпрэсіўны рэжым, які ў эканамічным сэнсе адкідае краіну назад. Беларусь магла б быць сёньня багатай, дэмакратычнай і моцнай краінай — такой, як Эстонія, Латвія ці Літва. Аднак, на жаль, Беларусь рухаецца ў адваротным кірунку.

**— Якая Вашая думка пра сытуацыю ў сфэры СМІ?**

**А.Л.:** На жаль, адносіны беларускіх уладаў зь незалежнымі журналістамі й незалежнымі СМІ пагаршаюцца. Назіраюцца й спробы выціснуць недзяржаўныя ды замежныя арганізацыі зь Беларусі. Улады ўсьведамляюць: насельніцтва можа пачаць урэшце пратэставаць супраць сытуацыі ў краіне. Таму й хочуць, каб распаўсюджвалася як мага менш інфармацыі.

**— Якую пазыцыю займае Швэцыя адносна сытуацыі з СМІ ў Беларусі?**

**А.Л.:** У нас няма прамых палітычных кантактаў зь беларускімі ўладамі — з прычыны сытуацыі ў краіне. Мы пратэстуем — як самі, так і праз Эўразьвяз.

**— У выпадку з газэтай "Пагоня" Швэцыя выкажа якую-небудзь пазыцыю?**

**А.Л.:** Так. Я чакаю, што мы зробім гэта і самі, і праз Эўрапейскі Зьвяз. На жаль, давядзецца паўтарыць тое, што мы шмат разоў гаварылі раней беларускім уладам, і зь вельмі маленькім вынікам. Мы спадзяёмся, што Беларусь забясьпечыць свабоду прэсы і будзе паважаць правы чалавека. Пасьля гэтага вашыя ўлады змогуць супрацоўнічаць з краінамі Эўразьвязу. У адваротным выпадку Беларусь застанецца ў ізаляцыі.

**— Спадарыня Лінд, што Вы думаеце пра будучыню Аляксандра Лукашэнкі?**

**А.Л.:** Са шкадаваньнем павінна адзначыць, што ён займае сёньня моцную пазыцыю. Гэта вельмі ўскладняе сытуацыю ў Беларусі. Але я веру, што людзі хутка ўсьвядомяць: Лукашэнка — ня іхная будучыня. Ён толькі ізалюе краіну й не дае ёй магчымасьці разьвівацца. З гэтае прычыны ён будзе вымушаны сысьці, нават калі ягоная ўлада сёньня здаецца даволі моцнай. Няма пэрспэктывы ў тых, хто грунтуе сваю ўладу на гвалце й рэпрэсіях, судах над палітыкамі й журналістамі. Улада ж павінна будавацца толькі на аснове сапраўднай дэмакратыі.

**Паводле www.vitryssland.nu**

# Важна паказаць, што маем варыянты

**Удзел расейскіх інвэстараў у прыватызацыі нафтахіміі можа нашкодзіць эканоміцы Беларусі. Цалкам магчымы варыянт, калі расейскі капітал у нас будзе паводзіць сябе па завядзёнцы: "купіць, прадаць і зьбегчы". Такую думку выказаў міністар маёмасных пераўтварэньняў Польшчы ў 1991—93 г. Януш Левандоўскі падчас зладжанага ў сядзібе БНФ "круглага стала" па прыватызацыі.**


Януш Левандоўскі

З пары тысячаў афіцыйна прыватызаваных на сёньня прадпрыемстваў дзяржава цалкам аддала новым уласьнікам толькі 80, а яшчэ 120-ці не пашкадавала кантрольнага пакету акцыяў. Астатнія па-ранейшаму кантралюе ўрад. Ня менш адметным падаецца шлях прыватызацыі па-беларуску, калі прадпрыемствы аддавалі працоўным калектывам. Гэткі крок ня мог выклікаць адмоўнай рэакцыі ў грамадзтве, але стаўся цалкам неэфэктыўным з эканамічнага гледзішча. Фінансавы стан абсалютнай бальшыні прадпрыемстваў, што былі прыватызаваныя "бяз грошай" і адначасова страцілі дзяржаўную пратэкцыю, значна пагоршыўся.

Цяперака аб "грашовай" прыватызацыі кажуць уголас. Без уліцьця капіталаў прадпрыемствы з выпрацаваным на 85—90% патэнцыялам неўзабаве ператворацца ў мэталалом. Бяда толькі, што пройдзе прыватызацыя без айчыннага бізнэсу, бо беларусы ня маюць столькі грошай. Сёй-той нават падлічыў, што калі прадаваць нафтахімічныя прадпрыемствы па рэальных коштах, дык у краіне застанецца 5—7% іх акцыяў.

Ці варта баяцца прышэсьця ў нафтахімію буйнога інвэстара з замежжа? Януш Левандоўскі цьвердзіць, што само па сабе пагадненьне са стратэгічным інвэстарам не нясе нейкай небясьпекі. Адно каб такі інвэстар зьявіўся не часова, а з дакладным плянам разьвіцьця прадпрыемстваў. Асабліва такая ўмова тычыцца расейскага капіталу, які сёньня ня мае добрай рэпутацыі. І тут гаворка не пра нейкія гістарычныя настроі. Назіраньне хутчэй практычнае. Расейскі капітал вядомы ў Эўропе сваёй звычкай раптоўна зьяўляцца і зьнікаць, пакідаючы ўжо "непатрэбныя" прадпрыемствы ў паўразбураным стане.

Праўда, кажа Януш Левандоўскі, пакуль Беларусь насамрэч ня мае вялікага выбару. Заходнія капіталы ў асобных галінах эканомікі ўжо знайшлі свае месцы ва Ўсходняй Эўропе. Дый прыватызаваць буйныя камбінаты цяжка: часьцяком заходнікі нават не разумеюць іхных тэхналягічных працэсаў. Аднак думка нашых лібэралаў, што "калі ня прыйдуць расейскія інвэстыцы, дык ня прыйдуць ніякія", таксама няслушная. Левандоўскі запрапанаваў беларускаму ўраду нават штучна распрацаваць узорны прыклад інвэстыцыйнага супрацоўніцтва з заходнім капіталам, а пасьля выкарыстоўваць яго як "візытоўку краіны".

Можна яшчэ пашукаць інвэстара на нізкатэхналягічным, але багатым на грошы Блізкім Усходзе, балазе ў Беларусі добры імідж ня толькі ў Лібіі ды Іраку. Сёньня важна паказаць найперш таму ж расейскаму капіталу, што Беларусі не наканаваная безварыянтнасьць, — такая парада Я.Левандоўскага.

**Сяргей Іваноўскі**

## апытаньне "НН"

**Ці зьмянілася Вашае стаўленьне да *NATO* пасьля заявы Аляксандра Лукашэнкі пра гатоўнасьць зблізіцца з альянсам?**

**Павал Латушка, кіраўнік прэсслужбы Міністэрства замежных справаў:** Як службовая асоба, я не магу камэнтаваць заявы прэзыдэнта.

**Іван Пашкевіч, дэпутат палаты прадстаўнікоў:** На маё стаўленьне да *NATO* гэтая заява не паўплывала. Я заўсёды лічыў, што гэта самы моцны блёк, зь якім супрацоўнічаюць усе дзяржавы сьвету. І толькі Беларусь шукала свой шлях між трох бяроз... А заява была слушная. Крыўдна толькі, што яна зробленая пад уплывам Кучмы.

**Сяргей Касьцян, кіраўнік выдавецкага холдынгу "Літаратура і мастацтва":** Маё стаўленьне не зьмянілася. Я па-ранейшаму стаўлюся да *NATO* адмоўна.

**Фёдар Котаў, кіраўнік прэсслужбы КДБ:** Я не жадаю ўдзельнічаць у вашым прэсапытаньні.

**Алена Скрыган, Партыя камуністаў беларуская:** На маё стаўленьне гэтая заява не паўплывала. Такія выказваньні — сёньня адно, заўтра другое — сьведчаць, што ў нашага кіраўніцтва няма цьвёрдай пазыцыі.

дыплямату АБСЭ не працягнута віза

# Місія немагчымая

**У панядзелак беларускія ўлады не падоўжылі візы яшчэ аднаму дыплямату АБСЭ. Беларусь давялося пакінуць ангельцу Эндру Карпэнтэру, трэцяй асобе ў місіі. Улады ня толькі адмовіліся падоўжыць яму візу, але і пазбавілі акрэдытацыі. Гэта ня сталася неспадзяванкай для Карпэнтэра: яшчэ на мінулым тыдні ён арганізаваў разьвітальную сустрэчу зь менскімі знаёмымі.**


Эндру Карпэнтэр

15 красавіка беларускія ўлады гэткім жа чынам прымусілі пакінуць краіну намесьніка старшыні кансультацыйна-наглядальнай групы француза Мішэля Рывальe. Беларусь некалькі месяцаў ня хоча пускаць да сябе немца Эбэргарда Гайкена, які павінен быў узначаліць місію. У беларускай КНГ АБСЭ засталіся толькі два замежныя супрацоўнікі — амэрыканка, тэрмін дзеяньня візы якой завяршаецца ў канцы ліпеня, і грамадзянка Малдовы, для якой віза не патрэбна. Такое становішча практычна паралізавала працу місіі.

Нездавальненьне афіцыйнага Менску выклікалі занадта частыя, на думку ўлад, кантакты дыпляматаў АБСЭ з апазыцыяй і занадта рэдкія — з уладай, што асабліва кідалася ў вочы падчас апошніх парлямэнцкіх і прэзыдэнцкіх выбараў. Папярэдняга кіраўніка місіі Ганса-Георга Віка ўрадавая прэса адкрыта называла шпіёнам. Тыдзень таму на закрытым пасяджэньні парлямэнту старшыня КДБ Л.Ерын паўторна абвінаваціў прадстаўнікоў АБСЭ ў шпіёнскай дзейнасьці. "Няўзброеным вокам відаць, што яны ўмешваюцца ў нашы ўнутраныя справы", — сказаў Ерын.

Беларусь хоча, каб місія зьмяніла статус, перш за ўсё абмежаваўшы кантакты з апазыцыяй і няўрадавымі арганізацыямі. Улады прапануюць сваё пасярэдніцтва ў такіх кантактах. А.Лукашэнка выказаў жаданьне, каб кантакты з АБСЭ адбываліся без пасярэдніцтва місіі, а наўпрост. Дыпляматы АБСЭ непакояцца, што прыклад Беларусі могуць пераняць іншыя дзяржавы, у якіх ня ўсё ў парадку з захаваньнем дэмакратычных прынцыпаў і правоў чалавека.

Сёньня ў штаце Арганізацыі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе працуюць 4 тысячы чалавек ў 19 краінах ад Босьніі да Таджыкістану. 85% яе бюджэту ідзе на назіраньне за выбарамі, абарону свабоды слова, сэмінары для паліцэйскіх, турэмных наглядчыкаў і дзяржаўных чыноўнікаў.

**С.П.**

сустрэча Навіцкі—Касьянаў

# Плян па ілюзіях выкананы

**Расея і Беларусь падпісалі "Плян сумесных дзеяньняў па ўвядзеньні адзінай грашовай адзінкі на пэрыяд 2001—2005 г.". Згодна з назвай дакумэнту, яго рэалізацыя павінна была пачацца яшчэ летась. Вось гэтак "імпэтна" Беларусь інтэгруецца з Расеяй.**

У пляне, падпісаным старшынямі ўрадаў дзьвюх краін Міхаілам Касьянавым і Генадзем Навіцкім, старшынём Цэнтрабанку Расеі Сяргеем Ігнацьевым і намесьнікам старшыні Нацыянальнага банку Беларусі Паўлам Калавурам, прадугледжваецца, што з 2005 г. расейскі рубель зробіцца законным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі, а з 2008 г. зьявіцца нейкая адзіная валюта саюзнай дзяржавы. Аднак як менавіта дасягнуць валютнага аб'яднаньня, два саюзьнікі ўяўляюць па-рознаму. Наш Нацбанк дагэтуль лічыць непрымальным, каб толькі расейскі ЦБ атрымаў права на эмісію саюзнай валюты.

Менск прапаноўваў стварыць эмісійную раду, у якой Нацыянальны банк Беларусі меў бы свой голас. Нават прапаноўвалі разьмясьціць яе ў Смаленску — каб саюзныя грошы друкаваліся на расейскай тэрыторыі, але бліжэй да Менску. Расейскі Цэнтрабанк пра гэта нават чуць не хацеў, і адстаўка Віктара Геращчанкі ў гэтым сэнсе нічога не зьмяніла.

Дарэчы, меркавалася, што ў дзень падпісаньня "Пляну..." дзяржсакратар саюзнай дзяржавы Павел Барадзін, першы намесьнік міністра юстыцыі Расеі Юры Дзёмін і намесьнік кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта Беларусі Леанід Козік прадставяць двум прэм'ерам праект канстытуцыйнага акту саюзнай дзяржавы. Аднак удзельнікі сустрэчы так нічога і ня ўбачылі.

Эканамічная інтэграцыя Расеі і Беларусі ідзе марудна. "Магчыма, і пасьля падпісанага сёньня пляну дзеяньняў у беларускіх улад застануцца ілюзіі, што адзінай валютай саюзнай дзяржавы зробіцца не расейскі рубель, а нейкая адмысловая грашовая адзінка", — іранічна заўважае з гэтай нагоды ўплывовая расейская інтэрнэт-газэта *"Газета.ru"*.

Як ні сьмешна, такія ілюзіі сапраўды застаюцца.

**Б.Т.**

## аб усім патроху

### Новы шэф контравыведкі

**Прызначаны в.а. начальніка ўпраўленьня ваеннай контравыведкі** — першы намесьнік адстаўленага К.Хрушчова палкоўнік Аляксей Яўфімаў.

### МАЗ вінаваціць "Wprost"

**Менскі аўтамабільны завод і "Інфабанк" зьбіраюцца падаць у суд на польскі часопіс "Wprost".** У часопісе яны былі зьвінавачаны ва ўдзеле ў нелегальным гандлі зброяй. Кампаніі заяўляюць: гэта паклёп.

### Папа пойдзе ў адстаўку

**82-гадовы Ян Павал II можа абвесьціць пра сваю адстаўку ў жніўні,** у часе візыту ў Польшчу, у свой родны Кракаў. Пасьля адстаўкі Ян Павал II можа застацца ў адным з польскіх манастыроў.

### Выбары праз Інтэрнэт

**У нядзелю 16 тыс. студэнтаў жэнэўскіх ВНУ галасавалі на рэфэрэндуме па праблеме абортаў праз Інтэрнэт.** Гэта першае Інтэрнэт-галасаваньне ў Эўропе. Рэфэрэндум выйгралі прыхільнікі легалізацыі спаронаў.

### Малдаўская — адзіная

**Канстытуцыйны суд Малдовы адмяніў рашэньне парлямэнту, каб запісы ў актах грамадзянскага стану дубляваліся па-расейску.** Раз малдаўская адзіная дзяржаўная мова, інакш ня можа быць, пастанавіў ён.

### Першая АЭС за 10 гадоў

**Парлямэнт Фінляндыі ўхваліў праект пабудовы новай (пятай па ліку) АЭС.** Гэта першая за дзесяцігодзьдзе новая АЭС у Эўропе.

### Для Чэхіі Расея пагроза

**Міністар абароны Чэхіі Тврдзік матываваў неабходнасьць закупкі зьнішчальнікаў *"Grippen"*** захаваньнем расейскай пагрозы. МЗС Расеі заявіла ў сувязі з гэтым пратэст.

### Чыгунны Пуцін

**На Кусінскім ліцейна-машынабудаўнічым заводзе, што ў Чэлябінскай вобласьці, наладжаная адліўка чыгунных бюстаў расейскага прэзыдэнта.** Бюсты мацуюць на каменныя пастамэнты й прадаюць за 44100 расейскіх рублёў (каля 1400 даляраў) за штуку.

**Мікола Кісель**

# А хто там ідзе?

Працяг са старонкі 1.

Мясцовыя магілёўскія газэты напісалі пра пляны ператварэньняў на прадпрыемстве ня больш, чым цэнтральныя. Тым часам па Магілёве паўзуць чуткі пра адваротнае — што прадпрыемства чакаюць вялікія, да траціны работнікаў, скарачэньні. А маўчаньне газэтаў журналісты недзяржаўных выданьняў тлумачаць па-свойму: у горадзе ходзяць чуткі, што ў кантролі над збытам прадукцыі "Хімвалакна" зацікаўленыя чачэнскія крымінальныя структуры. І ім, маўляў, была б недаспадобы зьмена цяперашняга становішча. Таму рэдактары лічаць за лепшае ніяк не рэагаваць на падзеі. Не таму, што нехта зьвязаны з чачэнцамі. Проста мясцовыя журналісты добра навучыліся зусім не закранаць тэмаў, "на якіх можна нарвацца не на тых".

Негалосная, незразумелая прыватызацыя, выведзеная з-пад грамадзкага кантролю, абяцае нам яшчэ нямала падобных сюрпрызаў.

**Сяргей Іваноўскі, Мікола Бугай**



**Завод штучнага валакна пачаў працаваць у 1930 г. як шаўковая фабрыка і набыў сваю цяперашнюю спэцыялізацыю пасьля вайны. Завод, які насіў тады імя Куйбышава, стаў асновай гарадзкой інфраструктуры Магілёва. Пасьля вайны аднаўленьне разбуранага гораду пачалося менавіта зь яго.**

**У 1950—70-я прадпрыемства было перапрафіляванае на вытворчасьць віскознага тэкстылю ды поліэтылену. Завод увайшоў у склад самага буйнога ў вобласьці аб'яднаньня "Хімвалакно".**

**Незадаволеныя гэтым гігантам, асновай абласнога бюджэту, былі хіба эколягі, бо з-за выкідаў заводам у паветра серавадароду і серавугляроду Магілёў стаў самым нездаровым горадам Беларусі. Але "Хімвалакном" ганарыліся: трэці па велічыні завод такога кшталту ў Эўропе. Нават сёньня, пасьля скарачэньняў 90-х, там працуе 20 тыс. чалавек.**

**Пэўнасьць скончылася на пачатку 90-х. "Раптам" высьветлілася, што постсавецкія краіны аддаюць перавагу таньнейшай і больш трывалай штучнай "плёнцы для сасісак" заходняй вытворчасьці. На заводзе скарачалі аб'ёмы вытворчасьці, звольнілі паўтары тысячы працаўнікоў — і ўсё ж год за годам канчаўся мільённымі стратамі.**



# Агляд ананімак


Кому «Наша Ніва»
Куды Менск а/с 537

Складывается впечатление, что Министерство информации сознательно препятствует работе ликвидационной комиссии и преднамеренно прикрывает финансовые нарушения

В связи с вышеизложенным прошу провести полномасштабную проверку финансово-экономической деятельности всех 6 изданий и их коммерческих структур (там, где они созданы), не вмешиваясь в их творческий процесс и не касаясь идеологической направленности их публикаций

Директор Редакционно-издательского учреждения "Литература и Искусство", депутат Палаты Представителей Республики Беларусь — Костян С.И.

**Ананімак у "Нашу Ніву" традыцыйна дасылаюць шмат. Трапляюцца сярод іх сапраўдныя шэдэўры — як пра крадзеж 20 кг плаціны адказнымі работнікамі гуты "Ялізава" Асіпавіцкага раёну. Бываюць прафэсійна зробленыя рэпартажы з фатаздымкамі — напрыклад, пра сувязь былога дэпутата ад апазыцыі БНФ з спэцслужбамі. Усё — бяз подпісу, зваротнага адрасу і безь ніякай магчымасьці для рэдакцыі праверыць праўдзівасьць пададзенай інфармацыі.**

**Сярод яскравых ананімак апошняга часу — водгукі на ўзьвядзеньне ў сан вікарнага япіскапа Івана (Хамы), зьнікненьне віцебскага апазыцыйнага дзеяча Юрася Корбана і канфіскацыю лукашыстамі літаратурных пэрыёдыкаў.**

## Людзі пра Юрася Корбана

Ананімны ліст прыйшоў з электроннага адрасу guest1 на дзіўным сэрвэры irex.mink.by. Вельмі падобна да сэрвэру, якім карыстаюцца многія незалежныя СМІ Беларусі. Не стае толькі адной літары. Нашыя лісты аўтару вярталіся з пазнакай "Невыпраўная памылка. Адрасат не існуе". Пазьней аўтар азваўся ўжо з электроннага адрасу на tut.by: *"Прашу апублікаваць гэтыя матэрыялы ў якасьці майго прыватнага меркаваньня. Васіль Кубаліч". "З Корбанам нас зьвёў Віцебскі пэдунівэрсытэт — я ўжо адвучыўся быў некалькі курсаў, калі на суседнім факультэце беларускай філялёгіі й гісторыі зьявіўся Юрась — ружавашчокі, схільны да паўнаты хлапец. Яшчэ за два гады да паступленьня, у 1994-м, ён стаў сябрам БНФ, пачаў супрацоўнічаць з газэтай "Выбар", якую выдаваў спачатку легальна, а потым падпольна Барыс Хамайда".*

Журналіст, які займаўся для "НН" разборам справы Корбана, у Віцебску такога Кубаліча не знайшоў. У Корбана быў сярод сяброў Васіль. Але не Кубаліч.

*"Некаторыя зьвесткі тут маюць пах "смажаніны", людзі, зь якімі я гаварыў, мо занадта суб'ектыўна глядзяць на гэтую справу (Корбан меў шмат нядобразычліўцаў),* — прызнаецца аўтар ананімкі, — *але ўсё напісанае, цалкам верагодна, магло быць. Я ўстрымаюся ад уласных меркаваньняў і проста падам усё чутае пра Юрася ад людзей".*

Аўтар добра ведае асяродзьдзе Корбана і робіць шмат цікавых назіраньняў пра тэндэнцыі, характэрныя ня толькі для апазыцыйнага Віцебску, але і для іншых гарадоў. *"Факультэт у тыя часы* [калі аўтар з Корбанам там вучыліся] *кіпеў: студэнцтву хацелася мець сваю тэатральную студыю, свой самвыдат, клюбы рознага кшталту, ладзіць сустрэчы, маёўкі. Юры запомніўся мне сваімі ўзьнёслымі патрыятычнымі вершамі — адчувалася, што "Пагоня", праблема будучыні Беларусі, нацыянальны дух прасякнулі ягоную творчасьць. Пасьля ён кінуў пісаць, расчараваўся. Штосьці ў яго не ішлі стасункі з калегамі і каляжанкамі, не было паразуменьня. Адчувалася, што Юры баіцца падацца горшым за іх, згубіцца на іхным тле. Хто-ніхто гэтым карыстаўся, увесь час "разводзячы" Корбана на піва: той амаль не адмаўляў з жаданьня лічыцца "сваім хлопцам"... Нашмат лепшыя адносіны былі ў Юрася з "пэдкалектывам".*

*Шмат часу Юры аддаваў радыё — ён слухаў багата якія радыёстанцыі сьвету, перапісваўся зь імі. Ці то з "Голасам Амэрыкі", ці то зь "Нямецкай хваляй" у яго было нешта кшталту дамовы: пастаянна слухаць і ацэньваць якасьць этэру за грошы й падарункі.*

*Урэшце Юрась закінуў працу з радыё і актыўна ўзяўся за трэці сэктар. Году з 1998-га ён каардынуе працу Рады маладзевых няўрадавых арганізацыяў, кіруе цэнтрам "Контур" і віцебскім "Маладым фронтам". Ладзяцца сэмінары, вядуцца перамовы зь Менскам, наладжваюцца кантакты з замежнікамі (Польшча, Чэхія). Але сапраўднага плёну не было. Імпэт хутка згасаў, сутыкнуўшыся зь нейкімі праблемамі, справа ня йшла. У Юрася была мара: наладзіць выданьне "газэты Віцебскага краю". Плянавалася, што ёй стане лісток "Сьцяна", але надрукавана было хіба што 10 нумароў. Прыкладна ў той час зьявіліся чуткі пра Корбанаў "левы бізнэс".*

*Пры Корбану ў ягоных структурах зь дзясяткаў старых ЗБСаўцаў і МФаўцаў засталіся адзінкі. Грошы й уплывы — асноўная прычына гэтага. Зрэшты, Корбан мог прадэманстраваць сябе і "гасьцінным гаспадаром" — зладзіць нешта па-людзку. Так было з караванам "Next stop — New life", фэстывалем фільмаў у Віцебску, сустрэчай з рэдакцыяй "ARCHE", пэўнымі канцэртамі.*

*19 студзеня Юрась Корбан зьнікае, нікога не папярэдзіўшы. На працягу некалькіх дзён ён тэлефануе знаёмым і кажа, што вернецца праз колькі дзён, бо мае патрэбу зьехаць за мяжу з адным чалавекам. Тады сама, як кажуць людзі, Юрась просіць бацькоў прадаць кватэру за 20 тыс. даляраў і перадаць яму грошы, бо "жыцьцё чалавека даражэйшае за самыя вялікія грошы". Але на прызначаную ў лясным масіве каля Менску сустрэчу ніхто не прыйшоў.*

*P.S. Я ведаю, што гісторыя жыцьця Юрася Корбана ўтрымлівае й добрыя моманты (немагчыма быць толькі дрэнным), садзейнічаў ён і беларускай справе, хаця гэта былі выключэньні. Хочацца, каб гэты матэрыял пайшоў на карысьць усім — ад "навароцістага" функцыянэра да шараговага партыйца. Каб не было шкада сябе, радзіму і народ, які так часта жадаюць "абуць у лапці".*

Іншае ў допісе — плёткі і чуткі. Друкаваць іх — значыла б зьняважыць гонар і годнасьць Юрася Корбана. Калі Вы, спадару Васіль Кубаліч, хочаце, каб сабраны вамі "матэрыял" пайшоў "на карысьць усім", дык трэба падаваць яго ад свайго імя і называць усе хваробы апазыцыйнага руху таксама сваімі іменамі. Інакш чым Вы розьніцеся ад "сьвядомага-сьвядомага", які рассылаў перад выбарамі такога ж кшталту ананімкі, толькі пра Захаранку й Ганчара?

Правы на свабоду маніфэстацый ці выбараў не рэалізуюцца ў Беларусі напоўніцу. А права на свабоду слова амаль не аспрэчваецца. Дык карыстаймася ж гэтым у рамках закону і не забываючыся аб прэзумпцыі невінаватасьці. Корбан — гэта ж не які-небудзь пурыц-мафіёзі, каб збор інфармацыі пра яго пагражаў жыцьцю і здароўю.

## Распуцін беларускага праваслаўя

*"У №13 "НН" ад 5 красавіка быў пададзены аўтарам М.Бугаём матэрыял пад назвай "Пераемнік Экзарха",* — піша нам "Мікалай Лапіцкі" зь Менску, які не падае ні свайго адрасу, ні тэлефону і не адгукнуўся на зварот у "Паштовай скрыньцы". — *Адрасу хочацца запэўніць вас у тым, што новапастаўлены япіскап Іван Хама ніколі ня можа быць "Пуціным беларускага праваслаўя", бо большасьць епіскапату Беларускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату, як вядома, зьяўляюцца сьвядомымі беларусамі і яны, нягледзячы на ўвесь прэсінг "Ельцына беларускага праваслаўя" мітрапаліта Філарэта, не дапусьцяць гэту кандыдатуру на такую адказную пасаду, у тым ліку нават на Магілёўскую катэдру".*

Далей аўтар падрабязна тлумачыць чаму. Газэта спрабавала праверыць гэтыя зьвесткі — і, ня маючы магчымасьці сустрэцца з аўтарам ліста, ніякіх верагодных доказаў не атрымала.

*"Я асабіста лічу,* — скончае М.Лапіцкі, — *што вашы супрацоўнікі мала дасьведчаныя аб унутраным жыцьці праваслаўнай царквы ў Беларусі, бо такіх казачных высноў, як мы чытаем у матэрыяле М.Бугая, не было б.*

*Але хто яго ведае, цяпер у нашай краіне, у тым ліку ў царкоўным жыцьці, робіцца такое, што нават у Акапаліпсісе ня ўсё прадбачана".*

Мяркуючы па лісьце, Вы, сп.Лапіцкі, — чалавек уцаркоўлены. Калі маральны стан БПЦ Маскоўскага экзархату сапраўды такі, якім Вы яго апісваеце, Ваш абавязак як хрысьціяніна і грамадзяніна не цярпець яго і змагацца за яго зьмяненьне. Калі Вы баіцёся гэта рабіць, Вы няспраўджаны вернік і грамадзянін. А калі маніце, дык пагатоў.

Ад аднаго іншаземца, жыхара малое паўночнаэўрапейскае краіны, які часта бывае ў нас, нядаўна давялося пачуць, што слова "шчырасьць" у Менску выклікае крывыя ўсьмешкі. Аднак гэта прыкмета часу, а не нацыянальнага характару.

## "Полу-парнография"

Ксэракопія ліста боса літаратурнага холдынгу "ЛіМ" Касьцяна ў Генэральную пракуратуру рэспублікі трапіла ў рэдакцыю ў капэрце, адпраўленай зь менскага паштамту. Подпіс пад лістом сапраўды падобны да подпісу дэпутата Касьцяна. У лісьце ён просіць Генэральную пракуратуру *"правесьці поўнамаштабную праверку фінансава-эканамічнай дзейнасьці ўсіх 6 выданьняў* [маюцца на ўвазе "Нёман", "Полымя", "Крыніца", "Маладосьць" — **Рэд.**] *і іх камэрцыйных структураў (там, дзе яны створаныя), не закранаючы творчага працэсу й ідэалягічнае скіраванасьці іх публікацыяў".* Такая праверка Генэральнай пракуратурай распачатая. Гэта пацьвярджае сапраўднасьць атрыманае рэдакцыяй копіі. Мы не зьбіраемся друкаваць ліст. Падамо зь яго толькі ўрывак. Даём у арыгінале, бо пераклад зьбядніў бы гэты гістарычны дакумэнт.

*"По журналу "Крыница"... из разговоров с работниками журнала выяснилось, что именно с использованием материальных и финансовых ресурсов этого издания издавались "Ведамасці" Зянона Пазьняка, а также выпущено около десятка полупарнографических книжек "вядомых беларускіх літаратараў". Они писали и издавали свои полу-парнографические романы под псевдонимами. Ясно, что за всё это журналу проплачивались деньги, но куда они ушли, нам неизвестно. Когда мы спросили сотрудников "Крыницы" и "Полымя", какие у них планируются публикации в связи с 120-летним юбилеем Янки Купалы и Якуба Коласа, объявленным ЮНЕСКО юбилейным годом, нам ответили, что "такой юбилей не вписывается в концепцию нашего журнала". То есть публиковать и распространять полупарнографические "творы" и эпосы Зянона Пазьняка — это вписывается в концепцию, а 120-летний юбилей..."* Камэнтары непатрэбныя. Друкаваць такія лісты — значыла б сеяць недавер да людзей.

Рэдакцыя моцна абмежаваная ў магчымасьці праверыць інфармацыю, зьмешчаную ў ананімках. Дык падпісвайцеся!

**Андрэй Дынько**

зь Нью-Ёрку

## "We the People of the United States..."*

Лявон Юрэвіч

Ня любяць нас, амэрыканцаў. І народжаных у гэтай краіне, і тых, хто прыехаў сюды ды атрымаў грамадзянства. Не паўсюдна ня любяць, а на пэўных тэрыторыях: Азія, Расея, Беларусь. І ў тым вялікая загадка для мяне.

Чаго ня любяць? Як эмігрантаў? Толькі якая ж розьніца паміж намі й беларусамі — жыхарамі Прагі, Варшавы, Бэрліну? Пры тым, што іхная належнасьць да "захаду" — відавочная.

Чаму палітык-беларус уважае магчымым прыехаць у Нью-Ёрк, скарыстаць сувязі, уплывы мясцовых беларусаў, але палічыць за непрыстойнае распавесьці пра тую дапамогу — дапамогу ад эмігрантаў — у Беларусі?

Чаму паэт-беларус прымае ўвагу, клопат на гэтай зямлі, але ўшчэнт забываецца на тое дабро на зямельцы роднай, выліваючы ў падарожныя зацемкі незразумелую, бо своечасова не растлумачаную крыўду?

Адзіны адказ знаходжу ў наследках савецка-расейскага мэнталітэту.

Так, мы іншыя. Ня лепшыя, ня горшыя — іншыя. Да адрознасьці, дадзенай нам бацькамі ды Богам, далучылася адрознасьць новай краіны. Але хіба тое блага — быць іншым? У савецкай дзяржаве — так, было блага, амаль злачынна. І каралася. У сёньняшняй Беларусі караецца адмыслова: іроніяй, сарказмам, асуджэньнем, агаворам, замоўчваньнем. (Апошняе спрацоўвае і ў дачыненьні да ўнутраных эмігрантаў.) Найлепшая, на мой погляд, літаратуразнаўчая кніга 90-х, праца Георгія Коласа "Карані мітаў", цалкам замоўчаная. Падобная па скіраванасьці кніга ўкраінскага амэрыканца Георгія Грабовіча пра Шаўчэнку сталася ва Ўкраіне бэстсэлерам 2000 г.

Адрознасьць часткі беларусаў успрымаецца не як станоўчая зьява, што можа быць выкарыстаная на карысьць Беларусі, а як загана, як пляма, як здрадніцтва. Рыхтык школьныя калідоры: яшчэ трохі, і пачуеш: "Ты самы разумны?", "Больш за ўсіх трэба?"

Прыглядзеўшыся, яскрава пабачыш, што розьніца тая праяўляецца выключна ў пабытавых звычках, якія, што праўда, уплываюць на сьвядомае й падсьвядомае.

Але колькі ні пішы ды ні тлумач, нічога ня зьменіцца. Як з тым антысэмітызмам: і не забівалі жыды Хрыста, а ўсё адно ім не даруецца.

**Лявон Юрэвіч**

* Пачатак Канстытуцыі ЗША.

### "Наша Ніва" 90 гадоў таму

**Круці, Віленскай губэрні Вялейскага павету, Мядзельскай воласьці.** 30 красавіка раніцай трое мужчын пайшлі гарадзіць плот. Насунулася хмара, ударыў гром, і аднаго чэлавека пры плоце забіла насьмерць, парвала на ім адзежу і боты. Другія два мужчыны адышліся на колькі крокаў, каб нарубіць ветак, іх таксама аглушыў гром. Але як рубілі веткі пры балотку, то паваліліся ў ваду і гэтым спосабам ураталі сабе жыцьцё.

**А.Мінкоўскі**

**24 (6) траўня 1912, №21**

лісты ў рэдакцыю

## Усе гаварылі пра Багушэвіча!

Па дарозе зь лецішча я наважыўся заскочыць на якую хвіліну да дзяцей — закінуць ім трохі зеляніны. Жывуць яны на вуліцы Люксэмбург. І от я на прывакзальным прыпынку. Чакаю на сваю "пяцёрку" — хвіліну, другую... Няма пяцёркі. Людзі хвалююцца. А тым часам адзін за адным да прыпынку прышвартоўваюцца 142-ія аўтобусы і амаль пустыя шыбуюць далей. На іх красуецца шыльдачка: "вул.Бабруйская — пл. Багушэвіча". Выяўляецца, яшчэ перад Новым годам гарадзкая ўлада імем нашага прарока назвала пляц ля тэатру музычнай камэдыі. Менчукі мітусіліся, хваляваліся, зьвярталіся адзін да аднаго: "А дзе тая плошча?" У той дзень на прывакзальным прыпынку Багушэвічава імя не сыходзіла з вуснаў месьцічаў. Шмат хто пытаўся, хто гэта, скуль узяўся. "А хіба ж вы ў школе не праходзілі?" — дзівілся адны. "Дык гэта той, што Францішак, Мацей Бурачок?" — удакладнялі іншыя. Багушэвіч зьявіўся ў беларускай сталіцы на сто трэцім годзе пасьля сьмерці.

**Уладзімер Содаль**

## Пазнаў Людку

**"Цікавая імпрэза" — менавіта гэтыя словы былі вылучаныя на ўваходным квітку, а трохі ніжэй, драбнейшым шрыфтам, было напісана: "Шчыра запрашаем на "Вечар беларуска-швэдзкай паэзіі". Арганізатары нібы прадбачылі, што гасьцям спадабаецца.**

Адбылася імпрэза 31 траўня ў Пінску, у памяшканьні рыцарскага клюбу "Радагаст". Пачалі яе гаспадары — Мілана Юхнюк, Анатоль Шушко, Натальля Прыступа. Потым гарадзенскі паэт Юрась Пацюпа надоўга захапіў увагу слухачоў. Усіх зьдзівіў Зьміцер Строцаў. Падчас дэклямаваньня ён махаў рукамі, цягнуў гукі, гаварыў нарасьпеў, як поп у царкве. Вельмі нагадвала вар'ятню.

Вы чулі калі-небудзь вершы Алеся Разанава на швэдзкай мове? А я чуў! Ягоны твор чытала журналістка са Стакгольму Марыя Сёдэрбэрг.

Але самае галоўнае — я на свае вочы пабачыў Людку Сільнову! Пазнаў яе дзякуючы таму здымачку, што "НН" ледзь не штонумар месьціць каля "казак жыцьця". Нават наважыўся пазнаёміцца, праўда не адразу.

**Яўген Саляйчук, Пінск**

## Dobry dzień, maja lubimaja hazeta!

**"NN" atrymlivaju ūžo daūno dziakujučy kłopatu j dobraj dušy Alesia Puškina, a potym jašče znajomym biełarusam u Irkuck dasylaju.**

Padpisała na "NN" na druhuju pałovu hodu dziciačuju biblijateku i maładuju radniu ū m.Haradku.

U maskoūskich biełarusaū źjaviūsia sajt, praūda, nie zusim pakul poūny. Ale, kali budzie volnaja chvilinka, možacie zazirnuć: www.geocities.com/hramada.

Pośpiechaūū Vam.

**Tajisa Miščanka, Maskva**

**Томас Венцлава ня толькі літаратар, гісторык і культуроляг, але й дысыдэнт, які зьехаў з Савецкага Саюзу на Захад у 1977 г. Большую частку свайго працоўнага часу ён аддае выкладаньню славянскіх моваў і літаратураў у Ельскім унівэрсытэце, што ў ЗША. Разам з тым, прафэсар Венцлава пільна сочыць за гісторыяй і разьвіцьцём беларускае культуры. Чытаў ён і аднолёную "Нашу Ніву".**

**На пачатку ХХ ст. Беларусь стала калыскаю многіх мастацкіх плыняў, што перадвызначылі шлях сусьветнага мастацтва. Ці можа паўтарыцца гэткі цуд? Якое месца займае панятак нацыянальнага ў сучаснай культуры? Што адметнага ў беларускім краявідзе і чаму мастак Марк Шагал беларус? Пра гэта супрацоўнікам "НН" распавядае літоўскі паэт і амэрыканскі прафэсар Томас Венцлава.**

# "Нашыя нацыі маладыя й моцныя..."

## *Гутарка з Томасам Венцлавам у віленскай рэдакцыі "Нашай Нівы"*




Томас Венцлава

**"НН": Скажыце, калі ласка, ці ёсьць у Вашым уяўленьні візуальны вобраз Беларусі?**

**Томас Венцлава:** Яшчэ ў раньнім юнацтве, у савецкія часы, я нямала падарожнічаў па Беларусі, асабліва па мясьцінах, цікавых і для літоўцаў, якія і нашая спадчына, — Наваградак з акругаю, Ліда, Гальшаны, Горадня. Я праплыў зь сябрамі на байдарках увесь Нёман, ад вёскі Пясочнае, ад Мікалаеўшчыны, дзе нарадзіўся Якуб Колас, і далей праз Стоўпцы, праз Горадню ў Літву да самага Балтыйскага мора. Было гэта ў 1957-м. Са сваім бацькам некалі быў на Нарачы. Тады ж былі ў Гервятах на Астравеччыне, дзе знайшлі літоўскамоўных жыхароў, якія тады ўтваралі большасьць. Словам, Беларусь больш-менш ведаю, ня раз быў у Менску, Віцебску, Магілёве, Гомелі — у мясьцінах, якія з традыцыйнай Літвой маюць мала супольнага. Так што гэты край мне знаёмы. Візуальна ён вельмі нагадвае Літву, падобная і архітэктура.

Бліжэй да Вільні — такія самыя каталіцкія барочныя касьцёлы, а калі цэрквы — дык і ў нас ёсьць падобныя цэрквы. Вельмі падобныя пэйзажы, і рака тая самая, і возера Нарач, якое большасьць літоўцаў заўсёды лічылі сваім, прынамсі часткова — такога ж вялікага свайго возера мы ў Літве ня маем, а Нарач такая літоўская па натуры, я б сказаў...

Бліжэй да Прыпяці, на Палесьсі — зусім іншыя пэйзажы, якіх у Літве амаль не сустрэнеш. Ці вось Белавежа, дзе я таксама быў, — такога дрымотнага лесу ў Літве цяпер таксама амаль няма... Беларускі пэйзаж больш аб'ёмны, грунтоўны, трывалы, шырэйшы, большага маштабу. Але так лягічна і натуральна пераходзіць адзін беларускі пэйзаж у другі. І, пераязджаючы мяжу, розьніцы амаль не заўважаеш. У гэтым сэнсе сумежжа нашых краёў яшчэ ад часоў Вялікага княства мала адрозьніваецца візуальна.

**"НН": Як на Вашую думку, творы Шагала, Суціна, Стамінскага ствараюць беларускую прастору? Ці сьведчаць яны пра беларускасьць?**

**Т.В.:** Я ведаю архітэктуру Беларусі — цэрквы, замкі. Ведаю Менск, Віцебск, іншыя месты. Але жывапісу і скульптуры амаль ня ведаю. Я чуў некаторыя імёны і бачыў некаторыя творы ў музэях, пераважна малацікавыя працы сацрэалізму. Але Шагала, Страмінскага, Малевіча — гэтых я ведаю добра...

У гэтым сэнсе людзі, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі і малююць яе ляндшафт, людзей, традыцыі, якія яны нясуць, пэўна, належаць і беларускай культуры, нават калі разам з тым яны далучаныя і да якой іншай культуры. Шагал таксама належыць і да французкай культуры, і да жыдоўскай. Ён пісаў жыдоўскія традыцыі, жыдоўскія нацыянальныя тыпажы, штодзённае жыцьцё гораду, які знаходзіцца, аднак, у Беларусі. Я мяркую, што гэта слушна — лічыць такіх творцаў беларускімі. Шагал, напэўна, у маленстве пераважна гаварыў на ідыш, але ў часы свайго юнацтва ў Віцебску гаварыў зь людзьмі па-беларуску. Так што гэта слушная пазыцыя — лічыць гэтых творцаў прыналежнымі да беларускае традыцыі часткова ці ў найбольшай частцы. Гэта пэўна тычыцца й Малевіча, які належыць і да расейскае культуры, бо доўгі час працаваў у Расеі. Гэтак жа ён належыць і сусьветнай культуры як пачынальнік абстракцыянізму. І Страмінскі — які нарадзіўся й правёў юнацтва ў Беларусі — прадстаўляе беларускую культуру. Файна, што беларусы лічаць Шагала сваім. А літоўцы ня здолелі прыўлашчыць свайго земляка Ліпшыца (Жак Ліпшыц, слынны скульптар-кубіст, нарадзіўся ў Друскеніках, у 18 гадоў эміграваў у Францыю. Яго-ная скульптура Божае Маці для кляштара ў Асы, 1956 г., лічыцца шэдэўрам у гэтым жанры. — **рэд.**). У Літве творцаў жыдоўскага паходжаньня прымаюць толькі часткова — тут ёсьць пэўны лятэнтны антысэмітызм, хаця я мяркую, што гэта казаць: маўляў, калі жыд, значыць — ня наш. Тым часам, калі ён жыў у Літве, працаваў у Літве — ён наш.

**"НН": Якое месца, на Ваш погляд, займае выяўленчае мастацтва ў сучаснай культуры?**

**Т.В.:** Сучаснае выяўленчае мастацтва перажывае пэўную крызу, бо мастацтва, якое было ў ХХ ст., нават абстрактнага, ужо няма. Мастацтва ёсьць канцэптуальнае, ёсьць мінімалісцкае, мастацтва ёсьць такое і гэткае, але традыцыйны жывапіс набывае найбольш маргінальнае значэньне. Ёсьць людзі, якія працуюць у гэтай сфэры, але менш, чым было. Надышлі новыя часы, часы інсталяцыяў, хэпінінгаў — я невялікі прыхільнік гэтага, але яны маюць сваю аўдыторыю, маюць права на жыцьцё. І ў такіх рэчах ужо цяжка вылучыць нацыянальныя традыцыі і міжнацыянальныя. Але ў выяўленчым мастацтве, наколькі яно ні было б фігуратыўным ці абстрактным, нацыянальныя элемэнты застаюцца. Нават калі мастак адмыслова да гэтага не імкнецца. Гэта ўсё роўна як паэт: ён піша на такой, а не на іншай мове. Так і мастак, які ўзгадаваўся ў Беларусі, нават вельмі мадэрнісцкі і інтэрнацыянальны, — непазьбежна, адмыслова да таго не імкнучыся, праявіць свае нацыянальныя рысы, элемэнты нацыянальнай школы ў ягонай творчасьці выявяцца. Справа крытыкаў — тыя рысы, элемэнты адсачыць. Творца можа быць вельмі інтэрнацыянальны ў сваёй творчасьці, працаваць недзе на чужыне, але, калі ён уважае сябе за беларуса, літоўца, паляка альбо немца (хоць жыве, да прыкладу, у Амэрыцы), напэўна будзе належаць да тае культуры, якую сам для сябе выбірае.

Вось вам прыклад, праўда, не з мастацтва, а зь літаратуры. Вы ведаеце такога францускага паэта, якога літоўцы трымаюць за літоўца, які нарадзіўся і вырас у Беларусі (у мястэчку Чарэя, цяпер Чашніцкі раён. — **рэд.**), — Оскара Мілаша. Цяпер якраз адзначаецца яго юбілей. Мяне нават абяцалі зь Менску адвезьці ў Чарэю, ягоны родны фальварак, дзе я ніколі ня быў, хоць я нават пераклаў на літоўскую мову некалькі ягоных вершаў. Цяжка сказаць, да якой культуры ён належыць. Пісаў па-француску, дык французы маюць права лічыць яго сваім — як Шагала, што жыў у Францыі, лічыць францускім мастаком жыдоўскага паходжаньня, беларускага паходжаньня. Літоўцы лічаць Мілаша літоўцам, бо ён быў прыхільнікам Літвы, працаваў на карысьць Літвы, супрацоўнічаў зь літоўскай амбасадай. Яго нават хацелі зрабіць літоўскім паслом, але ён адмовіўся, працаваў толькі дарадцам амбасадара. Палякі яго таксама лічаць сваім, бо ён паходзіць з польскамоўнай арыстакратыі. Яго маці была жыдоўкай, так што жыды таксама яго лічаць сваім. Ён і пісаў на жыдоўскія тэмы, у ягонай творчасьці вялікую ролю адыгралі кабалістычныя матывы, матывы Хагады, жыдоўскія традыцыі. Беларусы яго таксама лічаць сваім і маюць на тое падставы, бо ён нарадзіўся і вырас у тым пэйзажы, атачэньні. У яго творчасьці гэта адлюстравалася. Усё ж вельмі істотна, што чалавек абірае сам. Мілаш палітычна абраў Літву і сябе называў літоўцам, і таму, напэўна, літоўскі элемэнт, як мы яго вызначаем, у яго творчасьці больш важкі, чым які іншы. Хаця ён, несумненна, мае і шмат іншых элемэнтаў у сваёй творчасьці.

**"НН": Ці можна гаварыць пра тое, што нацыянальныя мастацкія школы ўсё ж існуюць па-за інтэрнацыянальным авангардным мастацтвам? І якое месца сёньня могуць займаць нацыянальныя асаблівасьці ў мастацкай культуры? Гэта анахранізм ці падмурак для "высокага" мастацтва?**

**Т.В.:** Я люблю мастацтва, я ведаю выяўленчае мастацтва — асабліва другой паловы ХХ ст. Пазьнейшыя павевы, сёньняшні дзень мастацтва мяне менш цікавяць, і я таму меней пра гэта разважаў. Сучаснае мастацтва, асабліва канцэптуальнае, у сваёй значнай частцы выражае сацыяльную і нават палітычную пазыцыю. Вельмі часта гэта *social political statement* — пэўныя "устаноўкі" сацыяльнай палітыкі. Як ні выглядае гэта дзіўным, гэта адпавядае колішняй агітацыйнай традыцыі ў мастацтве, якая нам у савецкія часы здавалася непрымальнай і чужой. На маю думку, найноўшае канцэптуальнае мастацтва менавіта гэтую нішу і займае — пэўных публіцыстычных заяў, публіцыстыкі. Часткова — і сфэру філязофіі. Думаю, што ў гэтак званых новых формах сучаснага мастацтва можна выявіць і пэўныя філязофскія погляды. Інакш, чым у жывапісе. Авангарднае мастацтва немалую ролю адыграла ў фармаваньні філязофскіх поглядаў у сьвеце — сродкамі выяўленчага мастацтва. Гэта рабіў наш Чурлёніс (які паходзіць з Друскенікаў, так што беларусы таксама могуць лічыць яго часткова сваім). Можна даць і іншыя прыклады — скажам, Сэзан. Несумненна, у яго творчасьці адчуваецца ясная філязофская пазыцыя. І Мэрлё-Панці пра гэта цэлае вялікае дасьледаваньне напісаў... Мастацтва пачатку ХХ ст., якое б яно ні было — сюррэалістычнае, рэалістычнае, абстракцыяністкае альбо постімпрэсіяністкае, — яно ўсё ж выражае пэўную філязофскую пазыцыю мастака. Але філязофскую пазыцыю можна выявіць і новымі формамі, якія для мяне больш чужыя, чым формы жывапісу ХХ ст.

Мяркую, што мастацтва заўсёды знойдзе спосабы заняць значную нішу ў грамадзтве, хоць ягоныя формы і зьмяняюцца. І што ўплывы мастацтва на грамадзтва ня звузяцца, нягледзячы на зьмены і разьвіццё формаў.

**"НН": Усё часьцей даводзіцца чуць, што сапраўднае мастацтва робіцца рэччу элітарнай, маладаступнай сярэдняму гледачу, адбываецца адчужэньне мастацтва ад большасьці людзей...**

**Т.В.:** Катэгарычна ня згодны! Возьмем ХІХ ст. Літоўскі ці беларускі селянін (а нашыя нацыі тады былі сялянскімі) бачыў мастацтва вакол сябе — народнае мастацтва, народныя строі, упрыгожаньні ў цэрквах, крыжы прыдарожныя, народную скульптуру. Ён ня быў адданы ад мастацтва, але ён зусім нічога ня чуў, ня ведаў пра Рэмбранта, Акропаль, Вэляскеса, Мікелянджэла. Цяпер сучасны чалавек — хаця межы ствараюць яшчэ праблемы — усё ж можа паехаць і пабачыць Рым, Эрмітаж, Вільню ці музэй Чурлёніса ў Коўне, ці Люўр у Парыжы. Пабачыць вялікае мастацтва людзі маюць больш магчымасьцяў, чым у ХІХ ст. Звычайныя людзі могуць больш. Хаця ня ўсе гэтыя магчымасьці выкарыстоўваюць і, можа, ня ўсе могуць імі скарыстацца. Апрача таго, ёсьць Інтэрнэт, таксама не для ўсіх яшчэ даступны, але зь цягам часу ён будзе рабіцца больш даступным. Ёсьць такія рэчы, як рэпрадукцыі, выдатныя альбомы, якіх не было ў ХІХ ці XVIII ст. З гэтага ўсяго можна атрымаць уяўленьне пра вялікае мастацтва, нават не наведваючы музэяў, ня бачачы арыгіналаў. Вядома, уяўленьне будзе няпоўнае, але сёе-тое будзе. Думаю, што чалавек ХХІ ст. да вялікага мастацтва можа далучыцца лягчэй і больш, чым 100—200 гадоў таму.

**"НН": Якая будучыня можа чакаць беларускую і літоўскую культуры ў кантэксьце сусьветнае глябалізацыі?**

**Т.В.:** Здараюцца нечаканыя рэчы. Вы ўзгадалі Віцебск — я сам вельмі зьдзівіўся, даведаўшыся, што быў такі момант, калі Віцебск быў найвялікшым мастацкім цэнтрам ў сьвеце. Напэўна большым, чым Парыж у той самы момант. Бо ў Віцебску працавалі Малевіч, Шагал, Лісіцкі і іншыя... У Віцебску ў тыя самыя часы жыў і Бахцін, зь імі ўсімі супрацоўнічаў. Так што Віцебск быў сусьветным мастацкім цэнтрам, хаця й нядоўга. А ці будзе нешта падобнае ў нас? Ці можна спадзявацца, што нашыя мясьціны — Беларусь, Літва — стануць цэнтрамі сусьветнага мастацтва, — цяжка сказаць. Але можна спадзявацца. Між іншым, Вільня лічыцца адным з найбуйнейшых ў сьвеце цэнтраў тэатральнага мастацтва. Я днямі ў Нью-Ёрку размаўляў зь Сьюзан Сонтаг, уплывовым і вядомым крытыкам. Дык яна кажа, што найлепшы ў сьвеце тэатральны рэжысэр жыве ў Вільні — Някрошус. Яна бачыла ягоных "Дзядзю Ваню" і "Гамлета", і нічога лепшага ў сусьветным тэатральным мастацтве ня ведае. Някрошус, Тумінас, Каршуновас сапраўды вядомыя. Можна казаць, што Вільня для сучаснага тэатру — можа, не як Віцебск некалі для мастацтва, але нешта параўнальнае... Можна верыць, што гэта ж станецца і зь Менскам, і, можа, з Магілёвам, і з Горадняй, з Гомелем. Нашыя нацыі яшчэ параўнальна маладыя, моцныя, і нашая маладосьць у гэтым сэнсе — карысная рэч.

**Гутарку да публікацыі падрыхтавала Тацяна Поклад**



На здымку ў віленскай Рэдакцыі "НН" (зьлева направа): Сяргей Дубавец, Тацяна Сапач, Томас Венцлава, Тацяна Поклад, Сяргей Харэўскі. Сьпераду Яўген Кепул.

# Азэрбайджан глядзіць на Захад

**Апошнім часам у сусьветнай палітыцы ўсё большую ролю пачынае адыгрываць так званы "каспійскі фактар". Багаты на запасы энэрганосьбітаў рэгіён Каспійскага мора прыцягвае значную ўвагу ўсіх "моцных гэтага сьвету" і падобна, што ў найбліжэйшым часе ён зробіцца галоўнай арэнай супрацьстаяньня паміж Злучанымі Штатамі і Расеяй. ЗША крэўна зацікаўленыя ў зьмяншэньні залежнасьці Захаду ад нафты краінаў Пэрсідзкае затокі. А Расея адразу па распадзе СССР абвясьціла гэты рэгіён "зонай сваіх жыцьцёвых інтарэсаў". Абмеркаваньне "каспійскага пытаньня" сталася абавязковым пунктам усіх "самітаў" кіраўнікоў гэтых дзяржаваў. Дый мэта вокамгненнага пашырэньня амэрыканскай прысутнасьці ў Цэнтральнай Азіі апошнімі месяцамі — найперш Каспій.**

**У гэтым кантэксьце найбольш цікавай і шматзначнай падаецца пазыцыя адной з прыкаспійскіх краінаў — Азэрбайджану. Сярод сваіх суседзяў ён пасьлядоўна "трымае абарону" супраць расейскай экспансіі ў рэгіёне. І дэманстратыўна чакае на "падмогу" з Захаду. Пра тое, што гэткая пазыцыя адной з былых рэспублік СССР не застаецца без увагі, ускосна сьведчыць нядаўні візыт у гэтую мусульманскую краіну папы Яна Паўла II. Пастарская місія пантыфіка ў край, дзе ўсяго каля 200 каталікоў, была больш падобная да акцыі па рэкламаваньні краіны на Захадзе.**

**Для большасьці ж беларусаў "краіна агнёў"*, нягледзячы на амаль 70-гадовае існаваньне ў рамках адзінай дзяржавы, дасюль застаецца "белай плямай". Між тым, з улікам паступовага выхаду Беларусі з-пад уплыву Масквы і неабходнасьці мець *уласную* замежную палітыку і займаць *уласную* пазыцыю па ўсіх праблемах, што хвалююць рэшту сьвету, варта лепш знаёміцца з нашымі верагоднымі контрагентамі ў гэтай палітыцы.**

**Прапануем ўвазе чытачоў скарочаны пераклад рэфэрату вядомага азэрбайджанскага палітоляга і тэлежурналісткі, віцэ-прэзыдэнткі незалежнай тэлекампаніі *EGM* Хіджран Аліевай на міжнароднай канфэрэнцыі "Ўсход—Захад. Набліжэньне і падзелы. Гісторыя і сучаснасьць" (Варшава, 10 траўня 2002).**

**Ігар Лялькоў**


*Нядаўна пабудаваны мячэт узвышаецца на фоне нафтавых вежаў на ўзьбярэжжы Каспійскага мора ў Баку.*

Былыя "братнія рэспублікі" СССР вельмі кепска ведалі адна адну. Перш за ўсё, з прычыны спэцыфічнай арганізацыі савецкае навукі, калі ўсё, што выклікала спрэчкі й парушала "ідэалягічнае адзінства", хавалася й замоўчвалася.

Савецкі міт пра ўсеагульны дабрабыт дарэшты вычарпаў сябе яшчэ да часоў "перабудовы". Аднак хтосьці яшчэ доўгі час не жадаў развітацца з ідэямі гегелеўскага духу (у асноўным гэта тычыцца расейцаў), хтосьці перакрочыў цераз сваю "савецкасьць" цывілізаваным спосабам (як краіны Балтыі), а хтосьці так да канца й не зразумеў, што ўвогуле быў ёй закраныты.

Азэрбайджанец ня мог прыняць савецкі міт з прычыны сваёй "прыземленасьці", скептычнага стаўленьня да любых міражоў, што выходзяць за рамкі штодзённага жыцьця. Ягоная прастора/час фармавалася вакол паняткаў "квартал" (паазэрбайджанску "мягяльля" — пэўная аўтаномія, а ня частка чагосьці, як у слове "квартал"), "сям'я", "кола крэўных" (паазэрбайджанску "гогум-яграба" — тая самая аўтаномія), "пяцідзённы сьвет" ("бешкюнлюк дун'я", то бок "ня варта штосьці плянаваць на тэрмін, большы за пяць дзён"). Ягоная сакральная прастора традыцыйна абмяжоўвалася домам і сям'ёю, куды савецкая ідэалёгія практычна не прасочвалася. Ён прызвычаіўся да таго, што навакольны сьвет варожы або прынамсі небясьпечны для яго й ягоных блізкіх, таму трэба да яго адаптавацца й ня брацца за справы, што выходзяць за межы забесьпячэньня сямейнага дабрабыту.

Азэрбайджанец ня быў "сапраўдным" падданым савецкай імпэрыі, не пачуваўся й грамадзянінам вялікай краіны (хіба адчуваў далучанасьць да перамогі ў "айчыннай вайне"), але ён прызвычаіўся жыць практычна без грамадзянскіх правоў, навучыўся па-майстэрску прыстасоўвацца.

Азэрбайджанец у савецкія часы атаясамліваўся з гандляром гвазьдзікамі на расейскім базары. Палову зароблених грошай ён выдаткоўваў на азэрбайджана-расейскія "сувязі", палову — на ліквідацыю наступстваў гэтых сувязяў у недалёкіх ад базару вэнэралягічных лякарнях. Пасьля вяртаўся да родных бакінскіх парнікоў, так і не пашпацыраваўшы па Краснай плошчы. Ён абсалютна не задумваўся пра тое, што менавіта Азэрбайджан доўгі час напалову забясьпечваў энэргарэсурсамі савецкую імпэрыю. Дагэтуль ад 1 да 3 мільёнаў азэрбайджанцаў зарабляюць менавіта ў Расеі.

Але звернемся да часоў "перабудовы" і распаду СССР, калі ўсё прыхаванае і прыцісну-тае пачало выходзіць вонкі. Адной зь першых праяваў гэтага стаўся канфлікт у Карабаху ў лютым 1988 г. Напярэдадні Акадэмія навук Арменіі напісала ў Маскву пэтыцыю, у якой прасіла перадаць Армянскай ССР тэрыторыі Нагорна-Карабахскай аўтаномнай вобласьці й Нахічэванскай АССР. Пасьля масавых выступленьняў тамтэйшых армянаў за далучэньне да Арменіі ў Азэрбайджан з Нагорнага Карабаху пайшлі першыя ўцекачы.

Аднак публікацыі пра канфлікт зьявіліся ў "цэнтральных газэтах" толькі пасьля падзеяў у Сумгаіце, дзе бежанцы-азэрбайджанцы ў сярэдзіне 1988 г. адказалі гвалтам на армянскія гвалты ў Сьцепанакерце. У расейцаў і іншых жыхароў эўрапейскае часткі СССР, што за доўгія паваенныя гады адвыклі ад масавага гвалту й беспарадкаў, падзеі ў Сумгаіце выклікалі шок.

Аднак савецкая масавая сьвядомасьць, не без дапамогі прэсы, хутка ўклала гэтую страшную падзею ў свае схемы. Аднавілася ўяўленьне пра нястрыманых, фанатычных і жорсткіх мусульманаў. Азэрбайджанцы — мусульмане-шыіты й цюркі адначасова — цудоўна адпавядалі двум аднолькава непрыемным стэрэатыпам. Як шыіты яны мелі "крэўныя сувязі" з іранскай рэвалюцыяй (цяпер месца іранцаў-шыітаў, увасабленьня "мусульманскай пагрозы", занялі вахабіты). Як цюркі яны былі амаль туркамі, уяўленьне пра якіх у Расеі зьвязанае з вобразам янычараў, што бязьлітасна забіваюць хрысьціянскіх жанчын і дзяцей. Ня дзіва, што большасьць насельніцтва Саюзу адразу ўзяла армянскі бок.

Тагачасная "цэнтральная прэса" поўнілася фантастычнымі малюнкамі падзеяў у Азэрбайджане. Сьвецкі Народны фронт мог быць названы ісламскай арганізацыяй, мітынгі ў падтрымку іранскіх азэрбайджанцаў — хамэйніцкімі.

Перапалоханае "расейскамоўнае" насельніцтва пачало выяжджаць з Азэрбайджану. Частымі зрабіліся выпадкі гвалту на расейскіх базарах, ахвярамі якіх сталіся тысячы мірных азэрбайджанскіх гандляроў. У азэрбайджанцаў усё гэта выклікала пачуцьцё адчаю, немагчымасьці прабіцца праз мур забабонаў, якія нараджалі дэзінфармацыю, што яшчэ больш замацоўвала гэтыя забабоны.

Народ, які прызвычаіўся быў да думкі, што адзіна магчымы шлях здабыцьця справядлівасьці — паскардзіцца "наверх", мусіў самастойна вырашаць свае праблемы. Магчыма, менавіта тады ўпершыню за 72 гады азэрбайджанец успомніў пра паняткак "свабода". Спачатку з "дому", са сваёй крэпасьці, выйшаў адзін, потым другі, трэці. Выйшлі тысячы й арганізавалі кругласутачныя мітынгі на плошчы Леніна, на плошчы Чырвонай арміі. Хто б ні знаходзіўся за кулісамі гэтых падзеяў, якімі б бязглуздымі акцыямі яны часам ні суправаджаліся, але менавіта тады выявіўся глыбінны інстынкт "прысутнасьці", "удзелу", "датычнасьці" да справаў сваёй краіны і ў гэтым сэнсе — да свабоды.

Але Расея заўсёды нагадвае "малодшым братам" пра сваё існаваньне: "Вы — не адны!" Крывавы ўваход савецкіх войскаў у Баку 20 студзеня 1990 г. выклікаў у азэрбайджанцаў шок. У сьвядомасьці цэлага пакаленьня адбыўся перелом у стаўленьні да Расеі. Падзеі асьвяжылі памяць пра Азэрбайджанскую Дэмакратычную Рэспубліку, пра яе ліквідацыю бальшавікамі праз 23 месяцы пасьля абвяшчэньня й пра крывавыя падзеі, што суправаджалі тут калектывізацыю. Усё паўтаралася. Доўгі час народ заставаўся ў здранцьвеньні. Самаўсьведамленьне было адсунутае на другі плян і падмененае разважаньнямі пра тое, што людзьмі на плошчы Чырвонай арміі маніпулявалі, што сярод іх былі правакатары. Масавая сьвядомасьць знайшла апраўданьне ўласнаму гвалту ў тлумачэньні, што ад "простага чалавека" ў гэтым сьвеце нічога не залежыць. Вось і зачыніўся азэрбайджанец ізноў у сваім доме, а пра атрыманьне незалежнасьці даведаўся з тэлевізіі. Праўда, кветкі са свайго парніка ён возіць ужо не на маскоўскія базары, а на магілы ахвяраў крывавых падзеяў 20 студзеня, палеглых за свабоду Азэрбайджанскай рэспублікі, тытулаваных шахідамі (мучанікамі). А што маем на сёньня? Карабахскае пытаньне так і ня вырашанае. Азэрбайджан страціў 20% сваёй тэрыторыі (сем раёнаў, прылеглых да Нагорнага Карабаху, трапілі пад армянскую акупацыю). Кангрэс ЗША ў 1992 г. прыняў "Акт аб ахове свабоды ў сувязі з карабахскім канфліктам", які фактычна азначаў забарону фінансавай дапамогі Азэрбайджану на ўрадавым узроўні (на сёньня прэзыдэнт Джордж Буш перапыніў дзейнасьць гэтага акту ў адказ на падтрымку Азэрбайджанам апэрацыі ў Аўганістане).

Сучасная палітычная дактрына Азэрбайджану абвяшчае сваёй мэтай пабудову дэмакратычнай дзяржавы заходняга тыпу. Аднак дэмакратыя цяжка замацоўваецца ў Азэрбайджане, бо надта ўжо ёй супярэчаць "звычкі" і глыбока традыцыяналісцкія каштоўнасьці грамадзтва. Разам з тым, у Азэрбайджане лібэральна-дэмакратычным прынцыпам няма ніякіх сур'ёзных альтэрнатываў — ані камуністычнай, ані "ісламісцкай". Адкуль жа ўзялося гэтае "заходніцтва"?

Каўказ здаўна цікавіў заходнія краіны багатымі нафтавымі рэсурсамі. Вядома ж, бяз нафты і прадуктаў зь яе немагчыма ваяваць. Падчас першае сусьветнае вайны Клемансо казаў, што "адна кропля нафты каштуе адной кроплі крыві нашых жаўнераў", а Гітлер падчас другой сусьветнай любым коштам імкнуўся авалодаць бакінскімі нафтавымі радовішчамі. Менавіта на бакінскіх сьвідравінах стварыў сваё вялізарнае багацьце фундатар Нобэлеўскай прэміі й вынаходнік дынаміту Альфрэд Нобэль. Ён характарызаваў гэты рэгіён наступным чынам: "Тут перамяшаныя нафта, кроў і палітыка". Гаспадарамі азэрбайджанскай нафты былі тады ангельцы і немцы. Толькі пасьля пераходу ўлады ў рукі бальшавікоў замежны капітал пакінуў гэты край.

У канцы XIX — пачатку XX ст. у Азэрбайджане вялася напружаная культурная праца, якая зрабіла азэрбайджанцаў першапраходцамі ў мусульманскім сьвеце. Тут зьявіліся першая опэра, першы тэатар, першы сатырычны часопіс "Мола Насрадын", слава якога разышлася далёка за межы Азэрбайджану, першая мусульманская газэта ў Расеі. Гэты ланцуг скончаецца абвяшчэньнем першае рэспублікі ў мусульманскім сьвеце — Азэрбайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі (Турцыя была другой), якая адначасна была першай азэрбайджанскай нацыянальнай дзяржавай, — і першым пераходам з арабскага альфабэту на лацінскі (Турцыя і тут пайшла за азэрбайджанцамі). Чачэнцы клічуць азэрбайджанскіх "нацыяналістаў" "кяфілі" ("няверныя", "тыя, хто згубіў веру"), бо нават ва ўмовах вайны з Арменіяй азэрбайджанскі нацыянальны рух застаўся "заходніцкім" і дэмакратычным. Нават згубіўшы 20% сваёй тэрыторыі, Азэрбайджан выступае за мірнае ўрэгуляваньне канфлікту з дапамогаю замежных назіральнікаў, а не імкнецца адваяваць свае землі. Цяжка сабе ўявіць, што б засталося, напрыклад, ад расейскага лібэралізму, каб Расея згубіла пятую частку сваёй тэрыторыі й была вымушаная прыняць 20 млн. бежанцаў (1,5 млн. для Азэрбайджану — тое самае, што 20 млн. для Расеі). Між тым, у сёньняшнім Азэрбайджане няма ніводнага паважнага палітычнага руху, які выступаў бы зь лёзунгамі антылібэралізму і антызаходніцтва.

Перад Азэрбайджанам стаіць мноства ўнутраных праблемаў. Трэба недзе разьмясьціць паўтара мільёна бежанцаў з акупаваных тэрыторыяў, знайсьці мірныя шляхі ўрэгуляваньня карабахскага канфлікту, хутчэй вызначыць статус Каспійскага мора... Шлях Азэрбайджану да дэмакратыі й дабрабыту абяцае быць доўгім і цяжкім, але з "заходняга" кірунку разьвіцьця гэтая краіна наўрад ці калі саб'ецца.

**Хіджран Аліева**


*Ян Павал II з Гейдарам Аліевым падчас двухдзённага візыту ў Арменію сёлета ў траўні*

*** Назва Азэрбайджан паходзіць ад пэрсыдзкага слова *азэр* ("агонь"). Азэрбайджан — "краіна агнёў", зямля, на якой гараць вечныя агні сьвятыняў зараастрызму — рэлігіі аўтахтонных пэрсыдзкіх насельнікаў гэтага краю.**

# Непаўторная музычная хімія

## *Гутарка з Роджэрам Уотэрзам*

**На стадыёне Гвардыі ў Варшаве 7 чэрвеня адбудзецца канцэрт Роджэра Ўотэрза, аднаго з заснавальнікаў "Пінк флойд". Ён напісаў бальшыню песьняў для такіх альбомаў гурту, як *"Atom Heart Mother"*, *"Wish You Were Here"*, *"The Wall"* ці *"Dark Side of the Moon"*. Апошні дыск, хоць з часу ягонае прэм'еры мінула 30 гадоў, штогод прадаецца ў колькасьці 2—3 млн. асобнікаў. У Варшаве Ўотэрз выканае таксама кампазыцыі з сваіх сольных альбомаў, кшталту *"Radio K.A.O.S."* ці *"Amused to Death"*. Гэты музыка шмат гадоў не канцэртаваў у Эўропе. З нагоды сёлетняга туру выйшаў ягоны новы альбом *"Flickering Flame"* зь невядомымі вэрсіямі ранейшых кампазыцыяў, а таксама "Анталёгія тэкстаў і перакладаў" Уотэрза.**



**— Вы ня любіце выступаць на стадыёнах: падчас прэзэнтацыі "*Dark Side of the Moon*", ня вытрываўшы тлуму й гвалту, нават плюнулі ў твар аднаму з найбольш агрэсіўных фанаў. Але ў Варшаве Вы абралі стадыён...**

— Мая нехаць да канцэртаў на стадыёнах зьявілася ў 70-х ад агульнай стомленасьці жыцьцём у гурце, ад прадчуваньня ягонага распаду, а не таму, што я не люблю шматтысячных аўдыторыяў. Так, у Паўднёвай Амэрыцы я мусіў граць на стадыёнах, бо ладзіць імпрэзы для меншай колькасьці публікі там ня мае сэнсу. Шоў у Сан-Дыега сабрала 42 тысячы фанаў — гэта была найбольшая аўдыторыя ў маёй сольнай кар'еры. Але на канцэрце мы здолелі стварыць атмасфэру інтымнасьці, блізкага кантакту.

**— Ці праўда, што Вы нядаўна сустракаліся з колішнім калегам па "Пінк флойд" Нікам Мэйсанам, зь якім пасьля выхаду з гурта кантактавалі толькі празь юрыстаў?**

— Мы ня бачыліся 15 гадоў. Я падумаў, што гэта нонсэнс. На адным пікніку падышоў да Ніка ззаду і, як стары сябар, ляпнуў яго па плячы. Калі ён азірнуўся, дык ад зьдзіўленьня мала ня грымнуўся вобзем. Калі ачомаўся, запрасіў мяне на вячэру. Мы прыемна пагаварылі пра супольных знаёмых.

**— Але пра "Пінк флойд" не гаварылі?**

— Тэма ўсплыла сама сабой, пагатоў Нік піша кнігу пра "Пінк флойд". Ён зьвяртаўся да мяне па дапамогу, за што я яму вельмі ўдзячны. Бо, пачаўшы ўспамінаць, мы высьветлілі, колькі ўсяго кожны з нас ня памятаў. Нік спадзяецца, што ў ягонай кнізе ня будзе ніводнай суб'ектыўнай пэрспэктывы, — ён правярае факт за фактам, даючы кожнаму магчымасьць выказацца. Працуе як салідны журналіст. Спадзяюся, і кніга атрымаецца салідная й вычарпальная.

**— А як складаюцца Вашыя стасункі зь іншым калегам па "Пінк флойд" — Рыкі Райтам?**

— Ён прыходзіў на адзін з маіх канцэртаў у Злучаных Штатах. Яму спадабалася, пасьля выступу ён знайшоў мяне ў грымёрцы, мы пагаманілі, выпілі. Было прыемна.

**— А з Дэйвідам Гілмарам вы не падтрымліваеце сувязяў?**

— Мы ня бачыліся колькі гадоў. Але да мяне ўвесь час даходзяць зьвесткі пра тое, што ён робіць. Нядаўна я чуў, што ад манумэнтальных канцэртаў ён перайшоў да больш камэрных. Адзін раз іграў у Лёндане, другі — у Парыжы. Прасіў згоды надрукаваць мае тэксты на DVD-дыску. Менавіта дзеля яго выданьня Дэйвід ладзіў тыя канцэрты. Ясная рэч, я даў згоду. Чаму не?

**— Скажыце шчыра, Вы шанавалі таленты сваіх калегаў ці лічылі, што "Пінк флойд" — гурт аднаго музыкі, Роджэра Ўотэрза?**

— Я заўжды падкрэсьліваў, што тую непаўторную музычную хімію мы стваралі разам. Ну, можа, унёсак мой і Дэйвіда Гілмара быў крыху большы, але бяз таленту Рыка і Ніка мы не стварылі б гурта, які даў людзям столькі музычнай радасьці.

**— У ЗША разышлося больш за тры мільёны асобнікаў Вашага супольнага дыску *"Echoes"*. Але многім слухачам не спадабалася задума зьмешваць кампазыцыі з розных альбомаў гурта. Яны б аддалі перавагу храналягічнаму парадку.**

— Я пратэставаў супраць такога складаньня альбому, але ня змог пераканаць. Не хацелася сварыцца, бо гаворка ішла пра кампазыцыі з двух альбомаў "Пінк флойд", выдадзеных ужо безь мяне.

**— Што Вы думаеце пра тыя альбомы?**

— "*Momentary Lapse of Reason*" я слухаў толькі раз, мне спадабаліся дзьве кампазыцыі. Я ведаю гісторыю стварэньня альбому: хлопцам давялося паўтараць музычную сэсію, бо першы запіс наагул не нагадваў "Пінк флойд". Сумна гэта. Другі альбом, "*Division Bell*", не магу назваць інакш як "ужытковы". Яго запісалі, бо трэба было мець нагоду для чарговага сусьветнага канцэртнага турнэ. Гэты альбом — сапраўднае музычнае сьмецьце. Дэйвід выдатны гітарыст, ён файна сьпявае, але я не лічу яго добрым кампазытарам. Няхай піша музыку для сваёй жонкі.

**— Посьпех *"Echoes"* сьведчыць, што слухачы прагнуць новых кампазыцыяў "Пінк флойд". Ці ня хочаце Вы аднавіць гурт?**

— Усё мінае, людзкія повязі распадаюцца. Калі мы пісалі апошні супольны альбом "*Final Cut*", нашыя музычныя і палітычныя прыхільнасьці розьніліся настолькі, што цяжка было казаць пра далейшае суіснаваньне.

**— Ці слухаеце вы свае старыя альбомы?**

— Я граю доўгія, па дзьве з палова гадзіны канцэрты і таму штоазу мушу падбіраць рэпэртуар, каб прапанаваць фанам самае цікавае. Перад папярэднім турнэ 1999 г. я пераслухаў усе альбомы.

**— Ня верыцца, што Вы ня памятаеце свайго найслыньнейшага альбому *"Dark Side of the Moon"*...**

— Вядома, памятаю, але вельмі люблю яго слухаць. Я ганаруся гучаньнем, якога мы здолелі дасягнуць. Шмат нашых альбомаў цікавыя ў музычным сэнсе, але гучаць жудасна. "*Dark Side of the Moon*" гэта ня тычыцца. Гэта насамрэч добры альбом!

**Паводле *"Rzeczpospolitej"***

# Інфармацыя для бацькоў

**У сувязі з пачаткам набору ў падрыхтоўчыя і першыя клясы нагадваем вам, дзе ў Менску ёсьць беларускія школы і клясы.**

Беларуская школа-гімназія №23, што ў цэнтры гораду (пр.Скарыны, 45, раён пл.Якуба Коласа), набірае дзяцей у падрыхтоўчую клясу. З 1-й клясы там паглыблена вывучаецца ангельская мова. Тэлефоны школы: 284-91-69, 284-47-62.

**Беларускія школы:**

| Раён Менску | Школа | Адрас | Асаблівасьці школы |
|---|---|---|---|
| Заводзкі | 68 | зав.Ахоцкі, 17 (раён вул.Енісейская, Алтайская) | Ангельская мова з падрыхтоўчай клясы |
| Заводзкі | гімназія 14 | вул.Васьняцова, 10 (раён Партызанскага пр., вул.Пляханава) | Паглыбленае вывучэньне ангельскай мовы+ням. мова, ёсьць басэйн |
| Заводзкі | 131 | вул.Убарэвіча, 74 (Чыжоўка) | Ангельская мова, харэаграфічны ўхіл, паглыбл. вывучэньне матэматыкі з 8-й кл. |
| Кастрычніцкі | 89 | вул.Пухавіцкая, 21 (Курасоўшчына) | Ангельская мова, фіз.-мат. ухіл з 8-й клясы |
| Кастрычніцкі | 110 | вул.Берасьцейская, 66 (раён вул.Казінца) | Ангельская мова з падрыхтоўчай клясы, эканамічны профіль |
| Ленінскі | 2 | пр.Ракасоўскага, 93 (Серабранка) | Паглыбленае вывучэньне францускай мовы + ангельская мова |
| Маскоўскі | 60 | вул.Лібкнэхта, 82 | Ангельская мова, фіз.-мат. ухіл з 8-й клясы |
| Партызанскі | 72 | вул.Халмагорская, 59 (Дражня) | Ангельская мова з падрыхтоўчай клясы |
| Першамайскі | гімназія 9 | вул.Сядых, 10 (Зялены Луг) | Агульнаэстэтычны ўхіл, ангельская мова |
| Першамайскі | 190 | вул.Нікіфарава, 19 (Уручча) | Агульнаэстэтычны ўхіл, ангельская мова |
| Фрунзэнскі | гімназія 4 | вул.Кунцаўшчына, 18 | Ангельская + нямецкая + польская ці баўгарская мовы |
| Цэнтральны | гімназія-ліцэй 26 | вул.Камуністычная, 52 | Мастацкі ліцэй, набор вядзецца ў 1-ю клясу |

**Школы (сьпіс няпоўны), у якіх ёсьць як беларускія, так і расейскія клясы.**

| Раён Менску | Школы |
|---|---|
| Заводзкі | 210 (Шабаны) |
| Кастрычніцкі | 11 |
| Ленінскі | 15, 29, 40 |
| Маскоўскі | 218,209 (Малінаўка) |
| Партызанскі | 86, 108 |
| Першамайскі | 84 (вайсковы гарадок Уручча) |
| Фрунзэнскі | 81 |
| Цэнтральны | 37 |

Па дадатковую інфармацыю зьвяртайцеся ў Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, т.: 213-43-52 (з 12.00 да 18.00), e-mail: tbm@tbm.lingvo.minsk.by, Адрас: вул.Румянцава 13, 220005, Менск.

ВОДГУК

# Аднавіць паветы

**Наконт плянаў узбуйненьня беларускіх раёнаў: ня трэба прыдумляць ровар, а варта ўспомніць традыцыі ВКЛ і аднавіць ваяводзтвы. Іх было восем у XVII—XVIII ст.: Віленскае (з 4 паветаў якога Ашмянскі і Браслаўскі — у Беларусі); Троцкае (Гарадзенскі і Лідзкі паветы ў Беларусі); Менскае (Менскі і Рэчыцкі паветы); Наваградзкае (Наваградзкі, Слонімскі, Ваўкавыскі паветы); Полацкае (Полацкі павет); Віцебскае (Віцебскі і Аршанскі паветы); Берасьцейскае (Берасьцейскі і Пінскі паветы); Амсьціслаўскае (Амсьціслаўскі павет).**

Якая з гэтага карысьць? Па-першае, сфармаваныя стагодзьдзямі культурныя рэгіёны зноў злучацца. Дастаткова параўнаць падзел паветаў з сучаснымі раёнамі, каб убачыць, што нарабіла савецкая ўлада, як яна парэзала па жывым усю старую сыстэму. Так, старажытны Тураў, які гістарычна і прыродна быў зьвязаны зь Піншчынай, у Гомельскай вобласьці зусім заняпаў. Па-другое, адновяцца магутныя калісьці, а сёньня занядбаныя гістарычныя цэнтры, кшталту Амсьціслава. Стварэньне фэдэральных земляў будзе новым моцным штуршком да разьвіцьця краіны, умацуе мясцовае кіраваньне. Да таго ж, адновіцца наша гістарычнае права на ВКЛ. Бо дагэтуль на Захадзе лічаць Беларусь за негістарычную краіну, якая ніколі ня мела ўласнай традыцыі дзяржаўнасьці. Гэткі імідж вельмі кепскі. Таму, як казаў Скарына, "ды не мінуць табе прыпавесьці старых людзей, яны жа навучыліся суць у продкаў сваіх". Прапаную падыскутаваць наконт гэтага.

**Андрэй Катлярчук, Школа балтыйскіх і ўсходнеэўрапейскіх дасьледаваньняў Унівэрсытэту паўднёвага Стакгольму**

# *Кнігі поштай*

| Назва | Цана |
|---|---|
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №7 "Слоўнік свабоды" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №9 "Мэдыцына" | **1500 р.** |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №5 "Украінскі нумар" | **3500 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №4 | **1000 р.** |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №6 | **1000 р.** |
| **Vostraja Brama 0: Глёбус Адам.** "Post Scriptum". 176 с. | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 1: Быкаў Васіль.** "Пахаджане". 192 с Кніга прыпавесьцяў, напісаных за час побыту пісьменьніка ў Фінляндыі і Нямеччыне | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 3: Лукашук Аляксандар.** "У фіялетавай ночы вугал крыла". 160 с. Кніга пра БССР 80-х. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце "Звязда", аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага "гома саветыкуса" | **2600 р.** |
| **Vostraja Brama 5: Глёбус Адам.** "Браслаўская стыгмата". 192 с. Новая кніга Адама Глёбуса, якую склалі апавяданьні апошніх гадоў | **2600 р.** |
| **Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.** 480 стар. Зборнік артыкулаў, падрыхтаваных аналітычнай групай (Менск) і Цэнтрам дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе (Варшава), пад рэд. Валер'я Булгакава | **3000 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 4. Сшытак 1-2(6-7).** 318 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 1 (8).** 288 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 5. Сшытак 2 (9).** 692 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 6. Сшытак 1-2 (10-11).** 400 с. Часопіс | **2400 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 1 (12).** 302 с. Часопіс | **1800 р.** |
| **Беларускі гістарычны агляд. Том 7. Сшытак 2 (13).** 622 с. Часопіс | **1800 р.** |
| Біб-ка "БГА" 2: **Кандыбовіч Сымон. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі.** 160 с. Праца Сымона Кандыбовіча (1891—1972) — адна зь першых спробаў дасьледаваньня гісторыі бальшавіцкіх рэпрэсіяў супраць інтэлігенцыі. Тэкст напісаны ў эміграцыі ў 1950-я. Асаблівую цікавасьць маюць аўтарскія характарыстыкі і замалёўкі, створаныя відавочцам падзеяў — кіраўніком справаў ураду БССР у 30-я гады. | **3000 р.** |
| Біб-ка "БГА" 6: **Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах.** 274 с. Укладаньне: У.Ляхоўскі, У.Міхнюк, А.Гесь. Выданьне, прысьвечанае гісторыі антыбальшавіцкага паўстаньня 1920 г. на Случчыне, уключае дакумэнтальныя матэрыялы з архіваў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расеі, прэсавыя паведамленьні, успаміны ўдзельнікаў, а таксама дакумэнты з архіваў КДБ. | **4500 р.** |
| Біб-ка БГА 7: **Панькоў Мікола. Хроніка беларускага жыцьця на чужыне (1945-1984).** 332 с. Гэта — адмысловая энцыкляпэдыя эміграцыйнага жыцьця. Аўтар сабраў усе магчымыя зьвесткі пра акцыі, сьвяты, імпрэзы беларускіх дзеячоў, што воляю лёсу апынуліся на чужыне. Кніга зьмяшчае шмат фатаздымкаў з жыцьця беларускай эміграцыі. | **3200 р.** |
| Біб-ка БГА 8: **Туронак Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939-1944).** 144 с. Манаграфія Юр'я Туронка прысьвечаная праблеме беларускай кнігавыдавецкай дзейнасьці ў гады другой сусьветнай вайны. Аўтарам складзены каталёг усіх беларускіх кніг зь іх падрабязным бібліяграфічным апісаньнем. Выданьне дапоўненае біяграмамі ўдзельнікаў выдавецкага руху. | **4200 р.** |
| Біб-ка БГА 9: **Тумаш Вітаўт. Выбраныя працы.** 246 с. Вядомы эміграцыйны гісторык, грамадзкі дзеяч і публіцыст Вітаўт Тумаш (1910—1998) вяртаецца ў Беларусь. У першую айчынную кнігу яго працаў увайшлі канцэптуальныя артыкулы, друкаваныя ў эміграцыйных часопісах, а таксама няскончанае дасьледаваньне жыцьця і навуковай спадчыны Яўхіма Карскага. | **3000 р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.15: Мікалай Улашчык. Выбранае.** 608 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшло самае істотнае з навуковай спадчыны Мікалая Ўлашчыка, а таксама краязнаўчыя нарысы, мэмуары, лісты. | **3300р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.16: Яўхім Карскі. Беларусы.** 640 с., цьвёрдая вокладка. Ураджэнец Наваградчыны, акадэмік Расейскай імпэратарскай акадэміі навук Яўхім Карскі (1861—1931) усё жыцьцё вывучаў этнічную гісторыю беларусаў. Вынікам сталася шматтомнае дасьледаваньне "Беларусы". У кнізе — першы і трэці тамы "Беларусаў", якія не перавыдаваліся з 1916 г. | **4200р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.18: Цётка. Выбраныя творы.** 336 с., цьвёрдая вокладка. Самае поўнае выданьне твораў Цёткі (Алаізы Пашкевіч). | **3000р.** |
| **Беларускі кнігазбор т.19: Натальля Арсеньнева. Выбраныя творы.** 592 с., цьвёрдая вокладка. У кнігу ўвайшлі ўсе самыя значныя творы Натальлі Арсеньневай: лірычныя вершы, лібрэта, пераклад "Песьні пра зубра" Гусоўскага, успаміны, лісты. | **4000р.** |
| **Беларускія маршы і песьні.** 62 с. Зборнік патрыятычных песень з нотамі | **1000 р.** |
| **Быць альбо ня быць сярэднеэўрапейцам.** Сучаснае польскае мысьленьне. 472 с. | **1800 р.** |
| **Дубавец Сяргей.** "Дзёньнік прыватнага чалавека". 80 с. | **1000 р.** |
| **Ёрш Сяргей.** "Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў". 36 с. | **1200 р.** |
| **Нацыяналізм у сьвеце (частка другая).** 54 с. | **840 р.** |
| **Нацыянальнае пакліканьне.** 24 с. Брашура асноўных тэзаў пра дзяржаватворчыя чыньнікі. | **840 р.** |
| **Нісбэт Робэрт. Кансэрватызм: мара і рэальнасьць.** 136 с. Клясычнае дасьледаваньне палітычнага кансэрватызму. | **2000р.** |
| **Паліталёгія.** Асноўны курс. 680 с. Перакладзены зь нямецкае мовы фундамэнтальны падручнік паліталёгіі, напісаны прафэсарамі паліталёгіі ўнівэрсытэтаў Франкфурту-на-Майне, Бэрліну, Мюнстэру і г.д. | **3600 р.** |
| **Раманюк Міхась. Беларускія народныя крыжы.** Манаграфія. | **45000р.** |
| **Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII стагодзьдзя.** 412 с. Цьвёрдая вокладка. Сьціслы выклад гісторыі Беларусі ад найдаўнейшых часоў да яе ўключэньня ў склад Расейскай імпэрыі. | **4800 р.** |
| **Сагановіч Генадзь. Невядомая вайна: 1654-1667.** 144 с., цьвёрдая вокладка. У кнізе асьвятляюцца драматычныя падзеі самай страшнай для Беларусі вайны. | **2400 р.** |
| **Станкевіч Ян. Збор твораў у 2-х тамах.** 1-ы 552 с., 2-гі 586 с. У 1-ы том Збору твораў мовазнаўцы Яна Станкевіча (1891—1976) увайшлі працы, напісаныя паміж 1918 і 1951 г., у 2-і — паміж 1951 і 1973 г. Пераважная бальшыня апублікаваных твораў раней была недаступная беларускаму чытачу. | **7200 р.** |
| **Харэўскі Сяргей.** "Зьвяры-суайчыньнікі". 92 с. Кніжка прапануе чытачу незвычайны погляд на жывёльны сьвет Беларусі. Прадмову напісаў У.Арлоў | **500 р.** |
| **Хрысьціянскі філязофскі зборнік.** 168 с. Укладзены з артыкулаў сучасных філёзафаў (Ж.Кацье, Д.Басьці, А.Малінара, Б. дэ Анджэліс і інш.), якія разглядаюць праблематыку магчымых кірункаў актуальнай хрысьціянскай філязофскай думкі ў яе тэарэтычным і гістарычным аспэкце. | **1200 р.** |

Цэны ў каталёгу — для Менску. Для рэгіенаў прадугледжаныя зьніжкі (30% — для распаўсюднікаў і аптовых пакупнікоў, 10% — для прыватных асобаў) Да супрацоўніцтва запрашаюцца таксама выдаўцы, зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі праз сыстэму "Кнігі-поштай".

Каталёг з вокладкамі і анатацыямі можна пабачыць у Інтэрнэце: http://knihi4u.cjb.net
Кантакт: п/с 537, 220050, Менск; пэйдж.: 289-12-12 аб.116133; e-mail: exlibris@tut.by
Шаноўнае спадарства! Калі дасылаеце замовы, падавайце падрабязныя і дакладныя зьвесткі пра сябе і як мага больш кантактаў (тэлефон, пэйджэр, e-mail) для найхутчэйшага выкананьня вашых замоваў.

# Піт Паўлаў: “Вольскі нікому не дае сьпяваць”

**Піт Паўлаў — адзін з самых харызматычных беларускіх рок-музыкаў. Сваім калярытам ён не саступае калегу Вольскаму, разам зь якім утварае на сцэне пярэдні край Незалежнай Рэспублікі Мроя. Адзін мой сябрук параўнаў яго неяк з Эджам — гітарыстам "U2", які таксама на канцэртах працуе ў пары з Бона, адціскаючы ў цень басіста й бубнача. Зрэшты, на гэтым падабенства сканчаецца: музычныя густы ў Піта з Эджам дастаткова розныя і, самае галоўнае, не чуваць, каб апошні граў у нейкіх іншых праектах, апроч "U2". Тым часам, Піт ужо пакінуў за плячыма "Крыві", гурт Аляксея Шадзька, "Народны альбом", "Я нарадзіўся тут"... Цяпер ён, паралельна з працай у "NRM", робіць два ўласныя сольныя праекты. Такой прадукцыі на беларускім музычным рынку пакуль бракуе. На ўскідку згадваюцца хіба альбом "Жывем" Аляксандра Кацікава на вершы Ларысы Геніюш, выдадзены пад шыльдай "Песьняроў", ды "Цацачная крама" Вайцюшкевіча. Адзін зь Пітавых праектаў — "Гарацкія" — ужо заяўлены сынглам з шасьцю песьнямі. На хвалях Беларускай службы радыё "Свабода" зь Пітам Паўлавым гутарыў Зьміцер Падбярэскі.**


УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

**Піт Паўлаў:** “Гарадзкія” — гэта слова, якім людзі карыстаюцца, яно існуе ў побыце, ёсьць нават такая фраза: “Пагналі нашы гарадзкіх”. Вось такі сэнс мы ўкладалі ў назву праекту, толькі што само слова напісанае адмыслова з памылкай. Бо часам мы ўяўляем сябе занадта гарадзкімі, забываемся нават, адкуль мы паходзім. А кожны гарадзкі мусіць разумець, што горад — вельмі ўмоўная рэч, асабліва сёньня, калі ў вёсцы можна мець кампутар і, падлучыўшыся да Інтэрнэту, не адчуваць ніякіх праблемаў з камунікацыяй. Горад — гэта проста месца, дзе ты тусуешся, жывеш, і болей нічога!

**— Назва праекту ўплывае на музыку?**

**П.П.:** Так! Мы робім такую ўрбаністычную музыку, яна прызначаная для выкананьня ў маленькіх клюбах, у канцэртных залях, можа выконвацца і на пленэрах. У ёй гарадзкая энэргія, асацыяцыі: асфальт, ліхтары, трамваі — гэта ўсё горад.

**— І што, ніякае прывязкі да “роднага карэньня”?**

**П.П.:** Як гэта? Хіба я мог ня выканаць у новым праекце народны твор? Усё сваё музычнае жыцьцё імкнуся спалучаць рокавую традыцыю зь нейкай аўтэнтычнай беларускай. Гэта чуваць яшчэ на першых альбомах “NRM”, дзе менавіта з майго пасылу былі зробленыя апрацоўкі народнай “Мела мамка тры сыночкі” ды іншых песень. Я ўвесь час імкнуўся ўкладаць у рокавыя песьні такія цытаты з фальклёру — імітаваць на гітары гучаньне дуды ці яшчэ нейкіх інструмэнтаў.

Цяпер мне ўжо больш цікава выкарыстоўваць сапраўдныя народныя інструмэнты: дарбуку (на ёй у “Гарацкіх” грае Масуд Талібані, наш беларускі курд), домру, мандаліну — на іх ужо я рэжу. Ліра ў праекце таксама будзе, магчыма, нават дуда, але ў мяне няма пакуль дуды. Цяпер вось нечакана зьявіўся ў нас такі інструмэнт, ён не традыцыйны беларускі, але акустычны — туба.

**— Гэта замест бас-гітары?**

**П.П.:** У “Гарацкіх” яны гучаць разам. У тубы вельмі аўтэнтычнае гучаньне, яно мне вельмі падабаецца.

**— А тое, што Піт Паўлаў, які раней ня надта быў заўважны ў вакальным майстэрстве, тут сьпявае — гэта таксама частка агульнай задумы?**

**П.П.:** Адна з галоўных! Я ўвесь час хацеў сьпяваць...

**— А Вольскі не даваў...**

**П.П.:** Вольскі нікому не дае побач з сабой сьпяваць. Трэ было неяк выйсьці з гэтай сытуацыі.

**— Чаму сольны праект рабіўся бяз звыклых калегаў?**

**П.П.:** Гэта таксама частка агульнай задумы. У мяне багата вучняў, багата інтарэсаў па-за традыцыйнай рок-тусоўкай... Часам мне гэтая тусоўка вельмі падабаецца, аднак яна дужа вузкая. Адны й тыя самыя твары, музыкі... Таму я наагул ня ўдзельнічаў у апошніх праектах Алеся Сушы — мне стала дзіка нецікава. Я вырашыў знайсьці новых людзей. Толькі адзін чалавек са старога атачэньня — Алезіс Дземідовіч — грае на бубнах у “Гарацкіх”, бо мне вельмі лёгка працаваць зь ім у творчым пляне. У яго ёсьць досьвед, якога няма ў мяне.

Наш басіст Лёша — зусім малады. Тыя, хто ходзіць у клюбы, могуць ведаць яго па гурце “Папэнкінз Бэнд”. Гэта зусім маладая кроў. Чацьверты музыка — гітарыст, як мы сьмяёмся — лідэр-гітарыст, — Дзяніс Савік.

**— Ён што, самога Піта Паўлава адсунуў?**

**П.П.:** Я б хацеў, каб ён мяне адсунуў. Каб я рабіў нейкі моцны гітарны рыф, а ўжо фарбы ўсе дадаваў бы лідэр-гітарыст...

**— Ці ёсьць у Беларусі патэнцыйныя магчымасьці для стварэньня менавіта сольных праектаў і чаго можна наагул чакаць у гэтым напрамку?**

**П.П.:** Глеба нераспрацаваная. Добрыя прыклады — гэта Вольскі, я. Сольна працуе Шадзько: ён стварае песьні сам ад пачатку да канца.

**— Але аўтарства пазначанае “Аляксей Шадзько і гурт “Сястра”.**

**П.П.:** Калі зьявілася “Сястра”, я і пайшоў ад Шадзька. Я не хацеў граць у тым гурце. Гэта халодныя прафэсіяналы найвышэйшага гатунку, якія толькі ўвасабляюць сольныя ідэі Аляксея Шадзька.

**— Хто зь беларускіх музыкаў здольны нечакана стрэліць “сольнікам”?**

**П.П.:** Памідораў робіць свой доўгачаканы сольны праект. У мяне вось робяцца два. Яны ідуць паралельна, але перавагу я аддаю “Гарацкім”...

**— А які другі?**

**П.П.:** Мы завём яго “Піт-Паф”. Граем канцэрцікі вельмі маленькім складам, фолькавыя песенькі ці зробленыя пад фольк, з акустычным гучаньнем і ў зусім іншым кірунку.

**— І хто там з табой?**

**П.П.:** Таксама новыя ўсё твары. Ёсьць такі Андрэй Сапоненка, мы зь ім супрацоўнічаем вельмі даўно, яшчэ з часоў “Флэту”, я граў там амэрыканскі блюз і рок-н-рол. У мяне ён грае на дарбуцы. У маіх праектах гэты інструмэнт — галоўны, ён стварае груў музычны, само тло. І таму агульнае гучаньне атрымліваецца крыху ўсходняе. Можна, вядома, было рабіць, як кажуць, кансэрвы музычныя: кансэрваваць беларускую традыцыю. Найлепшы сярод калектываў, якія такімі рэчамі займаюцца, — “Ліцьвіны”. Але я так не магу і не хачу. Я на беларускую музычную этнатрадыцыю гляджу празь нейкія сучасныя сусьветныя тэндэнцыі. Гэта галоўная нашая задача — “Гарацкіх”, “Крыві”, “Тройцы”, “Піт-Пафу”, “Палацу”, “Юр'і” — абвесьціць на ўвесь сьвет ня толькі пра тое, што беларуская музычная традыцыя існуе, але й што гэта адна з самых цікавых на сёньня традыцыяў — бо не да канца распрацаваная і пакідае магчымасьць для творчасьці.

**— Цікавейшая за ірляндзкую?**

**П.П.:** Што там ірляндзкая! Яна ўжо выглядае як застольныя сьпевы, хоць напачатку гэта быў дастаткова арыгінальны музычны напрамак. А нашая музыка яшчэ існуе ў першабытным выглядзе, і любыя яе апрацоўкі выглядаюць так цікава, яны такія дзікія... Зрэшты, пераважная іх бальшыня рабілася ў межах саўдэпаўскай традыцыі... Самая ж старажытная хваля фальклёру наагул яшчэ не распрацоўвалася. А менавіта гэты фальклёр самы цікавы.



УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

дыскаграфія

# Баліць галава

“Крамбамбуля. Застольны альбом”. Розныя выканаўцы. (р) 2002

Прэзэнтацыя гэтага альбому выклікала болей станоўчых эмоцыяў, чым ён сам. “Крамбамбуля” пасьля неаднаразовай дэгустацыі сапраўды паўплывала на галаву, але рэцэптура музычнага кактэйлю з 14 інгрыдыентаў-песень падалася мне сумнеўнай.

Альбом прымусіў пра сябе гаварыць ня толькі ў музычным асяродку. Па-першае, ён мае выразную канцэпцыю. Па-другое, добра выкананы (за выключэньнем, бадай, грузінскай песьні) і запісаны. Па-трэцяе, гэта сапраўды арыгінальны прадукт, здольны надоўга ўбіцца ў памяць. І ўсё ж галава ад яго баліць.

Такое бывае, калі на гулянцы намяшаеш усяго многа і адразу. Праект з самага пачатку задумваўся як пацяшальны, што лішні раз падкрэсьліў сам Лявон Вольскі, а таму ў “Крамбамбулі” зьліліся ў адно і сьцёб, і стылізацыя, і прыколы, і іншыя малавытлумачальныя рэчы, якія з патрэбы мець на ўсё адпаведны ярлык проста называюць постмадэрнізмам.




“Крамбамбуля” — штосьці кшталту квінтэсэнцыі сучаснага беларускага сьцёбу. У “Народным альбоме” яго было зусім крыху. У “Я нарадзіўся тут” сьцёб з прыколамі таксама яшчэ ўкладаліся ў пэўныя рамкі, хоць паўтор гэтага прыёму ўжо выклікаў частковае непрыманьне. “Крамбамбуля” ж напоўненая сьцёбам аж празь берагі. Таму нагадвае новую праграму “Ляпісаў”, адно што па-беларуску...

І закрадваецца сумнеў: а ці здольны будзе Лявон Вольскі адмовіцца ад гэтых бясконцых прыколаў і напісаць штосьці ня горшае за “Простыя словы” з “Народнага альбому”? Ці не адзінай песьняй у “Крамбамбулі”, якая атрымалася па ўсіх пазыцыях, мне падаецца “Абсэнт”. Там няма ані сьцёбу, ані прыколаў, прысутнічае толькі прынцып тонкай, інтэлігентнай стылізацыі. Песьні “Пане Каханку”, “Прадай каня, купі віна”, “Маленькі жаўнерык”, “Савецкае шампанскае” — годна прыдуманыя, напісаныя і ўвасобленыя. Аднак яны саступаюць “Абсэнту” ўжо таму, што паўтараюць тое, што было на ўзроўні і прыёму, і мэтаду адначасова.

І вось тады робіцца сумнавата. Усё ж “ляпісізацыя” (тэрмін ужыты нэўтральна і з павагай да музыкаў-Трубяцкіх) — гэта шлях пройдзены і на фоне раней зробленага выглядае засьмечанай вэлясыпэднай дарожкай. “Зачэм?” — як кажа чалавек, які вырас да таго, што раіць кампазытарам і паэтам, як трэба пісаць нацыянальны гімн. Не зьбіраюся даваць ніякіх парадаў стваральнікам “Крамбамбулі”: гэта непрыгожа. Аднак фактам застаецца тое, што тыя “Паўлітра добрага настрою” ў мяне выклікалі насьцярогу.

Пры гэтым мушу прызнаць: сам праект вельмі своечасовы ў сэнсе станаўленьня сучаснай пацяшальнай (а ня проста папсовай) музыкі ў Беларусі. Ці будуць “Крамбамбулю” купляць? Думаю, так. А гэта значыць, што аўдыторыя ў праекту маецца.

І дзякаваць Богу! Ну, тады налівай!

А чарговы супольны музычны праект прапаную прысьвяціць закусону. Каб прыкол быў ужо поўны. На самы відэлец!

**Слухач-Бадуноў**

дзе варта быць

## “Цацачная крама” ў Варшаве

У Варшаве ў Малым тэатры 11 чэрвеня адбудзецца польская прэм'ера альбому Зьмітра Вайцюшкевіча “Цацачная крама”, створанага на вершы Леаніда Дранька-Майсюка. У канцэрце бяруць удзел супэрскія польскія музыкі — Яцак Клейф і мультымэдыйны гурт “Фабрыка цукерак”.

Яцака Клейфа, лідэра гурту *“Orkestra na zdrowie”*, у Польшчы ведаюць добра і даўно. Адзін з стваральнікаў студэнцкага руху кабарэ ў 1970-х, ён ужо колькі гадоў бярэ ўдзел у беларускіх праектах.

“Фабрыка цукерак” займаецца рэклямай і ладзіць тэатральныя фэстывалі. Для “Цацачнай крамы” гурт рабіў сцэнаграфію. На “Фабрыцы” працуюць усяго два чалавекі — Збышак Алькевіч (актор і рэжысэр) і Дарак “Цукерак” Блашчык (фатограф, гісторык мастацтва, рэжысэр).

***Infarmatar***

# Вярнулася на Бацькаўшчыну

Натальля Арсеньнева. Выбраныя творы. — Менск: "Беларускі кнігазбор", 2002.

Палітыканы савецкае гадоўлі могуць пырскаць сьлінаю ў бок "калябаранткі" Арсеньневай, але ейная "Малітва", напісаная ў самы разгар другое сусьветнае вайны, будзе сьведчаньнем хрысьціянства й патрыятызму паэткі. Мусіць, дзіўнавата Ёй было чуць "Малітву", сьпяваную на царкоўным сьвяце ці на грамадзкай імпрэзе. Мусіць, шчасьліва Ёй было, калі гэты гімн засьпявалі, бадай, ва ўсіх рыма- і грэка-каталіцкіх парафіях Бацькаўшчыны, калі першымі ягонымі словамі быў названы міжнародны фэстываль духоўнае музыкі ў Магілёве... Яна вярнулася на Бацькаўшчыну і ўжо ніколі ня будзе змушанаю пакінуць яе.

Беручы новы зборнік у рукі, людзі зьдзіўляюцца: Арсеньнева — наркамаўкаю? А чаму б і не? Пісала ж паэтка — у гурце зь іншымі творцамі — ад імя заходніх беларусаў ліст "найлепшаму сябру беларускага народу" (быў і такі тытул у Сталіна). Друкавалі ж яе творы наркамаўкаю ў зборніку "Туга па Радзіме. Паэзія беларускай эміграцыі" (Менск, 1992) і — непрацяглы час — у кніжках для школьнікаў.

Доўга чакалі мы такога — самага поўнага — зборніка. І за гэта падзякуем укладальніцы Лідзіі Савік. Ці хутка дачакаемся Збору твораў? З усімі вядомымі нам вершамі, перакладамі, зь лістамі, якія захоўваюцца ў публічных ды собскіх архівах.

Зборнік дае магчымасьць зрабіць пэўныя высновы што да гісторыі нашае літаратуры XX ст. У 30-х яе гонар ратавалі Максім Танк, Натальля Арсеньнева ды іншыя заходнебеларускія паэты, у першае паваеннае дзесяцігодзьдзе — паэты-эмігранты (тая ж Арсеньнева, Салавей, Сяднёў ды інш.), а таксама ўнутраная эмігрантка Ларыса Геніюш. Арсеньнева, якая, паводле Максіма Гарэцкага, была першаю сярод паэтаў Заходняе Беларусі, і Ўладзімер Жылка глядзяцца як роўныя з найлепшымі ўсходнебеларускімі раўналеткамі 20-х. А падчас другое сусьветнае вайны паэзія паднямецкай Беларусі аніяк не прайграе, а мо нават і выйграе ў паэзіі, паўсталай за лініяй фронту (чытайма зноў жа Арсеньневу, Геніюш, Салаўя, Тодара Лебяду ды інш.).

У гэтай кнізе надрукаваныя гутаркі з паэткаю і ейныя ўспаміны. Зь іх можна даведацца, як Арсеньнева ставілася да сваіх калегаў — Жылкі, Танка, Салаўя, Дубоўкі, Пушчы, узвышаўцаў наагул... Менавіта ў іхным шэрагу зьзяе яе імя.

Рэдкі выпадак: паэтка з сымпатыяй апавядае пра сваіх крытыкаў. Натальлі Арсеньневай на іх шанцавала зь першага кроку. Імёны якія: Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Антон Адамовіч! (Дарэчы, на месцы аўтаркі прадмовы, якая піша, што Луцкевіч не прымаў і не ўспрымаў творчасьці сваёй вучаніцы, я парупіўся б давесьці гэта цытатаю. Дый асьцярогся б ставіць у адзін шэраг зь ім Уладзімера Калесьніка.)

"І гэта ўсе заўвагі?" — папытаецца чытач. Ёсьць і іншыя. Датычаць яны й датаваньня твораў (так, верш "На матыў хаўтурнага маршу", надрукаваны ў "Нашай Ніве" ў 1920 г., датаваны годам 1921-м), і камэнтароў (Хелмна, што ля Торуні, у кнізе атаясамляецца з Хелмам (Холмам) і падвышаецца да рангу ваяводзкага цэнтру). Але больш істотнае тое, што чаканая кніга выйшла, што яна можа дапамагчы ўкладальніку й камэнтатару Збору твораў выдатнае паэткі.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Аддзел сустрэчаў

*эсэ*

Калі на небе ёсьць які-кольвек бюракратычны апарат, то ў ім мусова існуе аддзел, што адказвае за людзкія сустрэчы. Тых, хто доўга ня бачыўся, папросту сутыкаюць ілбамі ды з анёльскім замілаваньнем назіраюць, што ж далей будзе... У рэстарацыях, каварнях, бістро, альмарэях я бываю нерэгулярна, таму бальшыня сустрэч адбываецца ці ў транспарце, ці на вуліцы. Цікавасьць да нюансаў чужога жыцьця сягае мізэру, калі ягоны (жыцьця) носьбіт зьяўляецца перад вачыма ня ў самы зручны для цябе момант. Прывітаньні, дзяжурныя фразы, няёмкасьць і адзіная думка: "Колькі ж нам яшчэ прыпынкаў ехаць разам?"

Цёпла. Але кіроўца на нешта ўключыў абагрэў у салёне. Гутару з колішнім аднаклясьнікам, што пасьля 9-е клясы пайшоў іншымі дарожанькамі. Уручае візытоўку. Фірма "Рэспэкт". Інжынэр па абслузе кампутарнай тэхнікі. Хто на што вучыўся. Лёха яшчэ за Гарбачовым ў школу ўсякія драбязкі на мікрасхемах цягаў. За дзесяць гадоў мала што зьмянілася. "Наташка Шатула ў Менску ў асьпірантуры", — паведамляе ён вядомую мне інфармацыю пра нашую паўклясычную выдатніцу, што скончыла аддзяленьне замежных моваў ГДУ. Калісьці мы ўсе былі малыя ды сьмешныя, і вельмі простым было паспрачацца дзьвюм дзяўчынкам, з каторай сядзе за парту *гэты хлопчык*. І ўсё было лёгка вырашаць. Гэта дарослыя нам падорацца спачатку чырвоныя гальштукі, а потым Фройда зь Юнгам ды навучаць яшчэ трымаць у кішэні дулю.

Абсалютна безь ніякіх дуль ды іншых "авашчэй і фруктаў" сустракаю яшчэ аднаго школьнага таварыша, зь якім скончаў 11"А" клясу ў векапомным 94-м. Тады Андрэй заміж паступленьня матлянуўся на месяц у Нямеччыну. Таму штудыі на гістфаку пачаў браць толькі праз год. Цяперака ж Андрэй вярнуўся з войска. Служыў "пагранцом" у Смургонях. Усьміхаецца й кажа пра зьніклы цяжар над галавой. Я таксама гэтак пасьля "армейкі" гаварыў. У школе "дэмбель" працаваць не зьбіраецца. Распавядае пра маленькі гешэфт у Рэчыцы, зьвязаны з кніжным шапікам. "Па знаёмстве?" — пытаюся проста. "Яснае дзела", — проста адказвае той.

Зь нейкіх прычынаў (мабыць, перад праверкаю Начальства) нябесныя чыноўнікі ладзяць адмысловыя дні, што становяць сабою доўгі шэраг *выпадковых сустрэч*. Заходжу ў крыты рынак і шпацырую без парасона пад дажджом зазыванак прыдбаць цяляцінкі, паляндвічкі ці "васхіцільнай каўбаскі". Між мясным і рыбным прылаўкамі бачу знаёмы твар. Затрымліваю позірк, і мяне пачынае "глючыць": я ведаю, што гэты хлопец вучыўся на першых двух курсах разам са мною, але не магу згадаць ні імя, ні прозьвішча, ні нават мянушкі. Мабыць, і ён у такім самым становішчы. Але ж балбочам. Я пра школу, дзе працую. Ён пра ЦЭЦ, дзе робіць. Згадваем супольных знаёмцаў, чые імёны яшчэ не зацярушыліся... Цераблю свой шлях далей, выходжу на паветра, дзе пахне таварам і грашыма. Аліўкі, памаранцы, ашуканцы. Чакалядкі, пракладкі, асадкі. Ападкі ў выглядзе кароткачасовага (30 сэкундаў) дажджу цыганскага — прывітаньне ад нябесных бюракратаў. Чалавек у белым, вязаным клапатлівымі рукамі, швэдры. *Гэтага дзядзьку я ведаю*. Саслужбовец. Разам у Ваўкавыску лямку цягнулі. Дзьмітру было тужэй, бо ў Гомелі заставаліся ягоныя жонка з трохгадоваю донечкай. Цяпер яны побач. Жонка за прылаўкам згортвае дзённы гандаль. У нас жа паўтараецца папярэдні дыялёг. Дадаецца толькі супольная затрымка заробкаў — у іх, вытворцаў (Дзьмітры шчыруе на "Будматэрыялах"), і ў нас, бюджэтнікаў. Дабаўляецца Лука. Дастасоўваюцца згадкі пра нашых колішніх "дзядоў" і "чарапоў". Між іх успамінаем і апошняга гомельскага габрэя Яўгена Міцюрыча.

Яго я згледжу літаральна праз 15 хвілінаў добрага настрою, жуючы дзяжурную піцу й сёрбаючы халоднае "Дняпроўскае". Наш найкруцейшы (з-за жыдоўскае кемнасьці) "дзед" топчацца сюды-туды за вітрынай "Бярозкі". Той самы ашчэр-усьмешка і адсутны зуб. Што дзіўна, бо легенды казалі, што на дэмбель Жэня павёз 500 даляраў і дзьве кайстры зэкаўскіх майстрункаў. На зуб гэтага мусіла хапіць! Старая жанчына праз пару хвілінаў аддае яму стосік фіялетавых паперак, і Міцюрыч разам з прыяцелем хаваецца зь відавоку. Дзяўчына ж, якая бяскрыла залятае ў "Бярозку", зусім мяне не прыкмячае з-за нізкага зроку ці яшчэ якой прычыны й крочыць далей ад піро жных і салодкай вады. Толку, што я пазнаю яе? Не азываюся, каб не рабіць дарма чужой работы.

**Сяргей Балахонаў**



"Дэсант "Чорнага ястраба" ў Менску

# Нашы і немцы ў Самалі

Падчас прагляду фільму Рыдлі Скота "Дэсант "Чорнага ястраба" мне згадаліся хранікальныя кадры лістападаўскага параду 1937 г. у Менску: на фоне Дому ўраду стаяць гішпанкі-эмігранткі ды са шчасьлівымі ўсьмешкамі трымаюць транспарант: "Лепей быць удавой героя, чым жонкай баязьліўца!". Верагодна, з такім самым транспарантам маглі б прыйсьці на прэм'еру фільму Рыдлі Скота ўдовы тых 19-ці жаўнераў, гераічнай пагібелі якіх прысьвечаны "Дэсант "Чорнага ястраба". Бо амэрыканскія спэцназаўцы ў фільме — зусім як героі-панфілаўцы: каротка стрыжаныя і прыгожыя, гавораць палкія прамовы, трымаюцца вайсковага статуту і пад шквальным агнём паводзяць сябе, бы джэнтэльмэны. А камандзіры — ад генэрала да сяржантаў — ставяцца да падначаленых як да родных дзяцей. (У найлепшых традыцыях "Партызанфільму"! Пэўна, Рыдлі Скот паглядзеў дзеля натхненьня "Доўгія вёрсты вайны" ці "Чорную бярозу".) Псуюць гэтую ідылію адно несьвядомыя самалійцы (тыповыя "беларусьфільмаўскія" немцы), якія замест таго, каб дзякаваць амэрыканскім міратворцам, страляюць у іх з "калашоў" і гранатамётаў РПГ-7.

У Галівудзе любяць здымаць фільмы, заснаваныя на рэальных падзеях. "Дэсант "Чорнага ястраба" апавядае пра тое, як у кастрычніку 1993-га амэрыканскі спэцназ "Дэльта" паспрабаваў арыштаваць у Магадыша генэрала Айдыда, самалійскага аналяга бэн Ладэна. Рота "джыаяў" пад прыкрыцьцём эскадрыльлі "Чорны ястраб" уварвалася ў цэнтар самалійскай сталіцы, схапіла ўсіх падазроных чарнаскурых у падазроным доме, а на зваротным шляху трапіла ў "агнявы мех". Узбуджаныя тубыльцы абкурыліся "травой", схапілі зброю і пачалі страляць ва ўсё, што рухаецца. Словам, знайшлі амэрыканцы прыгоды на сваю галаву — перабілі тысячу самалійцаў (якіх зусім не шкада, бо яны практычна не адрозьніваюцца ад малпаў, крычаць і бягуць пад кулі) і страцілі два дзясяткі сваіх (фільм дае магчымасьць паплакаць па кожным).

Калі меркаваць па "Дэсанце", у ЗША няма іншага клопату, акрамя як накарміць галодных афрыканцаў і зьняволіць супэртэрарыста. Бяда ў тым, што такія стандарты насамрэч пераважаюць у амэрыканскай замежнай палітыцы наагул. У Вашынгтоне мяркуюць, што арышту правадыра дастаткова, каб дэмаралізаваць усіх тэрарыстаў. На ловы выдаткоўваюцца мільярды баксаў, чалавечыя ахвяры сягаюць тысячаў, а вынікаў — пшык!

Рыдлі Скот хацеў зрабіць гераічную сагу, якая ўславіла б амэрыканскія ўзброеныя сілы. Але ня здолеў перахітрыць уласны талент. У выніку атрымалася выключная антыгероіка, якая на найвышэйшым мастацкім узроўні даводзіць, што ўсякая вайна — гэта купа памылак, з-за якіх праліваецца шмат крыві.

Часам фільм нагадвае брытанскія карціны 1930-х, у якіх купка адважных жаўнераў з кулямётамі перамагае процьму нэграў-бунтаўнікоў. (Такія фільмы любіў Гітлер.) Кароткі эпізод з палётам эскадрылы над узьбярэжжам прымушае згадаць аналягічную сцэну з "Апакаліпсысу сёньня" Копалы. "Баявыя" сцэны "Дэсанту" падобныя да адпаведных эпізодаў Сьпілбэргавага "Выратаваньня радавога Раяна", хоць маюцца й адрозьненьні. Так, у Сьпілбэрга разьня займае паўгадзіны на пачатку і чвэрць гадзіны пры канцы, а ў Скота, адпаведна, першыя паў- і апошнія чвэрць гадзіны не страляюць.

Верагодна, празь дзесяць гадоў Рыдлі Скот здыме фільм пра безвыніковы штурм масіву Тора-Бора ў Аўганістане, дзе бэн Ладэна так і не знайшлі. А мо з часам расквітнее самалійскі кінэматограф, і мы ўбачым кіно, у якім амэрыканцы будуць тупымі забойцамі, а самалійцы — сумленнымі партызанамі. У кіно ўсякае бывае!

**Ягор Конеў**

## дзе варта быць • выставы

### Жанчыны

**8 чэрвеня галерэя "Зямля людзей" (Менск, Рэвалюцыйная, 13) пачынае новы праект — "Жанчыны".** Гледачы пабачаць жывапісныя палотны, малюнкі, эскізы, фатаздымкі. Прастора галерэі прапанаваная студэнтам 4-га курсу Беларускай акадэміі мастацтваў – Алене Івановай, Тацяне Кандрацэнцы і Дзянісу Хімароду. Для маладых мастакоў гэта першы досьвед работы над тэматычнай выставай. І гэта першая магчымасьць для студэнтаў-мастацтвазнаўцаў Эльвіры Істамёнак, Сусаны Дарбінян, Ларысы Кісель, Тацяны Тушынай выявіць сябе ў якасьці куратараў арт-праектаў. Галерэя спрабуе рэалізаваць эўрапейскі досьвед, калі мастак і мастацтвазнаўца, куратар і крытык не стаяць па розныя бакі барыкадаў, а працуюць сумесна. Выстава працягнецца да 29 чэрвеня. Даведкі па т. 210-59-29, 220-03-64; e-mail: intloto@open.by.



Тацяна Кандрацэнка. "Эмацыйная"

### Твары ВКЛ

**У Музэі гісторыі і культуры (Менск, вул.Маркса, 12) ідзе выстава "Гістарычны партрэт Вялікага княства Літоўскага XVI—XVIII ст.".** У залях — больш за 50 партрэтаў, многія зь якіх раней не выстаўляліся. Жывапісны шэраг дапоўнены рарытэтнымі кніжнымі выданьнямі з Музэю гісторыі рэлігіі. Выстава працуе штодзённа, акрамя серады, з 11-ці да 18.45 Даведкі праз т 227-43-22

Аляксей Бацюкоў

# СПАКОЙНЫЯ ВОЧЫ, *таропкія рухі*

Стары і маладая дзяўчына пакляліся адно аднаму ў вечным каханьні. Твар старога быў зьедзены зморшчынамі, скура дасягнула той нежывой белі, калі вены і сухажыльлі пакідалі на тыльным баку далоні доўгія жоўтасінія разводы. Дзяўчыне было дваццаць чатыры гады. Яны зьнялі кватэру на старой вузкай вулачцы, у старым рыпучым трохпавярховіку і сталі там жыць. Стары ўжо нідзе не працаваў, ягонае пэнсіі ледзьве хапала на ежу і новыя відэакасэты — дзяўчына любіла галасы старых фільмаў і зрэдчас фантастыку. Найбольш яны ляжалі на канапе. Дзяўчына распраналася, і на гладкіх выгінах ейнага цела гралі водбліскі тэлевізіі, стары лашчыў рукой гэтыя водбліскі, дрыготка сьціскаючы пальцамі смочкі, і часам прыкладаў свой твар да ейнага шырокага пляскатага жывата. Яны не любілі захінаць фіранкі ўвечары, і аднойчы іх заўважыў малады чалавек, які паліў на бальконе насупраць. Выпадкова кінуўшы позірк у асьветленае акно, ён адразу адвярнуўся, але потым паглядзеў ізноў. Яны ляжалі нерухома, бляклыя лапаткі старога тырчэлі ўверх з той самай разьняволенасьцю, што й расслабленыя грудзі дзяўчыны. Стары разглядаў сваю руку. Дзяўчына гуляла са сваімі валасамі. Так ляжалі яны ўвесь вечар, малады чалавек выходзіў паліць кожныя паўгадзіны і назіраў за імі. А першай гадзіне ночы сьвятло ў пакоі згасла: стары ўзьняў руку над ложкам і, не адразу намацаўшы кнопку, выключыў бра.

Скрозь цёмнае акно малады чалавек яшчэ згледзеў, як стары прыўзьняўся, абапіраючыся на локаць, і нахіліўся над дзяўчынай. Ягоны профіль выразна адбіваўся на фоне падсьветленай вулічнымі ліхтарамі сьцяны. Празь некалькі хвілінаў пачуўся дзявочы стогн. Малады чалавек выкінуў цыгарэту, каб не выдаваць сябе агеньчыкам, і застаўся стаяць на бальконе. Стогн чуўся яшчэ колькі разоў.

Назаўтра малады чалавек, вярнуўшыся ўвечары дадому, адразу выйшаў паліць. Яны ляжалі, абдымаючы адно аднаго, дзяўчына вяла рукой уверх па руцэ старога. На яе твары ўздрыгнулі мускулы, калі пальцы дасягнулі пляча, і яна павяла руку ўніз. Некалькі разоў малады чалавек заўважаў, што яго б'юць дрыжыкі.

Аднойчы раніцай малады чалавек пабачыў старога на вуліцы, каля пошты. Той паралічваў атрыманую пэнсію. Юнак зьдзівіўся, наколькі нэрвовыя былі ягоныя рухі. А пабачыўшы праз увесь зморшчаны твар чырвонасінюю пляму, малады чалавек папросту спалохаўся. Гэтым вечарам ён ледзьве дачакаўся цемры, каб яшчэ паглядзець на дзіўную пару.

Калі ўключылася сьвятло, стары нерухома ляжаў. Дзяўчына, быццам падуладная гэтай нерухомасьці, быццам зьнесеная нетаропкай, цяжкой плыньню некуды бясконца далёка, глядзела ў акно, а пасьля схавала твар у паросльх сівым валосьсем грудзях старога. Цяпер яны не выключалі сьвятла ўсю ноч, толькі стары прыхаваў вочы рукой. Поза, у якой ляжала дзяўчына, зьмянілася аднойчы — яна пагладзіла старому шыю і апусьціла галаву на ягоную руку.




*брыдкае апавяданьне*

Яшчэ чатыры дні малады чалавек, не хаваючыся, сачыў за імі з балкону. Ён запомніў целы старога і дзяўчыны, усю веліч розьніцы паміж імі і, вяртаючыся пасьля працы да акна, ужо мог прадбачыць, як яны будуць ляжаць і як грудзі дзяўчыны мякка і крыху бязвольна ссунуцца ўніз, утрыманыя локцем альбо пальцамі старога. Ён мог прадбачыць, як водбліскі тэлевізіі ўсьлізнуць па аголеных сьцёгнах і прыкрытых павеках. На пяты дзень нечаканая трывога прымусіла маладога чалавека ўглядацца ў асьветленае акно ўвесь вечар — яны ляжалі гэтак сама, як ён запомніў іх зь мінулае ночы, нерухомай засталіся нават коўдра, прасьціна і рэшткі віна зь ежай на століку побач зь дзяўчынай. Днём сонца ва ўсю неспакойную моц залівала акно, малады чалавек ледзьве дачакаўся вечара і заспаў іх у той самай позе. Назаўтра днём ён памахаў рукамі і нават пагукаў, ледзь-ледзь выглядаючы праз водбліскі на шкле няясныя твары. Дзяўчына глядзела, здавалася, у самыя вочы, але ніхто ў пакоі не варухнуўся. Стары нібыта яшчэ больш скамянеў. Тады малады чалавек пайшоў званіць ім у дзьверы. Ён прыдумаў, што папросіць запалак. Ніхто ніяк не азваўся. Маладому чалавеку стала ніякавата. Яшчэ дзень, напружаны й разгублены, ён назіраў за кватэрай і нарэшце ўначы прыйшоў ускрыць замок.

Калідор быў асьветлены з пакою. Расчыненыя кухня й прыбіральня азваліся на асьцярожныя крокі ціхім пуставатым рэхам. Пад нагамі зашархацелі дрэнныя жаночыя боцікі, малады чалавек ссунуў іх са шляху і прайшоў у пакой. Бра на сьцяне пакідала ў паўзмроку ці ня ўсе куты, адкідаючы шырокую сьветлую пляму толькі на ложак. Тэлевізар ужо не працаваў, відэамагнітафон быў уключаны, зь яго тырчэла касэта. Стаяў цяжкі аміячны смурод. Усьцяж пакою нетаропкай хваляй ад уваходу да акна цягнуўся пыл. На процілеглай ад ложка сьцяне віселі некалькі малюнкаў, нібыта зробленых дзіцячай рукой: лініі нярэдка не сыходзіліся, падалі за край аркуша. Малады чалавек паглядзеў на ложак і заўважыў, што ня можа засяродзіць пагляд на целе старога, яно нібыта распаўзалася ў вялікую белую пляму, не губляючы сваёй сухасьці. Малады чалавек крануў руку старога — той быў мёртвы і амаль вывальваўся з абдымкаў дзяўчыны. Яна спала, хоць аднойчы, здалося, прыадкрыла вочы. Малады чалавек выходзіў на кухню, зачыняў дзьверы — разумеў, што ніяк ня можа спыніцца на адным месцы. Нарэшце ён вярнуўся ў пакой і паспрабаваў паклікаць дзяўчыну, каб паказаць ёй, што стары памёр. Спакваля яму падалося, што поціск ейных рук аслаб, яна дыхала гэтак жа мякка, але ўжо нібыта ўважліва. Малады чалавек счакаў яшчэ. Паціху прайшла ўсякая ахвота перашкаджаць дзяўчыне спаць, адначасова вярнулася лёгкая зайздрасьць, затым злосьць. Цяпер малады чалавек ня так добра разумеў сам сябе. Найперш, ён нікуды не зьбіраўся паведамляць пра сьмерць старога, наадварот, яму хацелася стаіць яе і наагул закрыць гэтую кватэру ад любога пранікненьня. Гэта было самае простае з таго, што адчуваў малады чалавек. Усьведамляючы, што гэтаму цяжка будзе знайсьці апраўданьне, ён падняў старога й занёс у ванны пакой, у саму ванну. Цела старога азывалася разьняволенай паслухмянасьцю, холадам, але чамусьці прыемна было трымаць гэты вытанчаны цяжар.

Перш чым вярнуцца ў пакой, малады чалавек доўга мыў рукі, шыю і твар проста вадой, бо мыла нідзе не знайшлося. Ваду ён пакінуў уключанай.

Дзяўчына цяпер ляжала ў ложку зусім ня так, яна завяла рукі на вызваленае месца і зьлёгку ўздрыгвала, цягнучыся тварам туды. Ціха, асьцярожна, але вельмі хутка малады чалавек распрануўся і лёг побач, пад самыя рукі. Дзяўчына застыла, не раскрываючы вачэй і стрымаўшы подых. Вусны зьдзіўлена загулялі. Сваімі вуснамі малады чалавек наблізіўся да іх і тут толькі адчуў водар віна. Ужо цяпер сьмела ён пачаў лашчыць яе плечы і грудзі таропкімі, асьцярожнымі рухамі, потым жывот. Раптам дзяўчына раскрыла вочы, і тады малады чалавек наваліўся на яе зьверху, упіўшыся губамі ў шыю, знаходзячы свой шлях і сваю першую асалоду. Яна схапіла яго за валасы, упілася пазногцямі ў сьпіну, ён адкінуўся, ледзьве стрымліваючы ўскрык, і тут толькі пабачыў на паліцы пад самым ложкам фатаздымак у рамцы: там быў стары і гэтая дзяўчына — у цёмных акулярах, зь белай тонкай палачкай у руках, як звычайна ходзяць сьляпыя. Зьвязаўшы гэты здымак і застылыя нерухомыя вочы дзяўчыны, малады чалавек нечакана адчуў лёгкія канвульсіі ўнізе і адскочыў. Дзяўчына выпусьціла яго, пакінуўшы некалькі драпін на сьпіне, і засталася так ляжаць, разгорнутая, набраклая, з адкрытымі павекамі. Чаканая спустошанасьць разьлілася па ўсім целе маладога чалавека, і яна ж, нібы бурбалка ў вадзе, выцягнула яго ўверх з ложка і з пакою. У калідоры малады чалавек спатыкнуўся аб пустыя бутэлькі. Дзяўчына толькі цяпер загаварыла:

— Саша? Саша?

Малады чалавек выбег на лесьвічную пляцоўку, павагаўся і схаваўся дома. Гэтым днём ён не прыслухоўваўся ні да якіх гукаў, увечары сышоў і зрабіў усё, каб два дні запар не вяртацца дамоў. Ад суседзяў потым даведаўся, што старога знайшлі ў ваньне, поўнай вады, і што ён памёр ад сэрца. Пра дзяўчыну не казалі нічога. Ён болей ніколі яе ня бачыў, але часам узгадваў.

— казкі жыцьця —

# Летні пэчварк



Пад вечар прамяні жоўтага сонца робяцца шырэйшымі і прабіваюцца скрозь шчыльна прыгнаныя зялёныя лапікі дрэваў, як доўгія стужкі пэчварку, што яднаюць блёкі ў адно цэлае.

Пэчварк — адмысловае жаночае рукадзельле! Нешта — зь нічога. Лад — зь бязладзьдзя. Вялікая, грунтоўная рэч (дыван ці покрыва) — зь бязважкіх лапікаў, абрэзкаў.

Іду праз утульны, ціхі, улагоджаны пад канец летняга дня менскі сквэр па роўнай дыяганальнай дарожцы з акуратна ўкладзеных ружовых прастакутнікаў. І ўяўляю сябе кузуркай — кшталту мушкі-зелянушкі ці божае кароўкі, што коўзаецца, перабіраючы лапкамі, па бязьмежнай, накрухмаленай паверхні лапікавай коўдры. Сыстэмнай і дасканалай, як і кожны Божы твор.

“Калі б я рабіла пэчваркавы дыванок пад сёньняшні настрой, — кажу я мэталёваму хлопчыку зь непаслухмяным лебедзем у самым цэнтры сквэру-коўдры, — я б узяла жоўтую, як сонца, зялёную, як дрэвы, сінюю, як неба, тканіны. А яшчэ — крыху белай і чорнай. І назвала б гэты дыванок “Менскі пэчварк”.

Ружовага колеру ў свой тэкстыльны выраб я ня ўводзіла б. Больш за тры колеры (плюс белы і чорны) наша выкладчыца пэчварку, круглатварая, як сонца і поўня, спадарыня Вольга, уводзіць у твор ня раіць. А настаўніца спадарыні Вольгі вучыць нас ставіць у правым ніжнім куце вырабленага палатна знак свайго жаночага імя, падобны да гальдраставу — вязаных рунаў, і год выкананьня. Дзіўна глядзяцца яны побач: заўчорашчына і цяпершчына!

Што да ляпідарнага пэчварку, дык найстаражытнейшы такі выраб знайшлі ў грабніцы эгіпецкага фараона, баіць спадарыня Вольга — і робіць свае чорныя вочы вузкімі і загадкавымі, уладарна прыжмурваючыся...

На круглым сталe рыцараў Ордэну Паўночнага Храму ў менскім Палацы моладзі (у часе паміж фэстамі-бітвамі Круг ператвараецца ў зручны стол для дзяўчат-швачак) я на свае вочы бачыла шматслойныя фрагмэнты рыцарскага ўбраньня, прашытыя знаёмым буйным швом. Пад жалезнай шкарлупінай рыцара — мяккі бялок пульхнага тэкстылю і вялікае сэрца-сонца. Жоўтае і жыцьцядайнае, як жаўток.

Яйка — аб'ёмны, трохмерны, ідэальны пэчварк Бога.

Ня ведаю, ці займаліся пэчваркам у старажытнасьці мужчыны, але цяпер жанчынам у мастацтве пэчварку дапамагае кампутар — аналяг інтэлектуальнага, маўклівага і сьвятланоснага мужчыныбога.

У вольны ад будзённага клопату дзень можна закрыцца ў пакоі ад усіх і крыху папэчваркацца — заняцца капітальна “кампілятыўным” лапікавым шытвом. Выбраць адзін з тысячаў узорных блёкаў з праграмнае бібліятэкі, надрукаваць на прынтэры у патрэбным памеры, разьлічыць, нарэзаць і сшыць стракатае, як жыцьцё, палатно. На традыцыйнай папяровай падложцы.

...Суседка паехала на лецішча — вычварацца з кветкамі і градамі. Гэта ейнае лапікавае шытво, ейны любімы пэчварк.

**Людка Сільнова**

